**Адрас рэдакцыі:** 220050. Беларусь, г. Мінск, вул К.Маркса, 6-36.

**Тэл./факс** (017) 220-73-74

**E-mail:** ngo@user.unibel.by
http//ngo.home.by

Тыраж 299 экз.

# Змест

*Валерый Карбалевіч,*
*галоўны рэдактар*

# Да чытачоў

Перад вамі першы нумар новага часопіса. Вядома, што кожнае выданне павінна задавальняць пэўныя грамадскія запатрабаванні. У Беларусі выходзіць некалькі часопісаў, якія спецыялізуюцца ў сферы гуманітарных навук і якія выдаюцца недзяржаўнымі даследчымі інстытутамі і цэнтрамі. Аднак яны не запаўняюць вакуум у сэнсе аналітычных матэрыялаў. Неабходнасць у іх дыктуецца аб'ектыўнымі гістарычнымі ўмовамі, у якіх апынулася наша грамадства. Вопыт іншых дзяржаў сведчыць, што чым вастрэйшы крызіс, у якім знаходзіцца краіна, тым большая патрэба ў глыбокім філасофскім, паліталагічным, сацыяльна-эканамічным, псіхалагічным асэнсаванні працэсаў, якія адбываюцца пошуках выхаду, прагназаванні перспектыў. Можна казаць з поўнай акрэсленасцю, што наша грамадская думка пакуль яўна адстае ад асэнсавання таго беларускага феномена, ці беларускай анамаліі, аб якім кажуць усе замежныя даследчыкі. Адказы айчынных аналітыкаў на інтэлектуальныя выклікі, спароджаныя спецыфічнай формай працякання сістэмнага крызісу, своеасаблівым абліччам працэсаў трансфармацыі, яўна неадэкватныя.

Мы далёкія ад саманадзейных прэтэнзій на папаўненне існуючага вакууму. Мы не прэтэндуем на тое, каб быць канкурэнтамі ўжо існуючых выданняў. Наш часопіс – толькі адзін блок у інтэлектуальным праекце будаўніцтва Новай Беларусі, станаўлення дэмакратычнага, свабоднага і гуманнага грамадства.

Сфера праблемаў, якія будуць абмяркоўвацца на старонках часопіса, самая разнастайная: эканамічны і паліталагічны аналіз працякаючых у краіне працэсаў, сацыялагічныя даследаванні, праблемы беларускай дзяржаўнасці і г.д. Асобая ўвага, як гэта вынікае з назвы часопіса, будзе ўдзелена праблемам фарміравання грамадзянскай супольнасці, тэндэнцыям у развіцці «трэцяга сектара», аналізу дзейнасці НДА. У выданні будуць пастаянныя рубрыкі: «Галасы рэгіёнаў», «Трыбуна маладых», «Дыскусійная трыбуна» і інш.

Акрамя таго, прадугледжваецца выпуск тэматычных нумароў, прысвечаных актуальным праблемам сацыяльна-палітычнага развіцця Беларусі. Як правіла, такія нумары будуць вынікам навуковых канферэнцый, семінараў, «круглых сталоў». У прыватнасці, першы нумар зроблены па выніках канферэнцыі, прысвечанай распрацоўцы нацыянальнай ідэі і праведзенай па праекту Стэфаніі Каліноўскай.

Часопіс «Грамадзянская альтэрнатыва» разлічаны на даследчыкаў, выкладчыкаў, лідэраў і актывістаў партый, НДА, студэнтаў, усіх тых, хто цікавіцца сацыяльна-палітычнымі праблемамі, пытаннямі станаўлення грамадзянскай супольнасці ў РБ. Ён будзе распаўсюджвацца бясплатна па буйнейшых бібліятэках, праз структуры Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый, па іншых адрасах. Найбольш цікавыя публікацыі будуць перакладацца на англійскую мову і змяшчацца ў Internet.

Наша выданне павінна стаць трыбунай для вольнай дыскусіі. Меркаванне аўтараў артыкулаў не абавязкова павінна супадаць з думкай рэдакцыі. Мы запрашаем усіх зацікаўленых да творчага супрацоўніцтва.

З найлепшымі пажаданнямі ВКарбал



*Юрась Ліхтаровіч, Уладзіслаў Іваноў,*
*студэнты Еўрапейскага Гуманітарнага Універсітэта*

# Беларуская нацыя: міф альбо рэчаіснасць
## (яшчэ адзін погляд на старую праблему)

## Уводзіны

На першы погляд такая пастаноўка тэмы — досыць дзіцячая, бо зразумела, што калі існуе на мапе свету краіна з назвай «Беларусь», дык яшчэ больш верагодна, што існуе гэткая нацыя. На жаль альбо на шчасце, у гэтым выпадку Беларусь — даволі складаны прыклад і насамрэч мы не ведаем, дзе штучныя ўмовы стварэння нашае нацыі, дзе натуральныя. Маю на ўвазе рахманасць і слабасць нацыянальнага руху на мяжы стагоддзяў, уплыў расійскіх і польскіх элементаў на фарміраванне беларускай сучаснай дзяржаўнасці. А адсюль — усе праблемы і недарэчнасці звязаныя з вызначэннем тэрміна «беларуская нацыя», яе характарыстык.

Нам здаецца, што пытанне "Ці прадстаўляе беларуская нацыя міф альбо рэчаіснасць?" натуральна вынікае з грамадскай, палітычнай думкі, што існавала і існуе на абшарах нашай залежнай-незалежнай краіны. Як вядома, тут панавалі дзве галоўныя канцэпцыі: «западноруссизм» і уласна нацыянальны беларускі рух. Калі першы прапагандаваў ідэю непаўнавартасці беларусаў (згодна тэорыі "западноруссизма", нацыя беларусаў — міф, беларусы складаюць адну з прыступак расійскага вялікага народа), дык другія выказваліся за поўную адпаведнасць паказчыкам, прынцыпам нацыі. Мінула больш за стагоддзе з таго моманту, калі панавалі падобныя думкі, калі «западноруссизм» прымаўся афіцыйна за адзіны слушны погляд (часы губернатарства Мураўёва, Каяловіча), але ж і сёння, пасля таго, як 70 гадоў таму камуністы прызналі беларускую нацыю, мы бачым, што калісьці непахіснае сцвярджэнне ставіцца пад сумнеў. Вядомыя інтэграцыйныя працэсы не з'яўляюцца «вышэйшай формай» развіцця нацыі, як гэта сцвярджаюць афіцыйныя ўлады (у прыватнасці спадар прэзідэнт). У дадатак, размовы прэзідэнта і іншых вышэйшых асобаў наконт недасканаласці беларускае мовы яшчэ раз падкрэсліваюць крэўную повязь сучаснай афіцыйнай ідэалогіі з далёкім «западноруссизмом». Як мы здагадваемся, «вышэйшая форма» развіцця нацыі, пра якую гавораць некаторыя палітыкі, мае на ўвазе росквіт нацыі і адсутнасць хаця б большасці праблемаў (эканамічных, сацыяльных і культурных). Насамрэч, моўная праблема альбо яе адсутнасць для ўлады сведчаць пра тое, што Беларусь далёка не падрыхтаваная да інтэграцыі, яна яшчэ для гэтага не саспела. Наўрад ці хаўрус з Расіяй дапаможа вырашыць фундаментальныя мясцовыя праблемы. Чаму? Адказ просты: эканамічны крызіс, непрафесійнасць тых жа расійскіх палітычных структураў, якія па сёння працягваюць дзяліць, набаўляць уласныя рэгіёны. Куды лепш звярнуць увагу на пасляховыя эксперыменты, ужытыя на Захадзе (Бельгія, Аб'яднанае Каралеўства, Іспанія альбо суседняя Польшча).

Таму зараз прапануем звярнуць увагу на вытокі тэорыі, якая апісвае і тлумачыць розныя шляхі ўтварэння нацыі.

## 1. Пытанне нацыі напрыканцы 20-га стагоддзя

> «З усіх светапоглядаў і веравызнанняў, якія змагаліся за душы людзей у сучасным свеце, найбольш распаўсюджанай і трывалай з'яўляецца нацыянальная ідэя».
>
> **Энтані Сміт.**

Здаецца, у канцы дваццатага стагоддзя пытанне нацыі згубіла сваю моц. На сённяшні час яна паступова змяняецца пост- і над-нацыянальнымі разуменнямі і псіхалагічнымі паняццямі ідэнтычнасці і самасвядомасці. На падставе абранае калектыўнай тоеснасці арганізуецца працяглае калектыўнае дзеянне. На змену «дзяржаве-нацыі» прыходзяць розныя наднацыянальныя і наддзяржаўныя ўтварэнні альбо групы людзей. Чалавецтва спрабуе адхіснуцца ад гэтай вельмі прывабнай, але ж і вельмі крывавай ідэі. Аднак пакуль што яна застаецца непераможнай – «ні адна іншая не праяўлялася ў такіх разнастайных абліччах і не переважывала часовы занепад толькі дзеля таго, каб пасля стаць яшчэ больш моцнай і трывалай»[1]. Нават цяпер, людзі перш за ўсё атаясамліваюць сябе са сваёй нацыяй, іх жыццё рэгулюецца перадусім нацыянальнай дзяржавай. Нешта халісцкае з'яўляецца ў гэтым: чалавек нікуды не варты без свайго нацыянальнага разумення (identite). Гэты працэс пачынаецца з дзяцінства, калі ў нас выхоўваюць любоў да краіны і вучаць шанаваць асаблівыя вартасці нашай нацыі. На першы погляд здаецца, што яны не займаюць галоўнага месца ў светапоглядзе чалавека і застаюцца прыгожай карцінкай. Але ж пры тым у час крызісу гэта можа ўзрушыць чалавека, мабілізаваць яго, што выразіцца ў палкай адданасці краіне і гарачым падпарадкаванні грамадзянскаму абавязку. Напрыклад, зараз у сучасным свеце, дзе нацыі няма жыцця, аднак існуе раздзяленне паміж рэсурснымі (інфармацыйнымі) патокамі на сусветным рынку і культурна-нацыянальнай ідэнтыфікацыяй. Такім чынам, славенцы і харваты, трымаючыся сваёй незалежнасці, жадаюць інкарпаравацца ў адзіны еўрапейскі рынак раней за македонцаў альбо чарнагорцаў. Яны маюць на мэце спалучыць непасрэдны ўдзел у еўрапейскай эканоміцы з захаваннем сваіх нацыянальных асаблівасцей (гэтаксама і фламандцы, каталонцы і жыхары Квебека).

Таму самы час узняць пытаньне – што ж такое нацыя, нацыянальная ідэя? Адкуль яна пайшла, паўстала? Ці было гэта нешта натуральнае, уласцівае чалавеку альбо гэта штучна створанае дзяленне людзей? Тады кім, калі і як створанае?

---

[1] Энтані Сміт. Нацыяналізм у 20-ым стагоддзі. Мінск: Беларускі фонд Сораса, 1995.

## A. Класічныя тэорыі

Існуюць класічныя падыходы да тлумачэння гэтага паняцця. Разам мы і разгледзім іх. Адрозніваюць 2 асноўныя падыходы: французскі (палітычны) і нямецкі (культурны). Першы погляд звязаны з ідэяй палітычнай, альбо грамадзянскай, нацыі, якая з'явілася ў Заходняй Еўропе; другі – распрацоўвае «этнічную» канцэпцыю ўтварэння нацыі, якая выйшла з нямецкай традыцыі (у больш глабальным сэнсе — усходнееўрапейскай). Яна заснавана на трох наступных прынцыпах: спадкаемнасць (гістарычная), культура і агульная мова.

Першая тэорыя фарміруецца пад уплывам стварэння палітычных супольнасцей са стабільнымі межамі, палітычнымі інстытутамі, якія і паспрыялі нараджэнню нацыянальнай ідэі. Дзяржаўныя інстытуты паступова замацоўваліся ў краінах Заходняй Еўропы (Вялікабрытаніі, Францыі, Іспаніі) яшчэ з часоў Сярэднявечча. Бачаць зараджэнне нацыянальнай ідэі ў Францыі і Англіі яшчэ ў часы Стагадовай вайны, калі яны сталі супрацьстаяць адзін аднаму, і ў Іспаніі канца 15-га стагоддзя, з заканчэннем каталіцкай Рэканкісты, калі выгнанне габрэяў і мусульманаў было адначасова інструментам і сімвалам.

Гэтыя краіны мелі падобную гісторыю з'яўлення нацыянальнай ідэі. Замацаванне палітычных і дзяржаўных структур у адносна стабільных межах спарадзіла нацыянальную еднасць і нацыю. Нават змяненне палітычнага рэжыму не змагло разбурыць яе, як казаў Э. Рэнан: «...гэтае французскае каралеўства было настолькі нацыянальным, што нават пасля яго знішчэння нацыя змагла захавацца і без яго». Разам з тым гэтая ідэя паслужыла і супраць яго, бо яна супрацьпастаўляла французскую нацыю – манархіі, Старому Рэжыму.

Першае яснае фармуляванне гэтай ідэі адбываецца ў часы Французскай рэвалюцыі. У тэкстах таго часу мы можам прачытаць, што толькі нацыя з'яўляецца сапраўдным суверэнам, што чалавек павінен быць адданы перадусім нацыі і што толькі нацыя можа ўсталёўваць законы для сваіх грамадзян, – вось сутнасць гэтай ідэі. У палітычным плане яна выразілася праз добраахвотныя аб'яднанні грамадзян, якія дзейнічалі разам на карысць нацыі, а не дынастыі. Гэта значыць, што ідэя еднасці грамадства выразілася праз нацыянальны прынцып. Бо нацыя — гэта «добра выражанае жаданне грамадзян працягваць сумеснае жыццё, якое пачалося з мінуўшчыны, поўнай сумесных высілкаў, ахвяраванняў і адданасці»[2]. Такім чынам, яна стала спосабам легітымізацыі, які замяніў традыцыйную легітымізацыю.

Гэтая канцэпцыя вызначае нацыю як асаблівую форму палітычнай еднасці, як пабудову сучасных форм сацыяльных і палітычных зносін. Як палітычная супольнасць нацыя вызначаецца сваім суверэнітэтам, які выкарыстоўваецца дзеля ўнутранага інтэгравання насельніцтва (якое яна ўключае). Звонку гэты суверэнітэт зацвярджае яе як гістарычны сюжэт (sujet) сусветнага парадку, заснаваны на існаванні нацыянальных палітычных супольнасцей і адносінах паміж імі. Аднак яе спецыфічнасць у тым, што яна аб'ядноўвае насельніцтва ў супольнасць грамадзян, што робіць легітымным унутраныя і знешнія акты Дзяржавы. Такім чынам, грамадзянін — гэта той, хто далучаецца да гэтай супольнасці, – любы чалавек, нягледзячы на яго этнічную прыналежнасць. Адсюль і ідзе сінанімічнасць тэрмінаў "нацыянальнасць" і "грамадзянства". Адсюль жа вынікае і другі найбольш значны прынцып гэтага падыходу – прынцып грамадзянскасці, які цэментуе нацыю. Зыходзячы з гэтага прынцыпу, быць грамадзянінам – значыць валодаць правамі, першае і найважнейшае з якіх – выбарчае права, але і выконваць абавязкі, сярод якіх і абавязак загінуць за Радзіму. Гэта выражаецца ў знакамітай ідэі Э. Рэнана, што

[2] Renan Ernest. Qu'est-ce que c'est la nation. Agora, 1992.



«нацыя гэта — штодзённы плебісцыт»[3]. Такі погляд робіць прынцып грамадзянскасці асновай усялякіх сацыяльных сувязей, адносін. Таму, у процівагу этнічнай групе, нацыя з'яўляецца адкрытай супольнасцю, дзе жаданне жыць разам выражаецца праз прыняцце правілаў, адзіных для сферы публічных зносін, што і перашкаджае адасобленасці.

Такім чынам, французскі погляд на нацыю ёсць погляд скрозь прызму палітычнага. Зведзеная ў адно дзвюма рэчамі: багатым сумесным мінулым і сучасным (жаданне ўспрымаць і працягваць тое, што атрымана з мінулага), зацверджаная дзяржаўнай еднасцю і агульнай воляй – нацыя ёсць асаблівая, больш дакладная, форма палітычнай еднасці. Яе асноўныя атрыбуты (паказчыкі) – суверэнітэт, грамадзянскасць і нацыянальная дзяржава. «Нацыя — перш за усё. Яна ёсць крыніца ўсяго. Яе воля заўсёды законная... Нацыі на зямлі павінны разумецца як індывідуумы па-за сацыяльнымі сувязямі, ці, як кажуць, у прыродным стане»[4]. Існаванне нацыі забяспечваецца дзяржавай, якая з"яўляецца яе канчатковай формай. Больш таго, нацыя стварылася як новы прынцып легітымізацыі новай дзяржавы; адсюль і паняцце «дзяржавы-нацыі».

Але гэты падыход не з'яўляецца адзіным адказам на пытанне нацыі. Гэты пункт погляду быў абгрунтаваны, але толькі для «вызначанага грамадства» (французскага), а не для чалавецтва ўвогуле і ў любы час[5]. Іншы погляд на вызначэньне нацыі прадэманстравала ўсходняя частка, а больш дакладна Германія. Чаму ж так здарылася?

Гісторыя «Усходняй Еўропы» моцна адрознівалася ад гісторыі Заходняй. Яна (Усходняя частка) жыла ў іншай гістарычнай рэальнасці. Тут дамінавалі іншыя прынцыпы. Зараз супрацьпастаўляюць «заходнееўрапейскаму» канцэпту палітычнай нацыі нямецкі канцэпт, які потым распаўсюдзіўся сярод большасці народаў гэтай часткі Еўропы. Ён заснаваны на веры ў гістарычнае перапрыемства, адзіную культуру і мову. У параўнанні з дзяржавамі «мысу» краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, заўсёды падначаленыя якому-небудзь захопніку, не здолелі стварыць незалежных палітычных фарміраванняў і не здолелі аддзяліць іх стабільнымі межамі. Тады, калі ў 15—18 стагоддзях на месцы заходнееўрапейскіх манархій зараджаліся сучасныя дзяржавы, Нямеччына і Італія заставаліся палітычна раздробленымі; туркі разбуралі нацыянальныя інстытуты Венгрыі і Багеміі, Сербіі і Харватыі. Таму калі ў 19-ым стагоддзі нацыянальная ідэя пашыраецца на гэтую частку Еўропы, дык краіны, складаючыя яе, не мелі ні межаў, ні сталіц, ні дзяржаўных інстытутаў (у сэнсе апарата), ні аўтаномнай эканамічнай арганізацыі, ні нацыянальнай эліты. Народы былі ў палоне страху, адзіноты іх лёсу і іх рэлігійнай прыналежнасці. Адзінае, што ў іх было, – этнічнае падабенства, на базе якога і была распрацавана гэтая тэорыя. Яна выйшла з рамантызму, была занатавана нямецкімі філосафамі (Фіхтэ, Гердэр і інш.) і асноўвалася на наступных паняццях.

1. Гістарычная спадкаемнасць, якая сягала ў цемру часоў. Яна мела ўжо нацыянальны характар, які вызначалі цікавасць да этнічнай асаблівасці, настальгія па паганскаму і сярэднявечнаму бляску, супрацьпастаўленне французскай гісторыі, за якую яна была не карацейшая і не бяднейшая.

2. Агульная мова –»нямецкая, адзіная для ўсіх немцаў». Яна стварае нацыю, абапіраючыся на сваю натуральную рухаючую моц, дае пачуццё тоеснасці. Яна спарадзіла разуменне спадчыны — як мастацкай і літаратурнай,

[3] Renan Ernest. Qu'est-ce que c'est la nation. Agora, 1992.

[4] Abbé Sieyes. «Qu'est-ce que les Tiers Etats?» — узята з кнігі: Сміт Энтані. Нацыяналізм у 20-ым стагоддзі. Мінск, Беларускі фонд Сораса, 1995.

[5] Геллнер Эрнест. Нации и национализм. Москва: Прогресс, 1991.

надала годнасць нямецкай культуры. Адсюль — культурнае вызначэнне нацыі як носьбіта і гаранта зямной вечнасці.

3. Агульная культура, уласцівая толькі гэтай этнічнай групе. Культурнае непадабенства з французамі стала фундаментам асэнсавання сябе як нечага своеасаблівага (этнічныя звычаі, мова, характар) і спарадзіла разуменне сябе як нацыі.

Гэтыя фактары выліліся ў разуменне нацыі як «Volk (народ)». Ён узяты як Усё, не падзелены на індывідаў. Усе, хто адчувае сябе немцам, размаўляюць па-нямецку і належаць да гэтай культуры, гэта значыць этнічныя немцы, фарміруюць нямецкі народ. Таму спачатку гэта тэорыя не выходзіла за свае культуралагічныя рамкі. Галоўным для яе не было ці будзе гэта адзіная дзяржава альбо некалькі, бо Еднасць ужо існуе – яна выцякае з моўнай і этнічнай еднасці. Не паўставала пытанне, што такое нямецкая дзяржава, — яна паўсюль, дзе кіруюць немцы. Але перад магчымасцю знешняй агрэсіі паўстае разуменне неабходнасці абароны культуры ад асіміляцыі і іншаземнага забруджання, што спрыяла зразуменню неабходнасці стварэння нацыянальнай дзяржавы. Параза ад французскага войска паказала кволасць старых форм – «ненацыянальных» і няздольных забяспечыць еднасць і незалежнасць. Да сярэдзіны 19 стагоддзя дзяржава ўспрымалася выключна як ліберальна-антыманархічная і не цэнтралізаваная, у процівагу французскай мадэлі. Пасля правалу рэвалюцыі 1848 года гэты працэс набыў новую моц і змяніў накірунак. Ліберальныя імкненні былі разбураныя, затое нацыянальная ідэя пачала больш інтэнсіўна рэалізоўвацца. Гэтаму паспрыяў прыход Прусіі, на аснове якой і развілася нямецкая дзяржава, дзякуючы прускім прынцыпам: пачатковая адукацыя і адукацыя моладзі насіла масавы характар і спрыяла з'яўленню пачуцця нацыянальнай тоеснасці, ідэнтычнасці войска і нацыі. Абагульняючы, можна сказаць, што з'яўленне гэтых дзвюх тэорый скіравана на тлумачэнне аднаго і таго ж феномена, на легітымізацыю і арыентацыю калектыўнай моцы. Паступова нацыянальная ідэя прымаецца за мiраўтваральную. Гэтая двaістасць потым надзейна замацавалася ў шматлікіх сферах чалавечае думкі. Розныя даследчыкі, аналізуючы гэты феномен, вылучаюць два падыходы: нацыя з французскага пункту гледжання і нямецкага; нацыя палітычная і «культурная» нацыя; супольнасць грамадзян і супольнасць продкаў; палітычная воля і арганічная нацыя; створаная нацыя і этнічная; нацыя-кантракт і нацыя-дух; нацыя індывідаў і нацыя як калектыўны індывід; філасофія Асветы і рамантызм; і нарэшце халізм і індывідуалізм.

Вось коратка дзве дамінантныя тэорыі, якія тлумачаць, што такое нацыя, але ёсць і іншыя погляды на пытанне нацыі і яе вызначэнне.

Існуе іншая думка (аналітычная тэорыя ), якая датычыць дэфініцыі нацыі. Яна крытыкуе гэтыя два падыходы і спрабуе размясціць нацыю паміж гэтымі двума паняццямі. Яна адначасова аб'ядноўвае іх і супрацьстаўляе. Усе нацыі з'яўляюцца, безумоўна, адначасова этнічнымі і палітычнымі. Адрозніваюцца толькі чынам перамешвання палітычнага прынцыпу з этнічнай рэчаіснасцю. Агульнай схемы няма, і іх рэалізацыя прымае розныя формы, змяняючыся ад адной краіны да іншай. Разам з тым не трэба блытаць нацыю ні з этнасам, ні з дзяржавай. Яна (нацыя) адначасова знітавана як з этнасам, так і з дзяржавай, дзякуючы чаму яна ўвасабляецца ў сацыяльнай рэчаіснасці. Палітычнае прызнанне розных этнасаў, інкарпараваных у нацыю, прыводзіць да дэзінтэграцыі і да яе паслаблення; тады, калі дзяржава робіцца занадта магутнай, яна абсарбуе нацыю і разбурае грамадзянскую супольнасць. Паміж этнасам і дзяржавай павінна быць месца нацыі.

Існуе таксама вызначэнне нацыі, не звязанае з гэтымі двума фактарамі. Нацыя бачыцца, згодна гэтай тэорыі, як прадукт, што з'явіўся ў адказ на стварэнне новых сацыяльна-эканамічных умоваў — індустрыялізацыі, якая стварыла новае грамадства. Галоўным прынцыпам новага грамадства з'яўляецца высокая прадукцыйнасць, якая патрабуе складанага і дэталёвага падзелу працы. Адсюль з'яўляецца дзяржава як новая форма кіравання патрэбная, для арганізацыі падзелу працы і пабудовы новых супольнасцяў людзей, якія добра разумелі б свае інтарэсы. Створаная дзяржава была прадуктам новага грамадства і эканамічнага росту. Дзеля рэгулявання адносін паміж гэтай новай фармацыяй і традыцыямі, звычаямі, увогуле культурай даіндустрыяльнага грамадства і паўстала нацыя.

Фактычна нацыя, як і дзяржава, – гэта выпадковасць, а не жыццёвая неабходнасць. Больш таго, нацыя і дзяржава — гэта выпадковасць не аднаго і таго ж характару, бо да таго, як быць прызначанымі адна другой, яны павінны былі ўзнікнуць і іх узнікненне было незалежным і выпадковым. Дзяржава, безумоўна, узнікла без дапамогі нацыі. Некаторыя нацыі ўзніклі без благаслаўлення сваёй дзяржавы[6].

## B. Разыходжанні

Аднак у некаторых выпадках стварэнне нацыі не ва ўсім адпавядае пастулатам згаданых вышэй тэорыяў. Яскравым прыкладам з'яўляецца габрэйскі народ, які на працягу стагоддзяў не меў ні дзяржавы, ні тэрыторыі, ні, нарэшце, адзінай культуры. Аднак габрэйскі народ захаваўся. Другім прыкладам з'яўляецца Беларусь, дзе нацыі ў класічным разуменні не існуе. Таму адразу паўстае пытаньне: што ж такое дагэтуль існуе, якое ўтварэнне? Можа, гэта ўвогуле не нацыя, а нейкае іншае, касмапалітычнае і універсалісцкае ўтварэнне? А можа, проста класічныя тэорыі не пазначылі ўсіх аспектаў вылучанай намі праблемы? Чаму?

Па-першае, фармуляванне гэтых тэорый праходзіла як адказ на агрэсію, таму відавочнай з'яўляецца жорсткая ідэалагізаванасць. Паняцце нацыі з'явілася на патрэбу ідэалогіі, дзеля адказу на тагачасныя праблемы: супрацьстаянне дзвюх краінаў, светапоглядаў (Францыя — Германія); як легітымізацыя дзеяў — вайны і тэрытарыяльных захопаў (французска-пруская вайна ў 1870 і захоп Эльзаса і Латарынгіі). З-за гэтага не ўлічваліся ўсе аспекты, а вызначэнне нацыі было далёкае ад апалітычнага.

Па-другое, сёння гэтыя дзве канцэпцыі вельмі крытыкуюцца. Многія лічаць, што дзяржава-нацыя знаходзіцца ў крызісе, а таму не можа адказаць на шматлікія пытанні сучаснасці. Вядома, што цяпер людзей аб'ядноўваюць хутчэй агульныя каштоўнасці, чым пачуццё сакральнай еднасці. Потым дзяржава-нацыя не ўспрымаецца як непарушная дадзенасць, але хутчэй як форма, якая ўзнікла ў выніку гістарычнай выпадковасці. «Сучасная нацыя ёсць рэзультат гісторыі, яна была створана альбо дынастыяй (Францыя), альбо прамым жаданнем правінцый (як гэта адбылося ў Галандыі, Швейцарыі), альбо духам еднасці, які перамог феадальную раздробленасць у Германіі Італі»[7]. Цяпер, еўрапейскія краіны імкнуцца перамагчы подобнае ўяўленне. Наступны момант, які спараджае крытыку, – правы эмігрантаў. Ці павінны яны карыстацца «пашыраным» грамадзянствам? Гэта значыць мець два грамадзянствы: першае, больш значнае, якое заснавана на нацыянальнасці, і другое, больш ці менш звязанае з месцам іх жыхарства (з валоданнем выбарчым правам). Нарэшце, сучасны рынак ставіць пад сумнеў дзяленне людзей на нацыі: нацыянальная прыналежнасць у большасці выпадкаў – перашкода. Крытыкуецца таксама і этнічнае вызначэнне нацыі. Да нашых дзён робяць вельмі сур'ёзную памылку, калі блытаюць «расу» з нацыяй і надзяляюць этнічныя, альбо хутчэй лінгвістычныя, групы суверэнітэтам, падобным таму, якім валодаюць народы сапраўды існую-

[6] Геллнер Эрнест. Нации и национализм. Москва: Прогресс, 1991.

чыя[8]. Ідэолагі «этнічнай нацыі» асноўваюцца на пераднацыянальных каштоўнасцях. Яны настойваюць на існаванні этнічных сувязей, а не на жаданні стварыць палітычнае грамадства і тым самым адмаўляюць тое, што ёсць асноўная адзнака нацыі, – намаганне перамагчы лакальныя прыналежнасці і этнічныя групоўкі. Такім чынам, не можа існаваць нацыі ў этнічным сэнсе, бо ідэя «этнічнай» нацыі была простым ідэалагічным сродкам, каб апраўдаць правал нацыі ва «Усходняй Эўропе».

Кранаючы ж Беларусь, бачым, што пастулаты класічных тэорый не дадуць нам поўнага адказу на пытанне «Ці існуе беларуская нацыя?». Фарміраванне нацыі праходзіла тут іншым шляхам (гістарычныя ўмовы існавання гэтай краіны адрозніваюцца як ад заходняга тыпу, так і ад усходняга) і часам пад уздзеяннем іншых фактараў. Таму трэба больш падрабязна і дакладна разгледзець беларускі выпадак, каб удакладніць, у чым яго складанасці і адметнасці.

## 2. Недапасаванасці класічных тэорыяў да беларускай рэчаіснасці

### А. Пашырэнне класічных тэорыяў

Тое, што існуе шэраг недапасаванасцей паміж агульнапрынятымі, класічнымі тэорыямі і пэўнымі выключэннямі – гэта факт. Але ж той факт, што беларускае вызначэнне нацыі складае хутчэй выключэнне, чым прыклад класічнай тэорыі, не павінен хваляваць нас, засмучаць і тым больш развіваць комплекс непаўнавартасці. Усяму гэтаму ёсць свае аб'ектыўныя прычыны: з аднаго боку – позняе развіццё нацыянальнага руху на сучасным этапе гісторыі, а з другога – скіраванасць усіх класічных тэорый хутчэй на так званыя вялікія нацыі – французскую, нямецкую, англійскую, італьянскуюці дацкую. У рэшце рэшт, таму можна канстатаваць пэўную аднабаковасць. У самім сцвярджэнні, што класічныя тэорыі не дапасоўваюцца да беларускай рэчаіснасці мы бачым пэўны этнацэнтрызм. Можа, наадварот, беларускі выпадак – анамальны, не можа і не павінен падыходзіць да якой небудзь тэорыі?! Так ці інакш, улічваючы, што не беларусы стварылі прэцэдэнт нацыянальнага патрабавання, нацыянальнага руху, трэба разглядзець беларускія асаблівасці ва ўжо вядомым, існуючым рэчышчы.

Дэманструючы разыходжанні паміж беларускай мадэллю і заходнімі, мы безупынку працягваем даводзіць, што беларуская нацыя існуе, першай сведкай чаму можа быць беларуская дзяржаўнасць.

Па-першае, спынімся на мове. Гэта, бадай, галоўная рыса нацыі (прынамсі менавіта на яе часцей робіцца акцэнт у работах філосафаў, сацыёлагаў). Працэсы цэнтралізацыі, узмацнення нацыі суправаджаюцца ўпарадкаваннем, уніфікацыяй моўных працэсаў на абшарах пэўнай краіны. Праз універсітэты, школы і дзіцячыя садкі стандартызаваная мова распаўсюджваецца сярод жыхароў. Гэты прынцып дзейнічае амаль без збою.

Мова — першае, што адрознівае француза, пачынаючы з дзяцінства, ад іспанца ці немца. Праўда, некаторыя краіны, як вядома, пабудаваўшы незалежную дзяржаву, размаўляюць на мове, якая ўжо з'яўляецца для якога-небудзь народа нацыянальнай (Францыя—Бельгія—Квебек; Іспанія — амаль што ўся Паўднёвая Амерыка (за выняткам Бразіліі); Аб'яднанае каралеўстваа—ЗША—Новая Зеландыя, і, нарэшце, лузафонная цывілізацыя: Партугалія—Бразілія). Як правіла, у гэтых выпадках мова адыходзіць на другі план, прыярытэтнае месца займае новая тэрыторыя, геапалітычны статус, эфект зліцця розных культур (бразільскі прыклад: тубыльская, партугальская, негрыцянская, яўрэйская, французская і славянская ў меншай ступені, і ўплыў усіх пералічаных элементаў на фарміраванне бразільскай нацыі).

Беларусь ніколі не з'яўлялася метраполіяй, не мела залежных земляў, на якія магла б перайсці беларуская нацыянальная ідэя з мэтай перараджэння і пераўвасаблення ў новых умовах. Беларусь не змагла нават адшліфаваць уласнай нацыянальнай канцэпцыі, захаваць мову, яе адзінства, гістарычную чысціню. Згодна перапісу 1989 года — 81, 5% беларусаў валодаюць беларускай мовай, але ж насамрэч ёю актыўна карыстаюцца 2% альбо 3% насельніцтва. Ці значыць гэта, што статус беларускай нацыі ставіцца пад сумнеў? Не, зусім не.

Па-першае, згадаем беларускую рускамоўную культуру — даволі моцную і вялікую ў колькасным вымярэнні, якая выклікае паралелі з бельгійскай франкамоўнай культурай ці амерыканскай англамоўнай. Яна не абапіраецца на асаблівую мову, на яе арыгінальнасць і прыроджанае адрозненне ад іншых, прыроджанае супрацьстаянне іншым і, у першую чаргу, суседнім культурам. Напрыклад, творчасць Святланы Алексіевіч, пераважна рускамоўнай пісьменніцы, мае, тым не менш, беларускі твар (у яе кнігах героі, пачуцці — беларускія, нават тэмы застаюцца характэрнымі для беларускага светапогляду: Чарнобыль, ваенная тэматыка, суіцыд). Асоба Святланы Алексіевіч доказвае, што не абавязкова толькі нацыянальная мова здатная цалкам перадаць нацыянальную сутнасць, нацыянальны характар.

Што да ўласна беларускай мовы, дык, улічваючы стагоддзі яе вынішчэння, штучных рэформаў, трэба разглядаць яе ролю, яе ўклад не на зусім звыклым узроўні. Такія характарыстыкі, як моц, колькасныя даныя, ступень карыстання і іншыя, не падыходзяць для этнічнай мовы РБ. Не ступень карыстання, а хутчэй ступень разумення — вось самы важны паказчык пры высвятленні ролі беларускай мовы. Амаль 100% насельніцтва разумеюць мову. Праз паданні, казкі, легенды, гісторыю, іх вывучэнне, чытанне рускамоўныя беларусы атаясамліваюць сябе з беларусамі, а тая меншасць, якая не ведае беларускай мовы (рускія і іншыя небеларусы), менавіта ў гэтых выпадках супрацьстаіць рускамоўным беларусам. РАЗУМЕННЕ\НЕРАЗУМЕННЕ — гэта таксама апазіцыйнасць, хай не палітычная, аднак культурніцкая. Гэта сутычка, раздзяленне цэласнасці на фрагменты, хаця «простыя», «талерантныя» беларусы не заўважаюць гэтага факта, баючыся пакрыўдзіць суайчыннікаў, якія не ведаюць, не разумеюць «дзіўнай» мовы.

Па-другое, тэрыторыя. У сваёй кнізе «Нацыяналізм у дваццатым стагоддзі» Энтані Сміт называе гэты паказчык нацыі «больш канкрэтным і распазнавальным». Адразу ўзнікае пытанне: ці складае Беларусь тыповы прыклад нацыі з улікам тэрытарыяльнага фактару, ці зноў жа выключэнне? З геапалітычнага пункту гледжання ці з боку нацыянальнай бяспекі і геаграфічнага становішча Беларусь адносіцца хутчэй да першых. Хоць яна і мае кампактную тэрыторыю, але ж натуральна не абароненую. Размяшчэнне на "цывілізацыйным скрыжаванні"[9] не спрыяла і не спрыяе кансалідацыі і хуткаму станаўленню нацыі. У адрозненне ад Швейцарыі, Ісландыі ці абароненай Андамі Чылі, беларуская тэрыторыя не служыць тым бяспечным месцам, на якое звяртае ўвагу Э. Сміт, "для "сацыяльнага эксперыменту" па стварэнню ці ўмацаванню нацыянальнай дзяржаўнасці". Пры гэтым да знешняга фактару, які абумовіў тэрытарыяльную спецыфіку беларускіх земляў, трэба дадаць унутраны. Гэта, у першую чаргу, надзвычайная адданасць беларуса сваёй малой радзіме, слабае ўспрыманне беларускага сталічнага горада бальшынёй правінцыйнага насельніцтва. Толькі апошнім часам сп. Лукашэнка змог змяніць свой народ, адвярнуць усходніх беларусаў ад расійскіх вялікіх гарадоў – Масквы, Санкт-Пецярбурга; паўднёвых — ад Украіны і Заходніх – ад Польшчы. Здаецца, толькі дзякуючы прыродным якасцям прэзідэнта давялося прыцягнуць увагу правінцыйнага беларуса да Мінска. Таксама адміністрацыйныя, палітычныя і гаспадарчыя пераўтварэнні, звязаныя з набыццём незалежнасці і з пераносам у беларускую сталіцу адпаведных органаў і кампетэнцый, пачалі змяняць беларускі менталітэт.

Аднак, падазраю, што паступовае адрыванне беларусаў ад правінцыйнага патрыятызму на карысць агульнанацыянальнага – часовая справа, якая тлумачыцца хутчэй узнікненнем у палітычным жыцці РБ такой цікавай, сакавітай і харызматычнай асобы , як сп. Лукашэнка.

У рэшце рэшт, нацыянальная інтэлігенцыя мае аналагічную хваробу, што і просты люд. Яна таксама лакалізуецца на адным аб'екце для захаплення — Вільнюсе. Хоці большасць з яе жыве ў Беларусі са сталіцай у Мінску, аднак яе пасеізм стварае яшчэ адну лакуну у агульнай нацыянальнай канцэпцыі і расцягвае беларусаў у розныя куты адзінай хаты.

Такім чынам, выснова дадзенага пасажу наступная: тэрытарыяльны паказчык беларускай нацыі абумоўлены існаваннем як вонкавых механізмаў уздзеяння (адкрытае геаграфічнае (геапалітычнае) становішча, залежнасць нацыянальных працэсаў ад волі, жадання расійскай, польскай, нямецкай), так і ўнутраных (мястэчковы патрыятызм беларусаў і як вынік адсутнасць канкрэтнага палітычнага цэнтра, на які можна было б абаперціся ўсім беларускім землям у выпадку вайны, канфлікту).

Па-трэцяе, рэлігія.

> «Рэлігія і нацыяналізм гавораць на адной мове і дыхаюць адным паветрам».
>
> **Энтані Сміт.**

Здаецца, гэта сцвярджэнне адпавядае рэчаіснасці — беларускай у прыватнасьці. Тое, што разумеецца беларусам як нацыяналізм, абавязкова знітавана з рэлігійным рухам, насычана рэлігійнай ідэалогіяй (уніяцтва 17-18-19 стагоддзяў, беларускае каталіцтва і беларуская праваслаўная незалежная ці аўтакефальная царква, якая цяпер знаходзіцца ў выгнанні). Статус і роля Праваслаўнай царквы як дамінуючай у нашым грамадстве, статус і роля мовы. Нешта ёсць у гэтым шыльднага, стэрыльнага, калі толькі ў назве альбо ў статусе адчуваецца, бачыцца нацыянальная афарбоўка. У астатнім жа — марыянетачнасць, структурная слабасць і нават антынацыянальная накіраванасць. Нельга адназначна згадзіцца з тымі, хто лічыць, што калі ў царкве ці касцёле не чуваць беларускае мовы, дык яны не беларускія. Можа яны беларускія, толькі рускамоўныя? Навошта ім пераходзіць на тую мову, якой не карыстаецца паства? Царква сочыць толькі за зыходзячымі ад вернікаў імпульсамі і рэагуе своечасова на кожнае змяненне іх густаў, волі, арыентацыі. Нягледзячы на тое, што царква стаіць за раўнапраўе ўсіх людзей, за адмаўленне ад нацыянальных бар'ераў, якія толькі замінаюць узаемаразуменню між людзьмі, яна часам супярэчыць сама сабе. Нароўні з падтрымкай універсалізму і касмапалітызму, яна падтрымлівае нацыянальныя асаблівасці, вядзе войны супраць няверных, прыўносіць у храмы нацыянальную афарбоўку — творы таго ці іншага нацыянальнага мастацтва (руская школа іканапісу, беларуская, армянская, сербская). Мы не збіраемся ўхваляць ідэю аўтакефаліі і ганіць ідэю экзархата (г. зн. падпарадкаванасці Праваслаўнай царквы Беларусі Рускай праваслаўнай царкве) — гэта ўжо вызначана перавагай інтарэсаў беларусаў; проста хочам скіраваць вашу ўвагу на тую выснову, што рэлігія, як, дарэчы, і мова, калі яна дэнацыяналізаваная, наносіць адбітак непаўнавартасці на ўсю нацыянальную ідэю.

Па-чацвёртае: гістарычная спадчына, нацыянальная ідэалогія.

На наш погляд, гэтая рыса нацыі найбольш складаная і натуральна вынікае з 2-га паказчыка — тэрыторыі. Бо ідэя прывязанасці нацыі да адзінай супольнай тэрыторыі разумее пры гэтым і даволі рамантычную ідэю стварэння ўласнай глебы, каб плённа рэалізаваць свой прыроджаны нацыянальны патэнцыял. А што ж звычайна рэалізуюць нацыяналісты на ўласнай глебе? Вывучаюць асаблівасці нацыі, яе традыцыі, фальклор, мову, рэлігію і, нарэшце, выхоўваюць у грамадзян пачуццё гістарычнай саматоеснасці. Г. зн. яны ствараюць нацыянальную ідэалогію, базуючыся на гістарычнай спадчыне. Відавочна, што калі мову, рэлігію спаткаў лёс недапрацаванасці, незавершанасці, дык і нацыянальную ідэалогію ўвогуле таксама перамагла пэўная дваістасць, хвароба напаўбеларускасці. Пад гэтым паняццем разумею заўсёдную залежнасць беларускай інтэлігенцыі ад польскай ці рускай культур; фарміраванне, станаўленне, праходжанне нацыянальнага шляху ад антысацыяльнай — антыбеларускай да роднай, нацыянальнай. Першапачатковая польская глеба — у К. Каліноўскага, Купалы, Цёткі, Сыракомлі, руская — у Багдановіча. Нацыянальнай беларускай ідэалогіі бракавала цэласнасці. Бо ні мадэль-мара «рамантычных» нацыяналістаў – ВКЛ, ні мадэль-мара беларуска-савецкай часткі насельніцтва – БССР/ СССР не валодалі той эканамічнай, палітычнай, тэрытарыяльнай, культурнай, ідэалагічнай цэласнасцю, якую можна пабудаваць толькі ў межах незалежнай краіны. Як вядома, перыяд беларускай дзяржаўнасці быў не надта працяглы і цяпер досыць адлеглы ў часавай прасторы. Нават беларуская дзяржаўнасць падчас існавання Полацкага княства, ВКЛ, Рэчы Паспалітай ці БССР мела нетыповыя рысы. Галоўная нетыповасць – гэта заўсёдная прысутнасць «юніяністкіх тэндэнцый»[10], якія абумовілі незавершаны характар як беларускай дзяржаўнасці, так і беларускай нацыянальнай ідэі. Таму здаюцца зразумелымі няўдалыя спробы аднавіць незалежнасць, дзяржаўнасць у 1918 годзе і шматлікія праблемы на сучасным этапе развіцця. У чым жа гэтая незавершанасць?

1. Адсутнасць незалежнага грамадства;
2. Няўпэўненасць у нацыянальнай годнасці, што адбіваецца, па-першае, у саманазве (трансфармацыі, звязаныя с саманазвай: Крывія—Літва—Белая Русь—Западный край—Белоруссия—Беларусь). Па-другое, моўны гармідар прыўносіць свае недарэчнасці. Здаецца, беларуская нацыя яшчэ не прайшла дзіцячай стадыі ў сваім станаўленні. На сёння ў назвах нацыянальных незалежных газет дамінуе слова «наша» («Наша ніва», «Наша доля», «Наша слова» і г. д.). Нічога не змянілася з пачатку 20-га стагоддзя, імкненне да гэткай назвы падкрэслівае прынцыповае жаданне нацыянальнай інтэлігенцыі даказаць спецыфіку, паказаць беларушчыну. Тады як еўрапейскія сталыя нацыянальныя дзяржавы адмаўляюцца ад нацыяналістычных слоганаў, ад нацыянальнай ідэі ўвогуле на карысьць агульнаеўрапейскай, пакінуўшы недзе ззаду гістарычнага цягніка нацыянальныя імкненні і паводзіны нацыяналістычнага дзіцяці.

### В. Пошукі выйсця

Напярэдадні пошукаў выйсця, трэба зрабіць некаторыя высновы.

Беларуская нацыя, безумоўна, існуе, аднак са спазненнем станаўлення, з аднаго боку, і з другога — абцяжараная ўнутранымі і знешнімі фактарамі свайго геапалітычнага становішча. Напрыканцы 20-га стагоддзя з аднаўленнем незалежнасці былі вылучаны рознымі нацыянальнымі групамі 3 варыянты выйсця:

- афіцыйны, альбо выйсце, прапанаванае Лукашэнкам;
- нацыянальна-ліберальная прапанова;
- нейтралісцкі падыход.

[7] Renan Ernest. Qu'est-ce que c'est la nation. Agora, 1992.

[8] Там сама.

[9] Samuel Huntington. The Clash of Civilization.

На нашу думку, тое, што ажыццяўляецца зараз на афіцыйным узроўні, не пазбаўлена канчаткова логікі і часткова запаўняе лакуны ў стэрылізаванай часам і чужынскімі нацыянальнымі ідэалогіямі на абшарах нашых краінаў нацыянальнай уласнай ідэалогіі. Без сумнення, ідэя моцнай улады, цэнтралізацыі, якая стварае (мірным шляхам ці з ахвярамі) нацыю, адзіную і непарушную культуру, мае карані ў гісторыі (Францыя, 18—19 стагоддзе, Нямеччына — 19 стагоддзе). Але ж напярэдадні 21 стагоддзя ўжываць метады 2-вяковай даўніны, што практыкуе сённяшні беларускі прэзідэнт, – гэта сапраўдны анахранізм. Сутычка між афіцыйным Мінскам і дэмакратычным Захадам у прынцыпе крывадушная, бо стагоддзі таму заходнія краіны ажыццяўлялі тое ж самае, што прэзідэнт Лукашэнка сёння, але ж гэта не апраўдвае дзеяў апошняга, які, здаецца, забыўся пра памылкі папярэдніх генерацый нашага народа. Зноў, як і раней нашы продкі, Лукашэнка звярнуўся да юніяніцкай ідэі і ігнаруе багатую, шматпавярховую, негамагенную культурную спадчыну беларусаў (этнічную, лінгвістычную ў першую чагу)

Дыяметральна супрацьлеглая прапанова зыходзіць ад нацыянал-лібералаў Беларусі.

Як і першая прапанова, гэтая таксама хворая на эксклюзівізм (аднабаковасць) – маюцца на ўвазе звароты да юніяніцкай ідэі, пра якую падрабязна піша спадарыня І.Бугрова. І хоць другая мадэль скіравана на Захад, на больш стабільны, моцны рэгіён, але ж яна часцяком ігнаруе расійскі фактар (эканамічны, ваенны і, нарэшце, культурны). Суседзяў не зменіш, як пальчаткі, таму трэба шукаць кампраміс.

Слоганы «Хочам у Еўропу» нагадваюць чырвоныя шчыты з надпісам: «Ніколі не раз'яднаюць нас з братняю Руссю». Зноў і зноў розныя слаі грамадства адрозніваюцца па поглядах, людзі не разумеюць, што тым самым могуць выклікаць пагрозу для цэласнасці дзяржавы і стварыць прэцэдэнт перагляду пытання беларускай дзяржаўнасці, канфедэрацыі ці нават адзінай дзяржавы. Таму больш вабным выглядае памяркоўны нейтраліцкі падыход, які, на вялікі жаль, абыходзіцца ўвагай і жыве ў розумах і працах адзінак. Сутнасць гэтага падыходу зводзіцца да наступнага: устрыманне ад усялякіх згуртаванняў, альянсаў. Улічваючы стагоддзі лютасці і войнаў, калі беларуская зямля заўсёды была цёплай ад крыві забітых жаўнераў і слёз жанчын. Ідэя нейтралітэту выглядае адзіна правільнай. Пры гэтым яна адкідае вядомую юніяніцкую ідэю, а гэта значыць змяншае верагоднасць крызісаў, таму што прапануе ўзяць усю паўнату адказнасці толькі на сябе. У гэтым, здаецца, сэнс нацыянальнай ідэі. Тым больш, што ў народа ўжо выпрацаваўся імунітэт на хваробу "вайна" і самы раз канчаткова вырашыць свой лёс.

У адзін і той жа момант, прагматычны нейтраліцкі падыход разбурае:

- міф аб славянскай еднасці, аб старэйшым братку;
- міф аб прадвызначанасці беларускага лёсу.

У рэшце рэшт, апошняя перавага трэцяй мадэлі — у сацыяльнай «прасунутасьці», бо ва ўмовах заняпаду мовы, культуры наогул, экалагічнага пагоршання і перавагі мускулінай (патрыярхальнай) мадэлі грамадства нейтралітэт трактуецца як пераходны перыяд паслаблення напружання і вылучэння шматлікіх варыянтаў рэфармавання краіны. Успрыманне нейтралітэту як выратавання мае адначасова пацыфісцкае, "зялёнае" і феміністкае адценне, бо скіраванае на максімальнае скарачэнне войска, ліквідаванне ўсіх формаў дыскрымінацыі палітычных меншасцей (жанчыны, мужчыны-апазіцыянеры), рэлігійных, этнічных і сексуальных і, нарэшце, на ўкараненне зладжанай экалагічнай палітыкі і развіццё экалагічнага сумлення ў насельніцтва. Гэта асабліва важна ва ўмовах постчарнобыльскай хваробы, якая пагражае значна паслабіць ці нават знішчыць насельніцтва краіны (генафонд). Толькі стварэнне моцных навукова-медыцынскіх цэнтраў, узаемадзейнасць беларускіх і заходніх спецыялістаў, адкрытасць перад Захадам і Усходам, дзейнасць ільготных скідак і падтрымка дабрачынных арганізацыяў маглі б мінімізаваць абсяг катастрофы. На жаль, мы засталіся сам-насам з невядомым ворагам. Выглядаюць цынічнымі паводзіны прэзідэнта, які імкнецца выратаваць і абараніць кожнага хворага ад страшэннай смерці, усталёўваючы жалезныя заслоны ад патэнцыйных інвестараў, донараў (лекавых і грашовых). І зноў жа нейтралітэт прымушае палітыкаў весці складаную гульню, падпарадкоўвацца інтарэсам суседніх дзяржаваў не на карысць уласнага насельніцтва, а перанесці пільнасць і ўсе магчымыя сродкі на вырашэнне праблемаў, якія заўтра ператворацца ў невырашальныя.

[10] Бугрова Ирина. Идентичность Беларуси: из опыта понимающей политологии. Минск: Vector, 1997.

## Высновы

Абагульняючы класічныя тэорыі, бачым, што нацыя як прынцып пабудовы ўнутрысацыяльных адносінаў вызначалася па-рознаму. Аднак у свеце зацвердзіліся дзве дамінуючыя тэорыі. Французская, якая вызначае нацыю як палітычную адзінку і нямецкая, якая аддае перавагу этнічнай групе, на базе якой і фарміруецца нацыя. Тым не менш існуюць і выключэнні, выпадкі, якія не дапасуюцца да гэтых тэорыяў. Вельмі яскравым прыкладам з'яўляецца беларуская нацыя — існая нацыя, якая складае выключэнне з агульнага правіла. У падтрымку высновы, да якой мы схіляемся, скіраваныя наступныя факты:

1) наяўнасць і дзейнасць нацыянальнага руху;
2) існаванне нацыянальнай мовы (якая патрабуе моўнага ўпарадкавання);
3) наяўнасць тэрыторыі, межаў з афіцыйна прынятай сталіцай Мінскам. У больш разгорнутым выглядзе — факт існавання беларускай дзяржаўнасці і прызнанне гэтага факта міжнароднай супольнасцю (эфект прэцэдэнта ўжо дзейнічае і не дазваляе моцным суседзям паўтарыць былыя сцэнарыі гістарычнага развіцця. Хоць зразумела, што заходнія дэмакркты не кантралююць свет і не могуць умешвацца ў справы беларускай краіны, каб пазбавіць яе жадання інтэгравацца з Расіяй).
4) карыстанне гістарычным багажом, гістарычнай спадчынай: нацыянальны характар нораваў, традыцый, забабонаў (шырэй гледзячы, карыстанне ўласнай духоўнай и матэрыяльнай культурай). Беларускія міфы, героі пакуль не дамінуюць, але ж займаюць даволі трывалае і пастаяннае месца ў побыце, жыцці беларусаў (Скарына, Сапега, Каліноўскі, Цетка для адных; Заслонаў, Машэраў, Лукашэнка для другіх).

Што да выключнага статуса, дык магчыма вырашыць праблемы недапасаванасці шляхам, што прапануе нейтраліцкая мадэль (3).

## Бібліяграфія

Энтані Сміт. Нацыяналізм у двадцатым стагоддзі. Мінск: Беларускі фонд Сораса, 1995.

Атлас "Беларусь: этнаграфія, дэмаграфія, дыяспара, канфесіі". Мінск, 1996.

Бугрова И. И. Идентичность Беларуси: из опыта понимающей политологии. Минск: Vector, 1997.

Цьвікевіч Аляксандр. Западно-руссизм, нарысы з гісторыі грамадскай мысьлі ў 19 і пачатку 20 ст. Мінск, 1993.

Ernest Renan. Qu'est–ce que la nation. Agora, 1992.

Luis Dumont. Essais sur individualism.

Philippe Moreau Defarges. Relations Internationales Editions du Seuil, février 1993, avril 1994 et juin 1997.

Эрнест Геллнер. Нации и национализм. Москва: Прогресс, 1991.

Alain Touraine. Critique de la modernité. Librairie Arthče Fayrd, 1992

Philippe Moreau Defarges. Citoyenneté et crise de l'état-nation. Cahiers français, № 287 mai-juin 1997.

Dominique Schnapper. La conception de la nation. Cahiers français, № 287 mai-juin 1997.

Ёран Тэрборн. Эўропа сёньня і заўтра. ЭўроФорум, Беларускі фонд Сораса, 1997.



*Уладзімір ПАДГОЛ,*
*кандыдат філасофскіх навук, дацэнт*

# Структура таталітарнага менталітэту беларусаў як носьбіт асноўных формаў нацыянальнай ідэі

## Сэнс і змест асноўных паняццяў

**САДЫЗМ-МАЗАХІЗМ** – гэтыя паняцці выкарыстоўваюцца як у псіхіятрыі, так і ў палітычнай псіхалогіі, а таксама ў сацыяльнай філязофіі.

**У псіхіятрыі:**

Для бальшыні людзей садызм вядомы як пачуццё задавальнення падчас сексуальнага акта пры выкліканні болю ў партнёра.

Адпаведна мазахізм – пачуццё задавальнення падчас сексуальнага акта пры атрыманні болю.

**У палітычнай псіхалогіі:**

**САДЫЗМ** – паняцце, якое адлюстроўвае імкненне чалавека падпарадкаваць сабе другога чалавека ці групу людзей. У выпадку падпарадкоўвання яму чалавека ці групы людзей садыст атрымлівае задавальненне.

Сродкі падпарадкоўвання могуць быць як сілавыя, так і псіхалагічныя. Псіхалагічныя, у сваю чаргу, дзеляцца на дзве групы. Падпарадкоўваць можна запалохваючы і выклікаючы пачуццё страху. Можна падпарадкоўваць сабе людзей маніпулятыўнымі сродкамі, выклікаючы любоў. А можна гіпнатычнымі сродкамі фарміраваць абсалютны давер да сябе.

**МАЗАХІЗМ** – паняцце, якое адлюстроўвае імкненне чалавека падпарадкоўвацца і атрымліваць ад гэтага задавальненне.

Як правіла, садызм і мазахізм у чалавеку спалучаныя й праяўляюцца ды дамінуюць у залежнасці ад абставінаў.

Класічны прыклад садамазахіста — А.Лукашэнка. У адносінах да Расіі ён, паводле ягоных жа словаў, "*на коленях готов ползти в Россию*".

А ў адносінах да волевыўлення народа заяўляе, што "*власть одна. И того, кто рассуждает, что он там независим, отправляйте туда, где он будет независим навсегда*". ("Огонек". Октябрь 1996 г. № 43.).

У савецкай навуковай літаратуры паняцці садызму і мазахізму звязваліся толькі з сексуальна-паталагічнай навуковай галіной.

Вось як яны тлумачацца іншымі крыніцамі:

**MASOCHISM:**

1. Acondition in which abnormal sexual pleasure results from being beaten, dominated, etc.

2. A tendency to experience pleasure from being mistreated, dominated, etc.

("GAGE CANADIAN DICTIONARY", GAGE EDUCATIONAL PUBLISHING COMPANY, TORONTO, 1983, p.705.)

**МАЗАХІЗМ:**

1. Стан, пры якім анармальнае (ненармальнае, скажонае, звыродлівае) сексуальнае задавальненне дасягаецца ў выніку збіцця чалавека

альбо ў сітуацыі, калі ён пастаўлены ў залежны стан, і гэтак далей.

2. Тэндэнцыя адчуць і перажыць задавальненне (асалоду) пры кепскіх (дрэнных) адносінах, альбо ў сітуацыі, калі чалавек пастаўлены ў залежнае становішча, і гэтак далей.

**SADISM:**

1. A delight in cruelty; getting pleasure from inflicting physical or mental pain on another person or on an animal.

2. A form of sexual perversion in which sexual gratification is obtained by inflicting pain on one's partner.

("GAGE CANADIAN DICTIONARY", GAGE EDUCATIONAL PUBLISHING COMPANY, TORONTO, 1983, p.988.)

**САДЫЗМ:**

1. Захапленне (радасць) пры здзяйсненні жорсткасці; атрыманне задавальнення (асалоды) пры прычыненні фізічнага альбо духоўнага болю іншаму чалавеку ці жывёле.

2. Форма сексуальнай паталогіі, пры якой задавальненне (асалода) дасягаецца ў выніку прычынення болю партнёру.

Падчас падрыхтоўкі данага артыкула ў мяне ўзнікла спрэчка з рэдактарамі наконт правамоцнасці ўжывання тэрміна "садамазахізм" да палітычнай псіхалогіі. Прадбачу, што падобныя пярэчанні могуць узнікнуць і ў некаторых чытачоў. Таму давайце разам пазнаёмімся з поглядам на гэтыя тэрміны Эрыха Фрома.

"Пасіўнай формай сімбіятычнай сувязі ёсць падначаленасць, альбо, кажучы медычнаю моваю, — мазахізм. Мазахісцкая асоба пазбаўляецца ад невыноснага пачуцця адзіноты і адчужанасці, робячыся неад'емнай часткай другога чалавека, які накіроўвае яго, кіруе ім, бароніць яго; які становіцца для яго як бы ягоным жыццём, ягоным паветрам. Моц таго, каму ён скарыўся, будзе гэта чалавек ці бажаство, неверагодна перабольшваецца; ён – усё, а я – нішто, я значу нешта ў той ступені, у якой я – ягоная частка. І, з'яўляючыся ягонаю часткай, я тым самым раблюся далучаным да ягонай велічы, ягонай моцы, ягонай упэўненасці. Мазахісцкая асоба ніколі не прымае ніякіх рашэнняў, ніколі не рызыкуе; яна ніколі не застаецца ў адзіноце, але і ніколі не бывае незалежнай; ёй не хапае цэласнасці; гэты чалавек яшчэ не зусім нарадзіўся. У рэлігійным кантэксце прадмет пакланення называецца ідалам, але ў свецкім кантэксце механізм узаемаадносін, заснаваных на мазахісцкай любові, па сутнасці сваёй, той жа самы – ідалапаклонства. Мазахісцкія адносіны могуць спалучацца з

фізічнаю, палавою цягаю; у гэтым выпадку чалавек скараецца не толькі душою, але й целам. Бывае мазахісцкая пакорлівасць лёсу, хваробе, поп-музыцы, аргаістычным станам, якія выкліканы наркотыкамі ці гіпнозам, — і ва ўсіх гэтых выпадках асоба адракаецца ад сваёй цэласнасці, робіцца сродкам кагосьці ці чагосьці вонкавага па стаўленню да сябе; ёй непатрэбна вырашаць праблему жыцця сродкамі стваральнай дзейнасці.

Актыўная форма сімбіятычнай сувязі – уладаранне, ці, калі карыстацца суадносеным з мазахізмам псіхалагічным тэрмінам, — садызм. Садысцкая асоба імкнецца вызваліцца з палону й пазбегнуць адзіноты, робячы другую асобу сваёй часткай. Яна расце ва ўласных вачах і падтрымлівае сябе тым, што ўключае ў сябе, як частку, другую асобу, якая яе абагаўляе.

Садыстычная асоба таксама залежная ад таго, хто ёй падпарадкаваны, як гэты апошні залежны ад яе; ніводзін з іх не можа жыць без другога. Розніца толькі ў тым, што садыстычная асоба распараджаецца, эксплуатуе, прыніжае, прычыняе боль, а мазахісцкая – падначальваецца распараджэнням, церпіць эксплуатацыю, прыніжэнне і боль. У рэальным сэнсе гэта — істотнае адрозненне; але ў сэнсе больш глыбокім, эмацыйным, тут больш агульнага, чым адрознага: і тое і другое ёсць зліццё без цэласнасці. Калі мы гэта зразумеем, тады не здзівімся, знайшоўшы, што часцей за ўсё чалавек паводзіць сябе ці як садыстычная асоба, ці як мазахісцкая". (Фром Э. Душа чалавека. М., 1992, с.120.)

"Жаданне прычыніць боль другому не ёсць істотнае у садызме. Усе ягоныя формы, якія мы можам назіраць, выяўляюць істотны імпульс цалкам падпарадкаваць другога чалавека сваёй уладзе, зрабіць яго бездапаможным аб'ектам сваёй волі, стаць ягоным богам і мець мажлівасць рабіць з ім што заўгодна. Прыніжаць яго, заняволіць – толькі сродкі дасягнення гэтай мэты. І самая радыкальная мэта – прымусіць яго пакутаваць, бо няма большай улады над чалавекам, чым прымусіць яго цярпець пакуты і каб ён не мог абараніцца супраць гэтага. Радасць поўнага ўладарання над іншым чалавекам (ці іншай жывою істотаю) і ёсць сутнасць садысцкага памкнення. Гэту думку можна выказаць і па-іншаму: мэта садызму заключаецца ў тым, каб зрабіць чалавека рэччу, ператварыўшы жывое ў нешта нежывое, паколькі жывое праз поўнае і абсалютнае падпарадкаванне страчвае істотную ўласцівасць жыцця – свабоду". (Фром Э. Душа чалавека. С.26).

**ДЭСТРУКТЫЎНАЯ АРЫЕНТАЦЫЯ** – паняцце, якое адлюстроўвае такое пачуццё чалавека, як імкненне разбураць, крышыць, караць і пры сузіранні гэтага працэсу атрымліваць задавальненне і псіхалагічны камфорт. Для людзей з дэструктыўнай арыентацыяй ствараюцца фільмыбаевікі з мноствам боек, разбурэнняў.

**НЕКРАФІЛЬНАЯ АРЫЕНТАЦЫЯ** – адзін з відаў дэструктыўнай арыентацыі, паняцце, якое адлюстроўвае імкненне чалавека да мерцвякоў, трупаў. Зафіксаваны выпадкі, калі людзі ўладкоўваліся на працу ў моргі дзеля задавальнення некрафільнай патрэбы. І, як паталогія, некаторыя з іх йшлі на палавыя кантакты з трупамі.

Некрафільнай арыентацыі супрацьлеглая біяфільная арыентацыя.

**БІЯФІЛЬНАЯ АРЫЕНТАЦЫЯ** – паняцце, якое адлюстроўвае пачуццё любові да жывога. Людзі з біяфільнай арыентацыяй вельмі любяць дзяцей, любяць вырошчваць расліны і назіраць за імі.

**КАНСТРУКТЫЎНАЯ АРЫЕНТАЦЫЯ** — паняцце, якое адлюстроўвае пачуццё любові да стварэння, будавання, адраджэння. Па функцыі гэта пачуццё супрацьлеглае дэструктыўнай арыентацыі.

**ПАТЭРНАЛІЗМ** – паняцце, якое адлюстроўвае імкненне чалавека і вялікіх групаў людзей да наяўнасці ў іх кіраўніка – "бацькі", які прымае ўсе рашэнні, і не толькі жыццёва важныя. І самае галоўнае — бярэ на сябе адказнасць за вынікі гэтых рашэнняў.

**МЕНТАЛІТЭТ** – паняцце, якое адлюстроўвае спалучэнне псіхічнай дзейнасці чалавека (матывацыі дзейнасці) і ягоных рэальных дзеянняў і менавіта па апошніх – рэальных дзеяннях і вызначаецца тып менталітэту.

**ІРАЦЫЯНАЛЬНАЯ ВЕРА** – вера чалавека, якая па свайму зместу вызначаецца вераю ў цуд, самае неверагоднае, абсурднае, парадаксальнае.

**РАЦЫЯНАЛЬНАЯ ВЕРА** – вера, якая абапіраецца на лагічныя доказы.

**ПРАКТЫЧНАЯ ВЕРА** – вера, якая фарміруецца і абапіраецца на штодзённы вопыт.

У менталітэце кожнага чалавека прысутнічаюць усе тыпы веры, а вось працэнтныя суадносіны розныя. Больш таго, падчас жыцця аднаго чалавека ў яго ў крызісныя моманты могуць мяняцца працэнтныя суадносіны у тыпах веры.

Біблія – яскравы прыклад сутыкнення ў менталітэце чалавека ўсіх трох тыпаў веры.

А вось як цікава апісваецца сутыкненне практычнай і ірацыянальнай веры ў вавілонскім міфе аб утварэнні свету ("Энума Эліш"):

Мужчынскія Багі паўсталі супраць Тыамат – вялікай маці, што кіравала сусветам. Яны аб'ядналіся супраць яе і абралі сваім правадыром Мардука. У жорсткай вайне Тыамат забіта, з яе цела ўтвораны неба і зямля, а Мардук стаў вярхоўным Богам. Але перад тым як стаць кіраўніком, Мардук мусіў прайсці выпрабаванне:

І паклалі яны адзенне
ў сярэдзіну;
І сказалі Мардуку, іхнаму першароднаму
сыну:
"Сапраўды, уладар, вышэйшая за ўсіх багоў
твая прадвызначанасць.
Загадвай: "Знішчыць і стварыць!" —
і няхай будзе так!
Хай знікне адзенне па слову
з вуснаў тваіх;
І па другому слову хай
узнікне яно цэлым".
І загадаў ён вуснамі сваімі,
і знікла адзенне.
І загадаў ён зноўку, і ўзнікла
яно зноў цэлым.
І ўпэўніліся Багі, бацькі ягоныя, у
магутнасці ягонага слова,
І ўзрадаваліся яны і падпарадкаваліся
яму:
"Мардук – цар".

У гэтым міфе апісваецца крызіс цывілізацыі, калі матрыярхат саступаў месца патрыярхату.

Улада жанчыны над мужчынам абапіраецца на практычную веру. Роля жанчыны ўтвораць цуд вынашэння і нараджэння дзіцяці – чалавека. Мужчына ў гэтым сэнсе бясплодны і бяссільны. І вось, каб перамагчы жанчыну, мужчына, абапіраецца на ірацыянальную веру і дэманструе мажлівасць утвараць цуд словам. Тое, што апісана ў міфе, было ў шмат якіх плямёнах звычайнай практыкай дэманстрацыі шаманам сваёй сілы. Пры гэтым сапраўды дэманстравалася моц – сугестыўная (гіпнатычная).

Такім жа чынам Аляксандар Лукашэнка на тэлеселектарнай нарадзе ў жніўні 1996 года з нагоды бітвы за ураджай прадэманстраваў сваю моц. Ён, звяртаючыся да брэсцкага абласнога вэртыкальшчыка Уладзіміра Заламая сказаў: "Ты три раза жаловался мне на засуху! Я цебе дождь дал!"

Але дзіўнага ў гэтым нічога няма. Давайце пазнаёмімся з унікальным дакументам. Калі ў Мінску ў 1988 годзе ў Доме палітпроса адбылося пасяджэнне клуба "Современник", улады ад страху пераблыталі сэнс пасяджэння і думалі, што там будуць заснавальнікі Беларускага Народнага Фронту. І вось газеты надрукавалі раней падрыхтаваную рэзалюцыю:

*"Представители общественности города, присутствующие на дискуссии, приняли Резолюцию следующего содержания:*

*Группа самозванцев, присвоившая право представлять все население республики, объявила себя инициативной группой по созданию народного фронта Белоруссии.*

*Мы категорически против создания надуманных организаций.*

***Мы выражаем недоверие созданной группе и считаем ее неправомочной и недействительной.***

*Мы осуждаем антидемократические и безответственные действия отдельных лиц, самодеятельных групп, возомнивших себя единственными борцами за перестройку, а на самом деле вносящими в жизнь людей хаос и неуверенность.*

*Мы требуем от руководства республики, местных органов Советской власти призвать к порядку зарвавшихся самозванцев.*

*Хватит безответственных лозунгов!*

*Хватит пустой болтовни и крикливых митингов!*

*Пора перестройку двигать делами!"* (Вечерний Минск. 24 октября 1988 года).

Звярніце ўвагу на словы, якія я падкрэсліў. Тыя, хто складаў тэкст, як людзі паганскага грамадства ці шаманы, сваім словам могуць "считать недействительной" існуючую групу людзей! А перад гэтым стаяць словы "выражаем недоверие". Як у старажытным вавілонскім міфе.

А вось словы пра "хаос и неуверенность" выражаюць страх ад зменаў, што адбываліся падчас перабудовы.

**ІДЭАЛАГЕМА** — ёсць сцверджанне, якое прымаецца на веру, без дадатковых доказаў і лагічных аргументаў. Акрамя тэрміна *ідэалагема*, у літаратуры можна сустрэць іншыя тэрміны — напрыклад «гіпнатычная формула» (Г.Маркузэ). Прыклады ідэалагемаў — *«жыве Беларусь!», «мы победим!», «восстановим разрушенные связи», «камуністы — гэта фашысты», «нацыяналісты — гэта фашысты-паліцаі», «вор должен сидеть в тюрьме», «Беларусь — у Еўропу»*.

Любое слова нясе ў сабе рацыянальны сэнс — лексічнае значэнне, якое можна патлумачыць, даўшы азначэнне, пералічыўшы аб'екты ці працэсы, якія слова адлюстроўвае. Любое слова нясе таксама ірацыянальны сэнс, які чалавек успрымае праз пачуцці.

Ідэалагемам уласціва згортванне і скарачэнне «сінтаксіса», які блакуе развіццё сэнсу шляхам фіксаваных вобразаў. Ідэалагема ўтвараецца са спрэсаваных вобразаў.

Ідэалагемы — гэта самыя старыя моўныя сродкі чалавецтва. Калі задаеш пытанне, якая функцыя самых першых слоў, звычайна ў адказ чуеш: «Перадаць інфармацыю, паведаміць пра нейкія веды». На самай справе функцыя першых слоў ёсць прымусіць чалавека выканаць нейкае дзеянне словам. А гэта мажліва, калі людзі абсалютна павераць слову. Такім чынам, функцыя першых слоў гіпнатычная.

Функцыя ідэалагем у менталітэце – у выцісканні са свядомасці агульнапрынятых чалавечых каштоўнасцяў пры рэпрэсаванні базавых інстынктаў. Ідэалагемы замяшчаюць іх, утвараючы чалавеку псіхалагічны камфорт і раўнавагу. Яны своеасаблівыя адвакаты. Так, напрыклад, людзі, няздольныя шмат працаваць і аваладваць новымі прафесіямі і якія пры гэтым вядуць паўжабрацкае існаванне, ужываюць ідэалагему *"быть богатым и честным невозможно"*.

Прыклады ідэалагем часоў халоднай вайны ў СМІ ЗША: "самая міралюбівая атамная бомба", "бацька ядзернай бомбы". Функцыя гэтых ідэалагемаў — утварыць давер і станоўчае стаўленне да зброі масавага знішчэння. Калі ёсць бацька, тады бомба — дзіцёначак! І тады лягчэй выбіваць грошы ў кангрэсе з бюджэту на вытворчасць новых бомбаў. Як сёння вядома, іх было утворана як у ЗША, так і ў СССР у сотні разоў больш неабходнага для вядзення вайны.

**САЦЫЯЛЬНЫ ІДАЛ** — гэта вобраз палітыка ці грамадскага дзеяча, які існуе ў свядомасці вялікай колькасці грамадзян і валодае наступнымі функцыямі:

1) выклікае ў людзей абсалютную (СТОПРАЦЭНТОВУЮ!) веру ў тыя ці іншыя здольнасці, намеры, магчымасці палітыка (функцыі);

2) выклікае чаканне цудадзейных вынікаў ад дзейнасці палітыка і абсалютную ўпэўненасць, што такія вынікі будуць дасягнуты;

3) выклікае імкненне зліцца з ідалам і атрымаць энергападсілкаванне і упэўненасць у жыцці, псіхалагічны камфорт.

"Згодна з поглядамі прарокаў, ідал – гэта створаная намі рэч, на якую мы праецыруем сваю ўласную моц, збядняючы сябе пры гэтым. Мы падначальваемся ўласнаму стварэнню, і за кошт такога падпарадкоўвання ў адчужанай форме адбываецца нашыя зносіны з сабою. Так, як я магу валодаць ідалам, так і ён валодае мною. Быццам бы прысутныя Богу якасці, як толькі ён ператвараецца ў ідала, робяцца такімі ж чужымі майму ўласнаму вопыту, як і палітычныя дактрыны" (Э.Фром. Иметь или быть? Киев, 1998. С.229).

**СІМВАЛІЧНА-ФУНКЦЫЯНАЛЬНАЯ ФІГУРА** — гэта вобраз палітыка з яскрава акрэсленай функцыяй, напрыклад: абаронца, вораг, арганізатар, мудрэц, тэрмінатар, стваральнік, інтэгратар... Існуе больш як дзесятак такіх асноўных функцый, прычым кожны палітык можа валодаць некалькімі функцыямі. І якраз адна з рысаў таленту палітыка ці публічнага грамадскага дзеяча — у мажлівасці транслявацьгэтыя функцыі выбаршчыкам, а перад гэтым вызначыць тыя функцыі, якія неабходныя, якіх чакае большыня насельніцтва.

**ІДЭАЛАГЕМНАЕ ПОЛЕ** – паняцце, якое адлюстроўвае сукупнасць ідэалагемаў у свядомасці чалавека ці вялікіх груп людзей. І.П. мае стрыжнёвую ідэалагему і перыферыйныя. У ідэалагемнае поле ўваходзяць сімвалічна-функцыянальныя фігуры і сацыяльныя ідалы. Напрыклад: "інтэгратыўнае" ідэалагемнае поле для савецкіх беларусаў мае стрыжнёвую ідэалагему – "восстановим разрушенные связи". Перыферыйныя ідэалагемы – "демократы все развалили", "запад руками дерьмократов уничтожил великий Советский Союз", "все беды от развала великой страны". Ідалы: АБАРОНЦА – той, хто "не голосовал за развал Союза" і "стремится восстановить его". ВОРАГІ — "демократы и националисты, которые развалили Союз и действуют под диктовку Запада".

**АДЧУЖАНАСЦЬ** – сацыяльна-псіхалагічны стан чалавека, калі ад яго сістэма адбірае ці ўласнасць, ці права выбару, ці нават уласнасць на свае эмоцыі.

**СВАБОДА АД...** – ёсць два тыпы свабоды. Калі чалавек адчувае сябе свабодным ад залежнасці ці ад чалавека, ці ад грошай, ці ад закона, ці ад маралі – гэта ёсць свабода "ад".

**СВАБОДА ДЛЯ...** — гэта паняцце адлюстроўвае стан чалавека, калі ён мае мажлівасць для творчасці.

Бывае, што чалавек адначасова адчувае сябе свабодным "ад" і свабодным "для".

Адметнасць чалавека таталітарнага грамадства ў тым, што ён знаходзіцца ў стане татальнага падпарадкавання сістэме і пры гэтым не адчувае ніякай адказнасці за свае ўчынкі, за свой выбар. Гэтыя два супрацьлеглыя станы перажываюцца так, што чалавек не заўважае сваёй падначаленасці, дакладней, яму ў гэтым дапамагае ідэалагічная сістэма, якая ствярае ідэалагемныя палі. Але затое ён адчувае сябе свабодным ад выбару, рабства ўспрымаецца чалавекам суб'ектыўна як стан свабоды. А свабода выбару для яго ёсць сапраўднае рабства, бо ён прывык, што выбар

за яго робіць нехта зверху. У часы таталітарнай дзяржавы шэраг спецыялістаў на заводах, атрымаўшы вышэйшаю адукацыю, заставаліся працаваць ля станкоў. Тлумачылі гэта большымі заробкамі, але пры гэтым ужываліся ідэалагемы накшталт "*не хочу брать на себя ответственность*", "*пускай у начальника голова болит, а я отпахал у станка и свободен*".

**АРХЕТЫП** – паняцце, якое адлюстроўвае псіхічны карэлят інстынктаў. Архетыпы ёсць самаўспрыманне інстынктаў, найбольш старажытныя і найбольш універсальныя мысляформы. Яны фарміруюцца вынікам сумеснага ўплыву першапачатковай структуры псіхічнага й таго, што пастаянна адкладаецца падчас паўтарэння дзейнасных структураў у досведзе чалавецтва.

Архетыповыя сітуацыі ўключаюць у сябе: нараджэнне, дасягненне палавой спеласці, заляцанні, палавую сувязь, шлюб, смерць.

Калі ў чалавека ўзнікае інтэнсіўная эмацыйная рэакцыя, напрыклад страх за жыццё, захапленне каханнем, нянавісць, нараджэнне дзіцяці, тады абуджаецца архетып. Ён можа ўзнікнуць у сне, фантазіі, рэальным жыцці. Архетып аказвае на чалавека моцны ўплыў, і ў выніку чалавек трапляе ці ў гіпнатычны стан, ці, наадварот, адчувае моцнае жаданне дзейнічаць.

Асабліва моцна праяўляецца дзеянне архетыпа ў дзяцей, дэсацыялізаваных асобаў, у людзей падчас сацыяльна-палітычных катаклізмаў.

Архетыпы бываюць калектыўныя і індывідуальныя. З калектыўных можна асобна вылучыць архетып групы, якая згуртавалася (згадайце ідэалагему: "теснее сплотимся вокруг родной партии и дорогого вождя..."), групы ў дзеянні, групы, падпарадкаванай правадыру. Групавыя архетыпы звязаны, як правіла, з асабовымі – такімі, як архетып сям'і, шамана, правадыра.

Паняцце АРХЕТЫП у аналітычную псіхалогію ўвёў вучоны Карл Густаў Юнг. Ён засведчыў, што запазычыў яго ў Св. Аўгусціна.

**ПСІХІЧНАЯ ІНФЛЯЦЫЯ** (тэрмін Юнга) – паняцце, што адлюстроўвае псіхічны стан чалавека, які пачынае ўспрымаць сябе ці вобразам абуджанага архетыпа, ці вобразам калектыўнага несвядомага, калі функцыі гэтага вобраза значна шырэйшыя за дыяпазон уласных функцыяў чалавека.

У гэтым стане чалавек як быццам бы прыватызуе псіхічныя якасці, якія ў сапраўднасці яму не належаць. Ён як бы псіхічна пашыраецца (надзімаецца). Прыкладам можа служыць атаясамленне чалавекам сябе з пасадаю. На вынік працы калектыву працуе мноства людзей, а кіраўнік можа цалкам прыпісваць вынікі іхнай працы сабе.

Дэпутат Дзяржаўнай Думы Расіі Галіна Старавойтава, якую застрэлілі ў лістападзе 1998 года, у размове з журналістам так апісвала свае пачуцці падчас мітынгу:

"*Меня иногда возносит. На митинге я иногда чувствую слияние с людьми и меня как бы поднимает невидимая сила... Политик всегда немного актер и лицедей*". (НТВ. 31.05.97; повтор после ее убийства 21.11.98, 17-00.)

**ПСІХІЧНАЯ ДЭФЛЯЦЫЯ** (тэрмін Юнга) – паняцце, якое адлюстроўвае псіхічны стан чалавека, што атаясамлівае сябе з неўсвядомленай групай людзей, супольныя псіхічныя якасці якіх значна вузейшыя ад дыяпазону ўласных якасцяў асобы. Прыкладам такіх выпадкаў могуць быць групы нацменшасцяў, якія грамадства лічыць непаўнавартаснымі. У такім стане былі негры ў ЗША, габрэі ў Нямеччыне й СССР. Сёння ў гэты стан непаўнавартасных улады імкнуцца загнаць свядомых беларусаў, прычым загнаць як у свядомасці самаўсвядомленых беларусаў, так і ў свядомасці "пашпартных" грамадзянаў. Вось яскравы прыклад такога працэсу:

"*Я часто вам говорю, что три года я вас на плечах несу*!" (А. Лукашенко. Из выступления в Гродно. Телетрансляция по БТ 5 марта 1998 года.)

"*Я свой народ два года перед собой как маленького ребенка несу, боясь где-то упасть. Ибо упадешь — все развалится, на кусочки развалится*". (А. Лукашенко, "Русский курьер", 20—27 декабря 1996 г.). **(Маленького ребенка!)**

«*Люди, которые говорят на белорусском языке, не могут делать ничего, кроме как разговаривать на белорусском языке, потому, что по-белорусски нельзя выразить ничего великого. Белорусский язык — бедный язык. В мире существуют только два великих языка — русский и английский*». (А. Лукашенко. Из выступления на сессии Гомельского горсовета 1 декабря 1994 г. "Народная газета", 1 февраля 1995 года; "Свабода", 18 чэрвеня 1996 г.). **(Белорусский язык — бедный язык!)**

«*У меня никогда не было своей собственной жизни, только жизнь этих людей!*» (Из выступления Лукашенко перед делегатами учредительного съезда белорусского патриотического союза молодёжи 21 мая 1997 г.). У гэтым выказванні яскрава праяўляецца дэфляцыя Лукашэнкі да такой сумы якасцяў групы людзей, як ідалаізаваная вера яму. Вера, якой сілкуецца Лукашэнка.

**ЦЕНЬ** (калектыўны й асабовы) (тэрмін Юнга) – паняцце, якое адлюстроўвае другі бок свядомай асобы. Гэта ніжэйшая частка асобы, якую чалавек не прызнае, яна несумяшчальная з нашым свядомым Я. Зместам ценю ёсць сукупнасць усіх непрыцягальных, непрывабных якасцяў, якія мы імкнёмся хаваць. Цень падвяргаецца інтэнсіўнаму выцісканню са свядомасці. Колькасна значная частка людзей жыве без ценю.

**ПРАЕКЦЫЯ ЦЕНЮ** (тэрмін Юнга). Як правіла, цень выціскаецца чалавекам не ў небыццё, а накладаецца на іншую асобу ці групу людзей – ворага. Гэты працэс і ёсць праекцыя. Ворагу прыпісваецца ўсё тое адмоўнае, што мае сам чалавек. Адсюль такая прывабная для людзей роля ў блазнаў, клоунаў. Палітыкі таксама могуць выконваць ролю ценю. Падчас усведамлення чалавекам свайго ценю яго можа напаўняць "д'ябальская энергія". Лепшы спосаб усвядоміць свой цень – гэта звярнуць сваю ўвагу на тых, хто выклікае асабліва моцны неспакой, варожасць і злосць.

**ІДАЛАІЗАЦЫЯ** — паняцце, якое адлюстроўвае працэс набыцця суб'ектам ірацыянальнай веры ў свядомасці вялікіх групаў людзей ці аднаго чалавека паводле пэўных функцыяў і давядзенне гэтай веры да 100%-ых параметраў. Базавымі функцыямі пры гэтым ёсць вера ў мажлівасць суб'екта ўтвараць цуды, вера ў тое, што ён валодае бязмежным энергетычным патэнцыялам.

**ДЭІДАЛАІЗАЦЫЯ** — паняцце, якое адлюстроўвае працэс разбурэння веры ў ідалаізаваныя функцыі суб'екта ў свядомасці групаў людзей ці аднаго чалавека.

Самы першы глабальны працэс дэідалаізацыі вядомы з узнікненнем іудаізму й хрысціянства. Вось як апісвае гэта Э.Фром:

"*Бог Старога Запавету – гэта перш-наперш адмаўленне ідалаў-багоў, якіх чалавек можа мець. Паняцце Бога з самага пачатку трансцэндэнтнае, хоць, мажліва, яно створана паводле аналогіі з якім-небудзь усходнім уладаром. Бог не павінен мець імя, забаронена рабіць любыя ягоныя выявы. З развіццём іудаізму й хрысціянства робіцца спроба дасягнуць поўнай дэідалаізацыі Бога, ці – дакладней – спроба барацьбы з небяспекаю ператварэння яго ў ідала з дапамогаю пастулавання немагчымасці якіх-кольвечы сцверджанняў аб якасцях Бога*". (Фромм Э. Иметь или быть. Киев, 1998, С. 230.)

**РЭІДАЛАІЗАЦЫЯ** — паняцце, якое адлюстроўвае працэс змены суб'ектам функцыяў ідала ў свядомасці груп людзей ці асобнага чалавека.

Яскравы прыклад працэсу рэідалаізацыі ўтварыў Лукашэнка напярэдадні другога тура выбараў у Вярхоўны Савет 13-га склікання ўвосень 1995 года, калі ветэраны сабраліся ў Доме афіцэраў на сустрэчу з ім. За некалькі дзён перад гэтым ён зняў з пасады міністра ўнутраных спраў генерала Юрыя Захаранку. Выступаючы перад ветэранамі, ён паведаміў пра гэта і сказаў, што прызначыў па пасаду міністра МУС маладога чалавека (Шэймана), які за некалькі дзён арыштаваў дзесятак афіцэраў вышэйшага каманднага саставу. Такім чынам, Лукашэнка правёў дэідалаізацыю Захаранкі як "тэрмінатара" – падарваў да яго давер, надаўшы яму статус дрэннага чалавека; адначасова Лукашэка ідалаізаваў Шэймана як "тэрмінатара" — заклаў падмурак веры ў яго тэрмінатарскія здольнасці. І тым самым рэідалаізаваў сябе з "тэрмінатара" ў "арганізатара", які своечасова зрабіў замену кадраў. У гэтым фрагменце выступу Лукашэнкі мы маем прыклад трайной рэідалаізацыі.

**РАСЧАЛАВЕЧВАННЕ** – працэс атаясамлення выбітнай асобы з жывёлаю і выпячванне адмоўных рысаў гэтай жывёлы – такіх, як злоснасць, куслівасць, агрэсіўнасць і г.д.

**РЭПРЭСАВАННЕ БАЗАВЫХ ІНСТЫНКТАЎ** – паняцце, якое адлюстроўвае працэс уздзеяння на свядомасць чалавека альбо вялікіх групаў людзей з мэтаю ці падавіць базавы інстынкт, ці, наадварот, справакаваць яго, узбудзіць яго праяву.

Так, напрыклад, рэпрэсіі 30-ых гадоў прывялі да таго, што людзі баяліся ў размовах ужываць прозвішчы кіраўнікоў дзяржавы ці ацэньваць лад. Страх за наступствы такіх размоваў захаваўся у старых людзей па сённяшні дзень.

Шэраг людзей, якія адседзелі ў турмах ды лагерох амаль усё сваё жыццё, на волі не могуць існаваць. Яны не прыстасаваныя для пошуку месца працы, выбару. За кратамі яны адчуваюць сябе свабоднымі. У іх рэпрэсаваны інстынкт свабоды.

Бальшыня калгаснікаў не хоча браць зямлю. За час жыцця ў калгасе яны пазбавіліся пачуцця ўласніка і гаспадара свайго жыцця і, адпаведна, набылі страх перад адказнасцю. Ён замацоўваецца чыноўнікамі, што мучаць фермераў.

Рэпрэсаванне базавых інстынктаў у адных можа прывесці да актыўных пратэстных дзеянняў, а у другіх да абыякавасці і знікнення адчування праяў базавага інстынкту.

Перш чым давесці сваё разуменне таго, што сабой уяўляе беларуская нацыянальная ідэя, на мой погляд, неабходна дэталёва разгледзець структуру менталітэту беларусаў. Бо менавіта элементы гэтай структуры ўспрымаюць беларускую нацыянальную ідэю, рэагуюць на яе розныя формы і ці ўспрымаюць яе як сваю, ці адчужаюць.

Відавочны факт, што беларусы не аднолькавыя. Паводле тых ці іншых крытэрыяў можна вылучыць дзесяткі сацыяльных групаў насельніцтва Беларусі. Тым не менш існуе некалькі асноўных груп, якія можна падзяліць паводле *ступені таталітарызацыі менталітэту*, наяўнасці прыярытэтнага ірацыянальнага альбо рацыянальнага слоя, а таксама паводле ступені адчужанасці нацыянальнай ідэі ад насельніцтва і самаідэнтыфікацыі грамадзян як прыналежных да беларускай нацыі.

Вынікі аналізу функцыянавання менталітэту беларусаў, а таксама шматлікія эксперыменты, праведзеныя аўтарам на працягу апошняга дзесяцігоддзя, прывялі да пабудовы мадэлі менталітэту таталітарнай групы насельніцтва, якая, на мой погляд, на сёння колькасна самая вялікая.

Гэтая мадэль складаецца з трох табліц:

1. Табліца псіхалагічных элементаў структуры таталітарнага менталітэту.
2. Табліца ідэалагем таталітарнага менталітэту.
3. Чатырохузроўневая структура псіхікі паводле П.Сарокіна.

Звычайна ўжываецца двухузроўневая структура псіхікі з наяўнасцю свядомасці і падсвядомасці.

Наша канцэпцыя палітычнай псіхалогіі грунтуецца на чатырохузроўневай мадэлі П.Сарокіна.

**1. Біялагічна-неўсведамляльнае.** На гэтым узроўні функцыянуюць інстынкты і рэфлексы, галоўныя з якіх — інстынкт самазахавання, пачуццё страху смерці, наяўнасць смерцяноснага ідалу і абароны ад яго.

**2. Біялагічна-ўсведамляльнае.** На гэтым узроўні дамінуюць каштоўнасці жыцця, здароўя, якія свядома асэнсоўваюцца і абмяркоўваюцца.

**3. Соцыя-культурная свядомасць.** Тут у менталітэце асобы функцыянуюць каштоўнасці вялікіх супольнасцяў людзей. Такіх, як працоўны калектыў, партыя, грамадская супольнасць, дзяржава, нацыя.

**4. Звышсвядомасць "ЭГА".** Усведамленне чалавекам сябе (ці групы людзей) непаўторным, унікальным, выбітным, геніяльным.

У кожнага чалавека прысутнічаюць усе чатыры ўзроўні, але ступень іх развіцця бывае розная (П.Сорокин. Дальняя дорога. М., 1992. С.210).

## 1. Біялагічна-неўсведамляльнае

На гэтым узроўні псіхікі — узроўні інстынктаў і рэфлексаў — галоўныя каштоўнасці чалавека гэта:

самазахаванне, захаванне жыцця дзяцей, інстынкт працягу роду, уласнасць, вольнасць.

Усе базавыя інстынкты могуць быць рэпрэсаваныя сацыяльнымі дзеяннямі ці інфармацыйнымі тэхналогіямі. Так, напрыклад, падчас рэвалюцыі ў Францыі часоў Парыжскай Камуны асноўны лозунг, які вывеў людзей на вуліцы, гучаў так:

«*Пралетарыі! Калі не хочаце, каб вашы дочкі і жонкі змушаныя былі пайсці прастытуткамі на панель, каб яны кладіся ў ложак да буржуяў, зарабляючы сабе на харчаванне, — на барыкады*!» Тут рэпрэсаваўся сексуальны і ўласніцкі інстынкт. Гэты факт адлюстраваны ў французскай навукова-даследчай літаратуры і ў заснавальніка сусветна вядомай школы псіхалогіі П.Сарокіна.

Ёсць людзі, пазбаўленыя інстынкту самазахавання. Дзяржава пры неабходнасці выкарыстоўвае сацыяльна-інфармацыйныя тэхналогіі для блакавання праяваў інстынкту самазахавання. Дыяпазон іх сэнсаў утрымлівае інфармацыю ад поўнага ўтойвання звестак пра смяротную пагрозу жыццю да распальвання патрыятычных пачуццяў і ідалаізацыі гераізму. Прыкладам можа быць вайна ў Афганістане, якую развязала імперыя СССР. Калі бацькі адпраўлялі хлопцаў служыць і ведалі, што, мажліва, сын загіне, наладжваліся вясёлыя папойкі.

## 2. Біялагічна-ўсведамляльнае

На гэтым узроўні псіхікі існуюць каштоўнасці, звязаныя з тымі ж праблемамі, што на першым узроўні, але тут яны асэнсоўваюцца чалавекам. Ён можа разважаць пра сродкі падтрымання здароўя — ежу, фізкультуру ды спорт, медыцыну.

Напрыклад, чалавек разважае пра сэнс жыцця і смерці. Тут жа існуюць ідэалагемы. Напрыклад: «Жыццё даецца чалавеку толькі адзін раз, і пражыць яго трэба так, каб не было сорамна за дарэмна пражытыя гады». Ці: «Жыццё ў гэтым свеце ёсць падрыхтоўка да жыцця ў свеце Боскім». На фарміраванне каштоўнасцяў гэтага ўзроўню псіхікі ўплываюць веды і ўсе тыпы веры.

## 3. Соцыя-культурная свядомасць

На гэтым узроўні псіхікі існуюць каштоўнасці, якія звязаны з сацыяльным і палітычным асэнсаваннем жыцця. Напрыклад такія каштоўнасці, як незалежнасць, суверэнітэт, нацыянальная ідэя, рынкавая эканоміка, прававая дзяржава, правы чалавека. Ці каштоўнасці адваротнага кшталту: "буржуазная демократия", «все, что делается в интересах

## Табліца псіхалагічных элементаў структуры таталітарнага менталітэту
### (паводле Уладзіміра Падгола)

| Ідэалагемныя характаралагічныя рысы | Характаралагічныя рысы | Ірацыянальная вера ў | РАЦЫЯНАЛЬНАЯ ВЕРА | Ірацыянальныя чаканні | Сацыяльныя каштоўнасці | Ідалы | Функцыянальна сімвалічныя фігуры | ІДЭАЛАГЕМЫ | Суб-культура | Асноўныя сацыяльныя станы і пачуцці | Асноўныя страхі | Рэакцыі на падначаленасць | Адчужанасць |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Талерантнасць | Агрэсіўнасць | Цуд | | *Нападу ворагаў і з'яўлення ідалаў:* | Незалежнасць Суверэнітэт | Тэрмінатар ідэалагемаў | Тэрмінатар ідэалагемаў | | Канфесійная | Падначаленасць Адчужанасць | Смерці Невядомасці | Рабскі мазахізм | Ад самога сябе |
| Памяркоўнасць | Вольналюбства | Абсурд | | 1. Вораг-смяротны<br>2. Вораг-біялагічны | Адраджэнне правы | Тэрмінатар сістэмы | Тэрмінатар сістэмы | | Нацыянальная | *Асноўныя пачуцці:* | Страціць жыццё | Садыстычны кар'ерызм | Ад моцы Ад прыроды |
| Разважлівасць | Мудрасць | Невераґоднае | | 3. Вораг-сацыякультурны | Рынкавыя дачыненні | Ахвяра Асілак | Ахвяра Асілак | | Рэгіянальная | 1. Страх | Страціць секс-сілу | Барацьба з сістэмай | Ад розуму |
| Рахманасць | Экстравертызм | Немагчымае | | 4. Вораг-геніяльнасці<br>5. Вораг-пераварацень<br>6. Вораг-здраднік | Рэформы | Пераможца | Пераможца | | Інтэлектуальная | 2. Агрэсіўнасць<br>3. Абыякавасць<br>4. Смехавая агрэсія | Згубіць працу | Пабег ад сістэмы | Бацькоў ад дзяцей |
| Паслухмянасць | Ганарлівасць | | | | *Рэпрэсаваныя базавыя інстынкты:* | Мудрэц Слуга Гаспадар | Мудрэц Слуга Гаспадар | | Прававая<br>Эстэтычная | 5. Адчуванне уласнай слабасці<br>6. Зайздрасць | Захварэць Голаду | Імітацыя падпарадкаванасці | Ад нармальнага жыцця |
| Пакорлівасць | Неразважлівасць | | | *Разгрому ворагаў і з'яўлення ідалаў:* | 1. Самазахавання | Уладар | Уладар | | Сямейная | 7. Адчуванне моцы дзяржавы | Рэпрэсіяў | | Ад уласнасці |
| | Даверлівасць | | | 1. Асілка<br>2. Пераможца | 2. Страўнікавы | Аскет | Аскет | | *Ідэалагемныя палі:* | 8. Упэўненасць у заўтрашнім дні | Астракізму белай вароны | | Ад працэсу працы |
| | Зухава-тасць | | | 3. Тэрмінатара<br>4. Абаронцы | 3. Сексуальны<br>4. Вальналюбства | Шчыры | Шчыры | | 1. Садамазахісцкае | *Асноўныя арыентацыі:* | Згубы саматоеснасці | | Ад вынікаў працы |
| | | | | *Пабудовы зямнога раю і з'яўлення ідалаў:* | 5. Уласніцкі<br>6. Бацькоўскі | Сумленны | Сумленны | | 2. Патэрналісцкае | 1. Садамазахісцкая<br>2. Патэрналісцкая | Адзіноты | | Ад выбару адказнасці |
| | | | | 1. Цудатворцы-стваральніка | | Пракурор Падсудны | Пракурор Падсудны | | 3. Спажывецкае<br>4. Деструктыўнае | 3. Спажывецкая<br>4. Деструктыўная | Граху | | Ад свабоды |
| | | | | 2. Слугі<br>3. Гаспадара | | Вораг | Вораг | | 5. Стваральнае | 5. Стваральная | | | |

Пераходныя станы трансфармацыі менталітэту:
Лабірынт (заблытанасць), падзеленасць псіхікі.
Страх, разгубленасць, злосць, нянавісць.
Ірацыянальныя чаканні ідалаў -- мудраца і інтэгратара ідэалагемнага поля.
Абуджэнне архетыпаў і пераносцэну.
Уцёкі да ідалаў на новыя ідэалагемныя палі.

Выціснутыя пачуцці і эмоцыі.
Архетыпы, якія спяць:
Ваяра, уладара, шамана, бацькі, маці, гаспадара, слугі, абаронцы, агрэсара.
Архетыпы багоў:
Пяруна, Дажбога, Хіхатуна, Ярылы.



## Табліца
## Структуры асноўных станаў і пачуццяў з ідэалагемамі і сімвалічна-функцыянальнымі фігурамі таталітарнага менталітэту

| АДЧУЖАНАСЬЦЬ АД | ІДЭАЛАГЕМЫ | СІМВАЛІЧНАФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ ФІГУРЫ Й ІДАЛЫ |
|---|---|---|
| БАЦЬКОЎ АД ДЗЯЦЕЙ | Яйца курицу не учат.<br>Дети жизни не видели.<br>Не лезь наперед батьки в пекло<br>*Родители отстали от жизни* | Отпрыски, чадо.<br>Предки, старики.<br>Обыватели, мещане. |
| ЗДОЛЬНАСЦІ ЛЮБІЦЬ | Стерпится—слюбится.<br>Живу с ним только ради детей.<br>Не поможет грация, спасет парторганизация. | Развратник,<br>проститутка. |
| РОЗУМУ, ВЕДАЎ | Всю жизнь учись, а дураком помрешь.<br>Одни неприятности от этих умников.<br>Мы университетов не кончали.<br>Знания--сила<br>Ученье—свет, а неученье—тьма.<br>Пусть другие думают.<br>Індюк думал-думал и в суп попал.<br>Тоже мне пророк. | Іванушка-дурачок, дурак.<br>Самый образованный в мире народ.<br>Знаток.<br>Умник.<br>Гнилая интелигенція.<br>Слишком умный нашелся. |
| ТВОРЧАСЦІ | Поэтом можешь ты не быть, а гражданином быть обязан.<br>Мы рождены, чтоб сказку сделать былью.<br>Інициатива наказуема.<br>Придумал на свою голову.<br>Советские ученые — лучшие в мире изобретатели | Ізобретатель,<br>Новатор.<br>Волшебник.<br>Народ — творец.<br>Созидатель. |
| ВЕРЫ Ў БОГА | На Бога надейся, а сам не плошай.<br>Бог дал, Бог и взял. | Праведник, святоша |
| АГУЛЬНАЧАЛАВЕЧАЙ МАРАЛІ | Каб мець радасці і шчасце трэба красці, красці, красці. | Советский народ -- самый гуманный, прогрессивный отряд всего человечества. |
| МОЦЫ | Все силы отдал производству.<br>Спорить с начальством,<br>что плевать против ветра.<br>У нас самая сильная в мире армия,<br>КГБ, спортсмены.<br>Единица — ноль, единица — вздор,<br>голос единицы тоньше писка. | |
| НАЦЫІ | Националисты – это фашисты<br>"Белорусов и русских связывает вечная дружба и кровь, пролитая на полях сражений".<br>"Беларусы — самы інтэрнацыянальны народ". | Националист, буржуазные националисты.<br>Интернационалист. |
| САМОГА СЯБЕ | Прежде думай о Родине, а потом о себе.<br>Если в партию сгрудились малые – сдайся враг, замри и ляг! | Самоотверженный,<br>жертвенный,<br>Человек с большой буквы.<br>Винтик. |
| НАРМАЛЬНАГА ЖЫЦЦЯ | Быть богатым и честным – невозможно.<br>Зато они бездуховны.<br>Хоть на пенсии поживу.<br>Бедность – не порок<br>Из-за честности страдаю.<br>Не в деньгах счастье.<br>С милым рай в шалаше. | |
| УЛАДЫ | Каждый сверчок знай свой шесток.<br>Все равно от нас ничего не зависит.<br>Пусть начальство думает. | Пешка,<br>бюрократ. |

| | | |
|---|---|---|
| | Плясать под чужую дудку.<br>Без меня меня женили. | |
| ЗАКОНАЎ | Закон — што слуп, у лоб не возьмеш, а аб'ехаць можна.<br>Закон — што дышла, куда павернеш, тое і выйшла.<br>Для начальства законы не писаны. | Законник. |
| ПРЫРОДЫ | Мы не должны ждать милостей от природы; взять их — наша задача. | Покоритель, преобразователь. |
| ПРАЦЭСУ ПРАЦЫ, ВЫНІКАЎ ПРАЦЫ, СРОДКАЎ ПРАЦЫ | Работа не волк – в лес не убежит.<br>Дурака работа любит.<br>Кто тянет на том и везут.<br>От работы кони дохнут.<br>Тише едешь – дальше будешь. | Бездельник, халтурщик.<br>Папа-Карло.<br>Бурлак.<br>Ударник. |
| УЛАСНАСЦІ | Все вокруг колхозное, все вокруг мое.<br>Беречь народное добро. | Общенародная собственность. |
| АД ВЫБАРУ | Голосуй не голосуй — все равно получишь... кукиш. | |
| ГІСТАРЫЧНАЙ ПАМЯЦІ | Угнетатели буржуи и кулакивместе с царем эксплуатировали народ.<br>Борьба классов – движущая сила истории | Эксплуататоры, угнетатели, рабы. |

**ІДЭАЛАГЕМЫ-АЛІБІ НА АПРАЎДАННЕ АСНОЎНЫХ СТАНАЎ І ПАЧУЦЦЯЎ**

| | | |
|---|---|---|
| ПАДПАРАДКАВАНАСЦІ | Начальник строгий, зато справедливый. | |
| АБЫЯКАВАСЦІ | Все равно ничего от меня не зависит.<br>А нам все равно.<br>Своя рубашка ближе к телу.<br>Моя хата с краю – ничего не знаю. | |
| СТРАХУ СМЕРЦІ | Детей в люди вывел — помирать можно. | |
| СТРАТЫ ЖЫЦЦЯ | Наши дела будут жить в веках. | |
| НЕВЯДОМАСЦІ, ШТО БУДЗЕ ПАСЛЯ СМЕРЦІ | О мертвых либо хорошо, либо ничего.<br>Двум смертям не бывать, а одной не миновать.<br>Живее всех живых. | |
| АСТРАКІЗМУ | С волками жить – по-волчьи выть.<br>Мне с ними детей не растить.<br>В чужой монастырь со своим уставом не лезь.<br>Один за всех и все за одного.<br>Больше всех надо...<br>В семье не без урода.<br>Большому кораблю большое плавание | Белая ворона.<br>чужой,<br>выскочка,<br>подхалим,<br>свой в доску,<br>казанская сирота,<br>угодник, |
| АДЗІНОТЫ | За компанию и цыган повесился. | Отшельник, монах. |
| ВЫБАРУ | Не зная броду, не суйся в воду.<br>Риск — благородное дело.<br>Волков бояться — в лес не ходить. | |
| СТРАТЫ САМАТОЕСНАСЦІ | Кто ж тебя похвалит, как не сам себя. | |
| СВАБОДЫ | Без России мы не проживем. | Старший брат.<br>дружба вечная. |
| РЭПРЭСІЙ | Если враг не сдается — его уничтожают.<br>Выжечь каленым железом.<br>Вор должен сидеть в тюрьме.<br>Лес рубят — щепки летят. | Вредитель, шпион. |



пралетарыята, — честно», «социализм — это диктатура пролетариата», «диктатура — это высшая форма демократии и новый тип государства» (усё — Ленін).

Гэты ўзровень псіхікі неразвіты ў большай паловы насельніцтва Беларусі, і рэжым Лукашэнкі імкнецца законсерваваць яго на гэтым узроўні, блакуючы доступ незалежных СМІ да грамадзян.

Нармальны змест соцыя-культурнай свядомасці ўтрымлівае такія каштоўнасці, вартасці, як "незалежная, вольная дзяржава", "правы чалавека", "прыватная ўласнасць", "хрысціянскія маральныя запаветы". Для характарыстыкі менталітэту вялікай часткі грамадзян нашай дзяржавы вельмі паказальны наступны факт. Пасля таго як Лукашэнка заявіў, што ён "православный атеист", шмат якія людзі з вышэйшай адукацыяй казалі з гонарам, што яны таксама "православные атеисты".

## 4. Звышсвядомасць

Тут ёсць усведамленне сябе як унікальнай, непаўторнай, геніяльнай асобы. Таксама ёсць усведамленне сябе прыналежным да нацыі ці супольнасці выбітных людзей. Адсюль — такая вялікая цяга людзей да спартовых спаборніцтваў.

Ёсць людзі, якія лічаць сябе шэрымі асобамі, ні на што не здатнымі. Гэтых "шрубак" штампуе таталітарная дзяржава. Бо такім народам зручна кіраваць. З беларускай нацыі таксама даволі паспяхова ляпілі рабоў для XXI стагоддзя. Адзін з кірункаў тэхналогіі выцірання са свядомасці ўзроўню звышсвядомасці "эга" — ці скажэнне гістарычных ведаў, ці іх элімінаванне з выкладання гісторыі ў сістэме адукацыі. Так, сусветнавядомыя вучоныя-беларусы, якія пераўзышлі ці апярэдзілі на стагоддзі рускіх ламаносавых і цыялкоўскіх, былі невядомыя некальком пакаленням грамадзянаў Беларусі. Іх прозвішчы былі выкрасленыя з падручнікаў.

Ніжэй у спецыяльным раздзеле будуць названыя некаторыя геніі беларускай навукі, культуры, філасофскай думкі.

## Раскрыццё зместу асноўных блокаў таталітарнага менталітэту і тлумачэнні

Структура асноўных блокаў і элементаў менталітэту беларусаў мянялася з цягам часу пад уздзеяннем як сацыяльных трансфармацыяў грамадства, так і пад уплывам інфармацыйных тэхналогіяў.

Аб асноватворных элементах менталітэту беларусаў Вялікага Княства Літоўскага сведчаць ідэалагемныя выказванні філасафа-публіцыста А.Валяна: *"З усіх рэчаў людскіх найпякнейшая ёсць вольнасць. Няволя ж – горшая нават за смерць"*. (Цытуецца па кн.: Саверчанка І. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі. Мінск, 1998. С.60.) Валян прыводзіў прыклады, калі *"людзі добраахвотна ішлі на смерць, абы не трапіць у палон"* (тамсама). Сэнс паняцця "воля" Валян абумоўліваў "правам": *"Там дзе няма месца праву, там няма волі"* (тамсама).

З таго часу шмат войнаў пракацілася па Беларусі. Мянялася ўлада. Трансфармаваўся змест страхаў, ідэалагем, ідалаў.

Сённяшні стан менталітэту даволі вялікай часткі насельніцтва Беларусі можна апісаць наступным прыкладам:

Падчас рэферэндуму ў лістападзе 1996 года ў Лідзе адна бабулька падышла з бюлетэнем да урны і пачала вагацца: кінуць ці не. Міліцыянт заўважыў гэта і вырашыў дапамагчы ёй, думаючы, што яна не ведае, як укінуць бюлетэнь. Ён працягнуў руку і са словамі "давайце дапамагу" ўзяў паперу. Бабуля ўчапілася і не аддавала бюлетэнь. Кожны цягнуў да сябе, і кавалак бюлетэня адарваўся і апынуўся ў руцэ міліцыянта. Бабуля са словамі "Усё роўна вы яго змарнуеце!", скамячыла бюлетэнь, запіхнула яго ў рот, пражавала і праглынула. Потым падбегла да партрэта Лукашэнкі, пацалавала яго і з выразам шчасця на твары хуценька пайшла да выхаду. Члены выбарчай камісіі і міліцыянты аслупянелі.

(Бачыла і расказала Лілія Сазанавец з Ліды.)

А маральныя арыенціры кіраўніцтва дзяржавы за гэты час дасягнулі вяршынь мазахізму. *"Я на коленях готов ползти в Россию!"* — менавіта так заявіў Лукашэнка па тэлебачанні на ўсю краіну з трыбуны скліканага ім "усенароднага сходу" 19 кастрычніка 1996 года, напярэдадні рэферэндуму.

### *ЗМЕСТ РАЦЫЯНАЛЬНА-ПРАКТЫЧНАЙ ВЕРЫ ЛЮДЗЕЙ З ТАТАЛІТАРНЫМ МЕНТАЛІТЭТАМ (ТРЭЦІ ЎЗРОВЕНЬ ПСІХІКІ)*

Беларусы вераць, што змогуць выжыць пад любой уладай. (Пад палякамі жылі і выжылі, пад саветамі выжылі, пад гітлераўцамі — таксама.) Адпаведна і стаўленне да саюза Расія—Беларусь спакойнае. У большасці насельніцтва адносіны да саюза на мяжы абыякавасці. Людзі мяркуюць: "У СССР жылі добра, без СССР выжылі і ў саюзе Расія — Беларусь горш не будзе".

**ІРАЦЫЯНАЛЬНАЯ ВЕРА Ў ЦУД, АБСУРД, НЕВЕРАГОДНАЕ**

Прыклады веры ў абсурд. У Расіі крызіс. Людзі не атрымліваюць заробкаў, зніклі тавары, узляцелі цэны. За тавары, якія паставілі ў Расію з Беларусі, расійцы не плацяць — няма грошай. Эканамічны крызіс у Расіі выклікаў рэзкае пагаршэнне жыцця насельніцтва Беларусі, і нават Лукашэнка пра гэта кажа, але ў гэты ж час цвердзіць пра неабходнасць інтэграцыі і вылучае прапанову аб агульным грамадзянстве, парламенце... І "советские белорусы" вераць у... імгненнае паляпшэнне жыцця ад інтэграцыі з крымінальна-жабрацкай Расіяй.

### СУБКУЛЬТУРНЫЯ БЛАКІРАТАРЫ

Фактары, матывы, каштоўнасці, якія валодаюць дзвюма функцыямі:

1. Абмяжоўваюць непасрэдныя псіхічныя рэакцыі і іх праявы.
2. Блакуюць ператварэнне асобы ў шрубку (вінцік).

Таталітарная сістэма імкнецца цалкам падначаліць сабе чалавека. Дзеля гэтага яна разбурае культуру ці адчужае яе ад чалавека. На першых этапах фарміравання лідэры таталітарнай сістэмы выкарыстоўваюць рэпрэсіўныя механізмы. Калі апаненты сістэмы вынішчаюцца, сістэма імкнецца звесці да мінімуму ўплыў рэпрэсіўнага механізму на чалавека і замяніць яго фарміраваннем ірацыянальнай веры ў каштоўнасці таталітарнай сістэмы. Пры гэтым захоўваецца рэпрэсіўны механізм для іншадумцаў.

Перашкодай на шляху татальнага падпарадкавання чалавека сістэме ёсць культура ў розных формах. Вось чаму ў 1917 годзе, пасля ўсталявання ўлады з таталітарнай ідэалогіяй, сістэма пачынае змагацца з тымі, каму людзі вераць больш за ўсё. Бальшавікі скіравалі сваю дзейнасць, акрамя падаўлення супраціўлення старой улады, на знішчэнне ўлады над розумам людзей: веры ў Бога, веры ў інтэлігенцыю, сям'ю, нацыю, мясцовыя традыцыі. Цэрквы ўзрывалі, званы скідалі, частку цэркваў прыстасоўвалі пад сховішчы ці месца ўтрымання скаціны. Камсамольцы хадзілі па дамах і зрывалі з кутоў абразы. Вельмі добра працэс вынішчэння субкультурных блакіратараў паказаны ў творы В.Быкава "Аблава".

Сямейныя каштоўнасці вынішчаліся, і сістэма імкнулася штампаваць Паўлікаў Марозавых. Аўтарытэт роднага бацькі рабіўся значна ніжэйшым за аўтарытэт «вялікага Бацькі». Лукашэнка пайшоў гэтым самым шляхам.

Нацыянальная інтэлігенцыя вынішчалася. Асабліва шмат у працэнтных адносінах было знішчана беларускіх дзеячаў культуры. Рэпрэсіі на Беларусі пачаліся ў 20-ыя гады.

пункту гледжання, на мой погляд, трэба было б пакінуць Вярхоўны Савет. Але тады ўзнікала пагроза, што працэсы інтэграцыі з Расіяй былі бы фарсіраваныя. А ў той час камуністы баяліся фронтаўцаў, і іхняя прысутнасць у Вярхоўным Савеце стрымлівала наменклатуру ад хуткай здачы Беларусі. У гэты момант яскрава праявілася праблема супярэчлівасці палітычнай мэтазгоднасці і маральнай чысціні. Яна была вырашана дэпутатамі апазіцыіі ў бок палітычнай мэтазгоднасці.

З гэтага моманту ўзнікае дзіўная сітуацыя. Камуністычныя і афіцыйныя СМІ пастаянна цвердзяць, что ВС працуе пад дыктоўку БНФ. Гэта ж цвердзяць і сябры апазіцыі, і ганарацца, што перамагаюць наменклатуру пры прыняцці шмат якіх рашэнняў. У гэты ж час адбываецца рэзкае пагаршэнне жыцця. І народ звязвае яго з дзейнасцю апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Пакрысе фронтаўцы і рэформы, якія праводзіць Вярхоўны Савет праз прыняцце новага заканадаўства, робіцца варожымі людзям. БНФ набывае сімвалічна-функцыянальную фігуру ВОРАГ на другім узроўні псіхікі – біялагічна-ўсведамляльным, а менавіта: памяншэнне даходаў, падаражанне прадуктаў харчавання звязваюцца з дзейнасцю БНФ і на трэцім узроўні – социякультурнай свядомасці, дзе людзі балюча перажываюць страту працы, падзел на багатых і бедных.

У гэты ж час дзейнасць БНФ на Беларусі канцэнтруецца толькі на дэпутатах апазіцыі. На іх шараговыя фронтаўцы глядзяць як на ідалаў, што вось-вось здзейсняць цуд – перамогуць камнаменклатуру. Слаба вядзецца праца па пашырэнню ўплыву нацыянальнай ідэі сіламі інтэлігенцкай эліты. У гэты момант трэба было выходзіць на людзі, прапускаць праз сваю душу, праз живое слова тысячы людзей. Так БНФ у свядомасці людзей ператварыўся ў палітычную секту, якую ўзначальвалі дэпутаты ад апазіцыі. У статусе варожасці, які ўзнікаў у масавай свядомасці фронтаўцы пераўзышлі нават наменклатуру. Бо тая проста крала і не пагаршала жыццё, а гэтая "сваімі рэформамі абрабавала народ", "дермократы все развалили".

Вось у якім статусе падышоў БНФ да прэзідэнцкай кампаніі, калі да яе заставалася прыкладна паўгода.

Асобна трэба разгледзець трансфармацыі такіх каштоўнасцей трэцяга слоя менталітэту, як незалежнасць і суверэнітэт.

Пасля распаду СССР і утварэння незалежнай Беларусі абсалютная большасць насельніцтва не разумела гэтых каштоўнасцей і ўспрымала іх як выпадковую недарэчнасць.

З гэтага моманту грамадства падзяляецца на тры часткі. Адны хочуць узнаўлення СССР, другія – умацавання незалежнасці, трэція — інтэграцыі ў межах СНГ. Пачынаючы з "рублёвай зоны" Кебіча, палітычная барацьба разгортваецца вакол інтэграцыі з Расіяй. На сёння, нават па прызнанню афіцыйнага тэлебачання, большасць насельніцтва не жадае далучэння да Расіі.

## Трансфармацыя глыбінных арыентацыяў менталітэту насельніцтва Беларусі

Трансфармацыю асноўных псіхічных арыентацыяў менталітэту насельніцтва Беларусі можна падраздзяліць на наступныя этапы.

1. Даперабудовачны этап. Дабрабыт з кожным днём паляпшаецца. На буйных заводах кватэру рабочыя атрымліваюць на працягу 10 год. Расце колькасць прыватных аўтамабіляў, дачаў. Калгасныя механізатары карыстаюцца тэхнікай як сваёй уласнай. Людзям здаецца, што вось-вось наступіць камунізм. Замацоўваецца пачуццё ўпэўненасці ў заўтрашнім дні і адначасова роспач, што цудадзейны камунізм не настае. Адсюль незадаволенасць састарэлым кіраўніцтвам краінай.

**У менталітэце асноўнай масы людзей Беларусі дамінуе** *спажывецкая і накапляльніцкая арыентацыя.*

**2. У Маскве пачынаецца перабудова. Тэлеперадачы з Масквы беларусы глядзяць як нешта несапраўднае, бо на месцах нічога не мяняецца. Папулярны анекдот пра перабудову яна нібы той вецер у лесе: наверсе шуміць, а ўнізе ціішыня. Агульны стан менталітэту** – *здзіўленне і чаканне зменаў у жыцці.*

3. Ідуць першыя дэмакратычныя выбары (1989-90 гады) у Вярхоўны Савет СССР, а потым – у ВС БССР.

**Людзі ўспрымаюць выбары як гульню.** *Узмацняюцца ірацыянальныя чаканні цуду.*

**4. 1991 год. Знікаюць тавары, павышаюцца цэны. Адначасова ходзяць расказы, колькі можна зарабіць, калі павезці тавары на продаж ці ў Югаславію, ці ў Польшчу, ці ў Літву. На фоне пагаршэння жыцця рэзкае ўзбагачэнне асобнай групы людзей выклікае шмат у каго з "советских белорусов" хваробу "чырвоных вачэй". У вялікай групы людзей рэпрэсуецца базавы інстынкт сацыяльнай справядлівасці.** *Асабліва моцна рэпрэсуюць інстынкт вальналюбства ў рабочых злоўжыванні службовым становішчам кіраўніцтва прадпрыемстваў.* **Пачынаецца хваля страйкаў. У Оршы рабочыя выходзяць на рэйкі, спыняючы цягнікі з Еўропы на Маскву. Кіруючая наменклатура ў паніцы.**

Агрэсіўнасць рабочых спадае. Жыццё пагаршаецца. Путч у Маскве выглядае спектаклем. У Беларусі стабільна. Незалежнасць успрымаецца шмат кім як недарэчнасць і часовая з'ява. Трывалым застаецца ўяўленне, што Масква ўсё роўна – цэнтр. У нацыянальна свядомай часткі насельніцтва пэўная эйфарыя.

**Жыццё пагаршаецца, катэджы растуць, іншамаркі мазоляць вочы. У людзей ізноў рэпрэсуецца базавы інстынкт сацыяльнай справядлівасці. Адначасова адбываецца дэідалаізацыя сацыяльных ідалаў і ідэалагемаў і актуалізуюцца ірацыянальныя чаканні** асобы абаронцы-тэрмінатара.

**Лукашэнка чытае антыкарупцыйны даклад. У мазгах "советских белорусов" рэвалюцыя. Зявіўся доўгачаканы АБАРОНЦА-ТЭРМІНАТАР!** *Адбываецца імгненная ідалаізацыя Лукашэнкі ў тэрмінатара. Актуалізуюцца ірацыянальныя чаканні бітвы тэрмінатара з ворагамі.*

Прэзідэнцкія выбары. Нагнятаюцца настрої чакання перамогі АБАРОНЦЫ-ЗБАВІЦЕЛЯ ці ягонай паразы ад карупцыянера Кебіча. Людзі чакаюць цуду і ідуць на выбары ўтвараць гэты ЦУД.

**Абралі! Доўгачаканая перамога! У душах — свята! Наступае супакоенасць і чаканне карных акцыяў. Даклад Антончыка па карупцыі ў камандзе Лукашэнкі не даходзіць да людзей.** *Даклад фарміруе ў свядомасці людзей ідэалагему "ему мешают" і ідала "вораг-шкоднік".*

Вясна 1996-га. Апазіцыя ладзіць "Чарнобыльскі шлях". У менталітэце большыні грамадзян растуць стваральныя арыентацыі і імкненне да самастойнай дзейнасці. **Падчас шэсця "Чарнобыльскі шлях" пераварочваюцца машыны і адбываюцца бойкі. Тэлебачанне інтэнсіўна паказвае праявы экстрэмізму і** *ідалаізуе апазіцыю ў ВОРАГА-ТЭРМІНАТАРА.*

**У Маскве выбары прэзідэнта. Цягам амаль года тэлебачанне з Масквы** *гасіць агрэсіўныя пачуцці. Фарміруюцца чаканні стабільнага жыцця,* **якое забяспечыць дзядуля Ельцын.** *Ад тэрмінатараў у мазгах людзей фарміруюць чаканне небяспекі, дэстабілізацыі.*

Пасля выбараў Ельцына Масква сістэматычна транслюе з Расіі кроў, смерць, карупцыю, бандытызм. Расстрэл Белага дома, вайна ў Чачні, забойствы, здзейсненыя па заказу кілерамі, трагедыі ў шахтах, на чыгунках, самалётах, вайсковых часцях. Галодныя расіяне жывуць без заробкаў. Уцекачы з гарачых кропак — без дамоў. Рабочыя без працы. Беларусы ўспрымаюць усё гэта і клянуць Ельцына, як быццам ён кіруе на Беларусі.

СМІ Расіі ідалаізуюць Расію ў ворага - крыніцу зла.

Восень-1996. Рэферэндум.

У насельніцтва праз СМІ праводзіцца рэпрэсаванне базавага інстынкту самазахавання і штучная ідалаізацыя Лукашэнкі ў абаронцу-выратавальніка, а таксама ідалаізацыя ягоных апанентаў у ворагаў.



# Менталітэт прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі як люстэрка менталітэту ягоных выбаршчыкаў

Увесну 1996 года, на пачатку масавых вулічных шэсцяў, было праведзена сацыялагічнае даследаванне для замераў асноўных псіхічных арыентацыяў жыхароў Беларусі і ступені ідалаізаванасці прэзідэнта краіны пытаннямі:

«Что Вы считаете главным в политической деятельности?

А. Беспощадно сражаться с врагами, как внешними так и внутренними, сражаться, карать, побеждать? Разрушать все старое , отжившее, ненужное?

Б. Строить, создавать, творить?»

Адказы:

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| А. Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
| Колькасць вернікаў у %: | 7,5 | 3,4 | 4,9 | 6,4 | 7,2 | 15,9 | 4,3 | 10,1 | 6,1 | 4,8 | 21,8 |
| Б. Вера ў % | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
| Колькасць вернікаў у %: | 53,2 | 11,0 | 11,7 | 7,0 | 3,4 | 6,4 | 1,0 | 1,2 | 4,0 | 3 | 0 |

Вынікі гэтага даследаваньня сведчаць, што ў момант апытання большая частка насельніцтва мела творчую, стваральную арыентацыю, а меншая — дэструктыўную.

Была пралічана і патэрналісцкая арыентацыя.

Пытаньне:

"Чем на Ваш взгляд прежде всего должны заниматься политики?

А. Давать, обеспечивать, помогать, защищать.

Б. Создать условия для возможности заработать человеку деньги и обеспечивать себя всем самому".

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| А. Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
| Колькасць вернікаў у %: | 21,3 | 6,5 | 9,3 | 9,0 | 9,3 | 17,5 | 4,1 | 4,7 | 2,0 | 6 | 10,1 |
| Б. Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
| Колькасць вернікаў у %: | 51,8 | 11,7 | 10,6 | 6,6 | 4,5 | 8,6 | 1,0 | 8 | 4,0 | 3 | 0 |

Калі разгледзець адносіны насельніцтва да формы дзяржавы, у якой яны хацелі б жыць, то тут назіраецца наступная карціна:

1996 год, сакавік:

За «аднаўленне СССР» выступалі 26,8% грамадзян Беларусі.

За «стварэнне новага саюза незалежных дзяржаваў» — 31,2 %.

За «пабудову незалежнай дзяржавы Беларусь, інтэграванай у Еўрапейскую і сусветную супольнасьць» — 34,7 % патэнцыяльных выбаршчыкаў.

Такім чынам сацыялагічныя даследаванні паказалі, што ўвесну 1996 года большыня людзей Беларусі чакала СТВАРАЛЬНІКА, а не ТЭРМІНАТАРА. А вось адносна незалежнасці існавалі прыкладна тры роўныя групы. І кожная мела ці чакала свайго ідала ці сімвалічна-функцыянальную фігуру.

Спалучэнне некалькіх іміджавых тыпаў. Ідалы і функцыянальныя фігуры.

Вера грамадзян на 100% у наяўнасць функцыяў у нейкага суб'екта і 100%-ая ўпэўненасць, што гэтыя функцыі могуць быць рэалізаваны самым цудадзейным чынам азначае ўзровень ідалаізацыі мэнталітэту гэтых грамадзян. Вера ад 10% да 99% азначае колькасную характарыстыку сімвалічна функцыянальнай фігуры.

Вось як выглядае вера грамадзян Беларусі ў розныя якасці й магчымасці Лукашэнкі напачатку сакавіка 1996 года:

1. «Верите ли Вы в то, что Президент Лукашенко может уничтожить существующую сейчас у нас в Беларуси коррупцию, преступность и вообще все, с Вашей точки зрения, плохое?»:

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
| Колькасць вернікаў у %: | 5,6 | 1,6 | 3,5 | 4,2 | 4,4 | 15,1 | 8,2 | 12,3 | 9,3 | 8,0 | 23,7 |

2. Тое ж самае пытанне, толькі з дадаткам:

"...ЕСЛИ ЕМУ НЕ БУДУТ МЕШАТЬ?":

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
| Колькасць вернікаў у %: | 15,6 | 4,4 | 6,9 | 6,6 | 9,1 | 17,1 | 7,2 | 8,1 | 6,3 | 5,3 | 10,9 |

3. Тое ж самае пытанне, толькі з дадаткам:

"...ЕСЛИ ЕМУ БУДУТ ПОМОГАТЬ?":

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
| Колькасць вернікаў у %: | 24,5 | 6,6 | 9,6 | 9,8 | 10,1 | 11,1 | 6,3 | 4,9 | 3,9 | 3,4 | 7,4 |

занскага руху. Пішуцца кнігі, ставяцца помнікі, адзначаюцца святы. Для Масквы ўзнікае праблема замены кадраў. Партызаны выйгралі гэты апошні бой за сваю незалежнасць. А свядомасць беларусаў набыла слой героізаванага партызанскага руху. З чаго вынікала вельмі важнае — стаўленне да ўлады. Калі змаглі нават такога монстра, як гітлераўскі фашызм, перамагчы, тады нам не страшная любая ўлада – з любой зможам суіснаваць, а калі трэба – перамагаць.

Пасля выгнання гітлераўцаў насельніцтва беларускіх буйных гарадоў практычна вынішчанае і вывезенае. Засяленне гарадоў ідзе з вёскі. Атрымаць працу ў горадзе на тым часе лічылася перш-наперш гонарам, бо на вёсцы заставаўся прыгонны лад, калі пашпарты трымаліся ў начальства. Былыя вяскоўцы, набыўшы статус гараджанаў, засталіся назаўсёды звязанмі з вёскай як роднаснымі сувязямі, ладам жыцця (калі кожныя выхадныя прыязджалі на вёску працаваць), так і менталітэтам. У прыватнасці, горад ніколі для гэтых людзей не лічыўся адзінай крыніцай выжывання. Практычна ўсё харчаванне сям'і забяспечвалася з вёскі. (Характэрнае ў гэтым сэнсе прызнанне былога прэм'ер-міністра М.Чыгіра, які, па ягоных словах, усе выхадныя дні ў статусе кіраўніка выканаўчай улады дзяржавы працаваў у бацькоў на зямлі ў вёсцы.) Адсюль — невысокі ўзровень патрэбаў, калі пакойчык у інтэрнаце лічыўся зручным месцам для жыцця, а асобная кватэра – царскім палацам. Адсюль і падтрымка калгаснага ладу, бо ў калгасе заўжды кралі ўсё неабходнае, а тэхніку выкарыстоўвалі як сваю.

Пераўтварэнне Беларусі ў «зборачны цэх» СССР ідалаізавала ў свядомасці беларусаў саміх сабе як ТВОРЦАЎ новага жыцця. Першы сакратар ЦК КПБ П.Машэраў ідалаізаваўся як дбайны, руплівы ГАСПАДАР, просты і блізкі да людзей.

Увогуле дзяржава ідалаізавалася ў менталітэце людзей як гіганцкі патэр, які ўсіх корміць, поіць, апранае, абараняе ад ворагаў, знешніх і ўнутраных, які за ўсіх думае, асуджае за амаральнасць. ("Партия — ум, честь и совесть нашей эпохи".) Сам жа народ ідалаізаваўся як «прогрессивный отряд всего человечества», самы разумны, самы адукаваны, самы маральны, самы працавіты, самы начытаны. А беларусам у галовы ўбіваўся статус сімвалічна-функцыянальнай фігуры — "самый интернациональный народ". Выціскалася са свядомасці нацыянальная самасвядомасць, годнасць і, такім чынам, трансфармаваўся чацвёрты ўзровень псіхікі.

Агульнае пачуццё, якое фарміравала сістэма, было пачуццё ўпэўненасці ў заўтрашнім дні.

У дзесяцігоддзе перабудовы менталітэт людзей былога СССР падвергся вельмі моцнай трансфармацыі. І менавіта ідэалагемныя палі, сімвалічныя фігуры і ідалы падвергліся моцнаму змяненню. Падчас галоснасці адбываліся два супрацьлеглыя працэсы. Па-першае, ідалаізаваліся ў станоўчыя каштоўнасці Захаду рынкавая эканоміка, плюралізм, дэмакратыя, правы чалавека. Гэта значыць, ім надаваліся цудадзейныя, выратавальныя функцыі. Адначасова разбуралася вера ва ўсе савецкія камуністычныя ідалы. Гэтаму спрыяла вайна ў Афганістане, якая прынесла смерць у дамы людзей, і катастрофа на ЧАЭС. Падчас разбурэння ідалаў савецкай сістэмы дэідалаізаваліся Ленін, Сталін, а кіруючыя лідэры КПСС убачыліся старымі маразматыкамі.

З цягам часу пагаршэнне жыцця прывяло да дэідалаізацыі каштоўнасцяў Захаду. У менталітэце людзей узнік дзіўны феномен. Апынуліся разбуранымі ўсе сацыяльныя каштоўнасці. Не верылі ні камуністам, ні дэмакратам. Свядомасць людзей як бы перанеслася на стагоддзі назад. У людзей узніклі ірацыянальныя чаканні асобы-цудатворца, якая не будзе належаць ні да якой партыі. Менавіта ў гэтым стане апынулася насельніцтва Беларусі за паўгода да прэзідэнцкай кампаніі.

На менталітэт беларусаў вельмі моцны ўплыў аказала аварыя на ЧАЭС. Яе наступствы для менталітэту можна вызначыць па двух асноўных кірунках. Па-першае, аварыя актуалізавала ў свядомасці беларусаў факт СМЕРЦІ. Шмат хто сёння лічыць, што ўсе хваробы — ад Чарнобыля, а смерць наступіць даволі хутка, таму і трэба спяшацца жыць, беручы ад жыцця ўсё што можна. Іншыя, усведамляючы смерць, прыйшлі да Бога. Шэраг былых атэістаў і кампартыйных работнікаў, пасля смерці іх блізкіх, напрыклад, мужоў-ліквідатараў, пачалі верыць у Бога і хадзіць у царкву.

Па-другое, аварыя на ЧАЭС моцна замацавала патэрналісцкія арыентацыі. Усе беларусы ведаюць, што грошай на ліквідацыю наступстваў аварыі ніхто, акрамя дзяржавы, не дасць. Але і ў дзяржавы гэтых грошай у неабходнай колькасці няма. Лукашэнка ўдала разыгрывае спектаклі па тэлевізіі пра дрэнных чыноўнікаў, якія крадуць народныя грошы. Да таго ж жыхары чарнобыльскіх раёнаў прывыклі да гуманітарнай дапамогі Захаду і паездак сваіх дзяцей за мяжу, аж у ЗША і Канаду. Утрыманства, такім чынам, зрабілася характэрнай рысай менталітэту мільёнаў беларусаў. Яно яскрава выявілася ў словах Лукашэнкі, калі яго пазбавілі візаў на ўезд у краіны Еўропы і ЗША. Ён прыехаў у Хойнікі і, мала што не плачучы, скардзіўся сялянам, што Захад нам многа абяцаў даць грошай, на вялікую суму дапамагчы — і не зрабіў: якія яны дрэнныя! Усё было сказана так, як быццам Захад быў абавязаны гэта зрабіць, а не правапераемніца СССР – Расія.

Чарнобыльская катастрофа спрыяла фарміраванню ў людзей нацыянальнай ідэі.

На пачатку перабудовы, калі ў Беларусі ўзніклі маладзевыя нефармальныя групы, афіцыйная прапаганда фарміравала з іх ворага на чацвертым узроўні псіхікі. Тут галоўнай функцыянальна-сімвалічнай фігурай быў "кар'ерыст", а ідэалагемай абвінавачвання — "рвутся в лидеры".

"*И цель они преследуют одну – заработать на перестройке политический капитал, вылезти на волне перестройки в политические лидеры, не зная жизни народа, не зная труда у станка... Некоторые из них прямо лезут в лидеры, например В.Вечерко. Он пытается выступить в роли лидера и претендовать на некоего идеолога "Талаки", а сейчас и народного фронта*".

(В.И.Толкачев, старший преподаватель пединститута имени А.М.Горького (і пазнейшы прэс-сакратар прэзідэнта Лукашэнкі). Газета "Вечерний Минск". 25.10.88.)

На трэці ўзровень псіхікі беларусаў аказвалі ўплыў і фарміравалі яго падзеі, звязаныя з супрацьстаяннем КПБ і БНФ.

Асноўнай сімвалічна-функцыянальнай фігурай, у статусе якой прадстаў БНФ у свядомасці грамадзян, была фігура АБАРОНЦЫ ад паўтору сталінскіх рэпрэсіяў. Паход у Курапаты, дзе Пазняк раскапаў масавыя пахаванні расстраляных у трыццатыя гады, стаў прэзентацыяй Фронту для грамадскасці. Сэнс акцыі па раскрыццю праўды пра рэпрэсіі на Беларусі для Фронту меў шмат функцыяў. Па-першае, удалося паказаць, што беларусы не з радасцю і добраахвотна ішлі ў савецкі рай, а іх гналі туды пад дуламі. Па-другое, стала вядома, як распраўляліся з людзьмі за тое, што яны проста беларускія інтэлігенты. Па-трэцяе, Фронт папярэджваў грамадскасць свету, што ў Беларусі супраць адраджэнцаў нацыі нашчадкі Цанавы будуць выкарыстоўваць рэпрэсіі. Збіццё ўдзельнікаў шэсця ў Курапаты ўзбудзіла ў свядомасці людзей пытанні: "За што білі?", "За тое, што неслі крыж?", "Каму неслі?". А для беларусаў характэрны той факт, што амаль у кожнай сям'і нехта ды быў рэпрэсаваны. І старыя нават у той час шэптам казалі пра тыя падзеі – у людзей рэпрэсіямі да скону загналі страх. БНФ гэты страх пераадолеў і набыў статус ХРАБРЫ, СУМЛЕННЫ, СПРАВЯДЛІВЫ, але не ў большай часткі грамадства, бо інфармацыя ў СМІ пра шэсце ў Курапаты і збіццё падавалася скажона – гэта па-першае. А па-другое, трэба ўлічыць, што ўяўленні пра храбрасць, справядлівасць і сумленнасць у вялікай групы савецкіх беларусаў былі абмежаваныя ідэалагемамі "всё вокруг колхозное — всё вокруг мое", "начальник всегда прав", "спорить с начальством, что... против ветра". Таму БНФ для такіх беларусаў быў пасля шэсця ў Курапаты хутчэй "белай варонай".

Шэсце ў Курапаты спрыяла фарміраванню ў менталітэце грамадзян нацыянальнай ідэі ў кантэксце выратавання нацыі.

Пачынаючы з першых крокаў сваёй дзейнасці, Беларускі Народны Фронт вёў барацьбу з карупцыяй. Дзейнасць фронтаўцаў была вядомая нават грамадзянам усяго СССР. Так, на пачатку 90-х гадоў у газеце «Аргументы и факты» быў надрукаваны артыкул дэпутата Вярхоўнага Савета ад апазіцыі БНФ С.Антончыка аб карупцыянерах Беларусі з ліку найвышэйшага кіраўніцтва. Шэраг расследаванняў правёў дэпутат Вярхоўнага Савета С.Навумчык і надрукаваў матэрыялы аб іх выніках. Фронт у свядомасці шырокага кола насельніцтва ўзнік як ТЭРМІНАТАР – барацьбіт з карупцыяй.

Сацыяльная справядлівасць для беларусаў была важнай часткай нацыянальнай ідэі. Справядлівасць праяўлялася ў свядомасці беларусаў і на ўзроўні ўсёй нацыі як усведамленне прыгнечанасці народа ад іншых (немцаў, палякаў, рускіх) і як справядлівасць (роўнасць) у побыце. Адпаведна рэпрэсаванне пачуцця справядлівасці дзеячамі БНФ спрыяла фармаванню нацыянальнай ідэі.

Але антыкарупцыйная дзейнасць тады не стала асноўным кірункам дзейнасці БНФ. Падчас першай хвалі «прыхватызацыі», якая служыла шырмай для карупцыянераў, фронтаўцы, лічачы, што прыватызацыя — станоўчы працэс, не вельмі актыўна дамагаліся захавання законнасці падчас гэтай самай прыватызацыі — вобразна кажучы, "не кláліся касцьмі". А ў той самы час імкліва раслі катэджы, якія будаваліся з ільготных крэдытаў для наменклатуры. Кіраўнікі буйных заводаў забіралі ў сваю ўласнасць заводскія будынкі. Людзей у той час больш за ўсё хвалявала навядзенне сацыяльнай справядлівасці. Шмат хто з «простых людзей» хварэў на «чырвоныя вочы» і хварэе па сённяшні дзень.

Так атрымалася, што ў гэты час самым актыўным барацьбітом з карупцыяй стаў С.Шушкевіч. Пад яго кантролем ішло расследаванне вядомай «барысаўскай справы» ды іншых. Фронт знаходзіўся ўбаку. Шушкевіч у самы адказны момант вырашыў не рабіць вялікага скандалу з фактаў карупцыі, здабытых пад яго кантролем, і абмежаваўся невялікім паказальным боем з карупцыяй у Барысаве. Наменклатура Кебіча дала яму адпор. І вось тут, замест актыўнага наступу на людзей Кебіча, Шушкевіч адступіў.

Убачыўшы, які эфект мае тая ж барысаўская справа, Лукашэнка з паплечнікамі ўзначаліў у Беларусі барацьбу з карупцыяй. Яго знакаміты «антыкарупцыйны даклад» і шэраг паездак па гарадах краіны сфарміравалі ў свядомасці беларусаў вобраз барацьбіта з ворагамі — карупцыянерамі.

Трэцяя сімвалічна-функцыянальная фігура, статус якой узнік у свядомасці вялікіх груп людзей: БНФ была АБАРОНЦА ад чарнобыльскай бяды. Першы Чарнобыльскі шлях, які арганізаваў БНФ, быў скіраваны на прарыў маўчання вакол аварыі і смяротнай пагрозы жыццю людзей, дзяцей. Чарнобыльцы, далёкія ад палітыкі, і сёння памятаюць, як да іх у забруджаныя раёны прыехалі лідэры БНФ на чале з Пазняком і правялі мітынгі, на якіх распавялі людзям пра тое, што адбылося 26 красавіка 1986 года і адбываецца цяпер на іх землях і ў іх арганізмах. Падчас першага Чарнобыльскага шляху ўлады перакрылі ўсе дарогі, якія вялі ў Мінск, заварочвалі машыны і аўтобусы з людзьмі, што ехалі на дэманстрацыю. Пасля дэманстрацыі і мітынгу арганізатараў судзілі. У суд цягнулі З.Пазняка, Ю.Хадыку.

Першы Чарнобыльскі шлях вельмі істотна паспрыяў фарміраванню нацыянальнай ідэі ў менталітэце насельніцтва Беларусі. У прыватнасці, "шлях" гуртаваў насельніцтва пачуццём усведамлення бяды (смерці і хваробаў) і пошукам шляхоў выратвання ад яе.

У 1996 годзе, падчас 50-тысячнай дэманстрацыі і мітынгу Чарнобыльскага шляху, улады таленавіта правялі правакацыю з перакульваннем машын, што стаялі на шляху дэманстрантаў. Пераварочванне і падпальванне неаднаразова паказвалі па тэлевізіі і са статуса АБАРОНЦЫ ад чарнобыльскай смерці ў масавай свядомасці БНФ перайшоў у статус ЭКСТРЭМІСТА.

Але ж Фронт паводле асноўнай сваёй праграмнай мэты ўтвараўся як арганізацыя АДРАДЖЭННЯ беларускай нацыі, самастойнай дзяржавы.

Вось гэтая святая справа для грамадзян любой краіны свету да свядомасці дэнацыяналізаваных беларусаў транслявалася як імкненне ўсталяваць у Беларусі фашысцкі рэжым. У шматлікіх друкаваных артыкулах, тэле- і радыёперадачах дзяржаўных СМІ адраджэнцы атаясамліваліся з гітлераўскімі фашыстамі, паліцаямі, здраднікамі. Ішла актыўная дэідалаізацыя інтэлігенцыі. Старонкі газетаў былі запоўнены лістамі працоўных "ад станка і сахі", якія ўтрымлівалі ідэалагемы "они там книжечки пописывают, в то время как мы в поте лица хлеб растим и им на хлеб с маслом зарабатываем".

Сталі нормай шматлікія артыкулы ў мясцовым друку пра тое, што беларусаў увогуле няма, што гэта выдумка нацыяналістаў.

Такім чынам, для невялікай групы свядомых людзей дзейнасць па адраджэнню беларушчыны стала святой справай, а для масавай свядомасці БНФ набыў статус ВОРАГА, які хоча разбурыць "ЗАВОЕВАНИЯ СОЦИАЛИЗМА, которые МЫ КРОВЬЮ ОТСТОЯЛИ В БОРЬБЕ С ВРАГАМИ".

У свядомасці людзей у адносінах да БНФ склаліся супярэчлівыя пачуцці. З аднаго боку, ён быў АБАРОНЦАМ ад карупцыі і чарнобыльскай смерці, ад паўтору рэпрэсіяў. З другога – ВОРАГАМ, які можа прынесці смерць. Рашучую ролю ў фарміраванні ідалаў БНФ у масавай свядомасці адыгралі СМІ і работнікі разумовай працы (не блытаць з інтэлігенцыяй). Для выкладчыкаў і ІТР узнікла перспектыва абавязковага вывучэння беларускай мовы, а асноўная іхняя маса не прывыкла вучыцца, бо ўся сістэма адукацыі па гуманітарных накірунках была заснавана не на ведах, а на веры. Людзі з вышэйшай адукацыяй не ведалі грунтоўна ніводнай замежнай мовы. Не ведалі беларускай мовы; ім было зручна жыць і працаваць ды хлебна зарабляць. І яны не падтрымалі БНФ, які настойваў на вывучэнні мовы карэннага народа. А гэта была неабходная ўмова маральнай перамогі, як было ў краінах Прыбалтыкі.

Пасля абрання прадстаўнікоў БНФ у Вярхоўны Савет іх дзейнасць першыя два гады замацоўвала імідж АБАРОНЦАЎ ад карупцыі, чарнобыльскай бяды, паўтору рэпрэсіяў, а таксама ВОРАГАЎ, якія прымусілі вучыць беларускую мову. На самай справе простыя людзі спакойна аднесліся да таго, што іх дзеці пачалі вучыцца па-беларуску. Але антыбеларускія дзяржаўныя СМІ рабілі сваю справу, імітуючы з нешматлікіх пратэстаў рускіх шавіністаў ўсенародны пратэст.

Наступны этап фарміравання вобраза БНФ у свядомасці людзей звязаны са зборам подпісаў за роспуск Вярхоўнага Савета і правядзенне выбараў паводле новага выбарчага закона, праект якога прапанаваў БНФ. Акцыя па збору подпісаў (было сабрана больш за 450 тысяч) палярызавала ў свядомасці людей палітычных суб'ектаў на карумпаваную камуністычна-наменклатурную бальшыню Вярхоўнага Савету — з аднаго боку, і абаронцаў народа, змагароў супраць наменклатуры – з другога.

Затым гэтая бальшыня адмаўляе ў праве народа на правядзенне рэферэндуму. І вось тут наступае трагічны момант у палітычнай гісторыі Беларусі. Апазіцыя пасля забароны правядзення рэферэндуму застаецца ў Вярхоўным Савеце, які сама называла нелегітымным. Гэты крок успрымаецца часткай насельніцтва як амаральны, бо самі ж казалі, што ВС нелегітымны, камуністычны. З маральнага

пункту гледжання, на мой погляд, трэба было б пакінуць Вярхоўны Савет. Але тады ўзнікала пагроза, што працэсы інтэграцыі з Расіяй былі бы фарсіраваныя. А ў той час камуністы баяліся фронтаўцаў, і іхняя прысутнасць у Вярхоўным Савеце стрымлівала наменклатуру ад хуткай здачы Беларусі. У гэты момант яскрава праявілася праблема супярэчлівасці палітычнай мэтазгоднасці і маральнай чысціні. Яна была вырашана дэпутатамі апазіцыіі ў бок палітычнай мэтазгоднасці.

З гэтага моманту ўзнікае дзіўная сітуацыя. Камуністычныя і афіцыйныя СМІ пастаянна цвердзяць, что ВС працуе пад дыктоўку БНФ. Гэта ж цвердзяць і сябры апазіцыі, і ганарацца, што перамагаюць наменклатуру пры прыняцці шмат якіх рашэнняў. У гэты ж час адбываецца рэзкае пагаршэнне жыцця. І народ звязвае яго з дзейнасцю апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Пакрысе фронтаўцы і рэформы, якія праводзіць Вярхоўны Савет праз прыняцце новага заканадаўства, робяцца варожымі людзям. БНФ набывае сімвалічна-функцыянальную фігуру ВОРАГ на другім узроўні псіхікі – біялагічна-ўсведамляльным, а менавіта: памяншэнне даходаў, падаражанне прадуктаў харчавання звязваюцца з дзейнасцю БНФ і на трэцім узроўні – соцыякультурнай свядомасці, дзе людзі балюча перажываюць страту працы, падзел на багатых і бедных.

У гэты ж час дзейнасць БНФ на Беларусі канцэнтруецца толькі на дэпутатах апазіцыі. На іх шараговыя фронтаўцы глядзяць як на ідалаў, што вось-вось здзейсняць цуд – перамогуць камнаменклатуру. Слаба вядзецца праца па пашырэнню ўплыву нацыянальнай ідэі сіламі інтэлігенцкай эліты. У гэты момант трэба было выходзіць на людзі, прапускаць праз сваю душу, праз жывое слова тысячы людзей. Так БНФ у свядомасці людзей ператварыўся ў палітычную секту, якую ўзначальвалі дэпутаты ад апазіцыі. У статусе варожасці, які ўзнікаў у масавай свядомасці фронтаўцы пераўзышлі нават наменклатуру. Бо тая проста крала і не пагаршала жыццё, а гэтая “сваімі рэформамі абрабавала народ”, “дермократы все развалили”.

Вось у якім статусе падышоў БНФ да прэзідэнцкай кампаніі, калі да яе заставалася прыкладна паўгода.

Асобна трэба разгледзець трансфармацыі такіх каштоўнасцей трэцяга слоя менталітэту, як незалежнасць і суверэнітэт.

Пасля распаду СССР і утварэння незалежнай Беларусі абсалютная большасць насельніцтва не разумела гэтых каштоўнасцей і ўспрымала іх як выпадковую недарэчнасць.

З гэтага моманту грамадства падзяляецца на тры часткі. Адны хочуць узнаўлення СССР, другія – умацавання незалежнасці, трэція — інтэграцыі ў межах СНГ. Пачынаючы з “рублёвай зоны” Кебіча, палітычная барацьба разгортваецца вакол інтэграцыі з Расіяй. На сёння, нават па прызнанню афіцыйнага тэлебачання, большасць насельніцтва не жадае далучэння да Расіі.

## Трансфармацыя глыбінных арыентацыяў менталітэту насельніцтва Беларусі

Трансфармацыю асноўных псіхічных арыентацыяў менталітэту насельніцтва Беларусі можна падраздзяліць на наступныя этапы.

1. Даперабудовачны этап. Дабрабыт з кожным днём паляпшаецца. На буйных заводах кватэру рабочыя атрымліваюць на працягу 10 год. Расце колькасць прыватных аўтамабіляў, дачаў. Калгасныя механізатары карыстаюцца тэхнікай як сваёй уласнай. Людзям здаецца, што вось-вось наступіць камунізм. Замацоўваецца пачуццё ўпэўненасці ў заўтрашнім дні і адначасова роспач, што цудадзейны камунізм не настае. Адсюль незадаволенасць састарэлым кіраўніцтвам краінай.

**У менталітэце асноўнай масы людзей Беларусі дамінуе** *спажывецкая і накапляльніцкая арыентацыя*.

2. **У Маскве пачынаецца перабудова. Тэлеперадачы з Масквы беларусы глядзяць як нешта несапраўднае, бо на месцах нічога не мяняецца. Папулярны анекдот пра перабудову яна нібы той вецер у лесе: наверсе шуміць, а ўнізе цішыня. Агульны стан менталітэту** – *здзіўленне і чаканне зменаў у жыцці*.

3. Ідуць першыя дэмакратычныя выбары (1989-90 гады) у Вярхоўны Савет СССР, а потым – у ВС БССР.

**Людзі ўспрымаюць выбары як гульню.** *Узмацняюцца ірацыянальныя чаканні цуду.*

4. **1991 год. Знікаюць тавары, павышаюцца цэны. Адначасова ходзяць расказы, колькі можна зарабіць, калі павезці тавары на продаж ці ў Югаславію, ці ў Польшчу, ці ў Літву. На фоне пагаршэння жыцця рэзкае ўзбагачэнне асобнай групы людзей выклікае шмат у каго з “советских белорусов” хваробу “чырвоных вачэй”. У вялікай групы людзей рэпрэсуецца базавы інстынкт сацыяльнай справядлівасці.** *Асабліва моцна рэпрэсуюць інстынкт вальналюбства ў рабочых злоўжыванні службовым становішчам кіраўніцтва прадпрыемстваў.* **Пачынаецца хваля страйкаў. У Оршы рабочыя выходзяць на рэйкі, спыняючы цягнікі з Еўропы на Маскву. Кіруючая наменклатура ў паніцы.**

Агрэсіўнасць рабочых спадае. Жыццё пагаршаецца. Путч у Маскве выглядае спектаклем. У Беларусі стабільна. Незалежнасць успрымаецца шмат кім як недарэчнасць і часовая з’ява. Трывалым застаецца ўяўленне, што Масква ўсё роўна – цэнтр. У нацыянальна свядомай часткі насельніцтва пэўная эйфарыя.

**Жыццё пагаршаецца, катэджы растуць, іншамаркі мазоляць вочы. У людзей ізноў рэпрэсуецца базавы інстынкт сацыяльнай справядлівасці. Адначасова адбываецца дэідалаізацыя сацыяльных ідалаў і ідэалагемаў і актуалізуюцца ірацыянальныя чаканні** асобы абаронцы-тэрмінатара.

**Лукашэнка чытае антыкарупцыйны даклад. У мазгах “советских белорусов” рэвалюцыя. Зявіўся доўгачаканы АБАРОНЦА-ТЭРМІНАТАР!** *Адбываецца імгненная ідалаізацыя Лукашэнкі ў тэрмінатара. Актуалізуюцца ірацыянальныя чаканні бітвы тэрмінатара з ворагамі.*

Прэзідэнцкія выбары. Нагнятаюцца настроі чакання перамогі АБАРОНЦЫ-ЗБАВІЦЕЛЯ ці ягонай паразы ад карупцыянера Кебіча. Людзі чакаюць цуду і ідуць на выбары ўтвараць гэты ЦУД.

**Абралі! Доўгачаканая перамога! У душах — свята! Наступае супакоенасць і чаканне карных акцыяў. Даклад Антончыка па карупцыі ў камандзе Лукашэнкі не даходзіць да людзей.** *Даклад фарміруе ў свядомасці людзей ідэалагему “ему мешают” і ідала “вораг-шкоднік”.*

Вясна 1996-га. Апазіцыя ладзіць “Чарнобыльскі шлях”. У менталітэце бальшыні грамадзян растуць стваральныя арыентацыі і імкненне да самастойнай дзейнасці. **Падчас шэсця “Чарнобыльскі шлях” пераварочваюцца машыны і адбываюцца бойкі. Тэлебачанне інтэнсіўна паказвае праявы экстрэмізму і** *ідалаізуе апазіцыю ў ВОРАГА-ТЭРМІНАТАРА.*

**У Маскве выбары прэзідэнта. Цягам амаль года тэлебачанне з Масквы** *гасіць агрэсіўныя пачуцці. Фарміруюцца чаканні стабільнага жыцця*, **якое забяспечыць дзядуля Ельцын.** *Ад тэрмінатараў у мазгах людзей фарміруюць чаканне небяспекі, дэстабілізацыі.*

Пасля выбараў Ельцына Масква сістэматычна транслюе з Расіі кроў, смерць, карупцыю, бандытызм. Расстрэл Белага дома, вайна ў Чачні, забойствы, здзейсненыя па заказу кілерамі, трагедыі ў шахтах, на чыгунках, самалётах, вайсковых часцях. Галодныя расіяне жывуць без заробкаў. Уцекачы з гарачых кропак — без дамоў. Рабочыя без працы. Беларусы ўспрымаюць усё гэта і клянуць Ельцына, як быццам ён кіруе на Беларусі.

СМІ Расіі ідалаізуюць Расію ў ворага – крыніцу зла.

Восень-1996. Рэферэндум.

У насельніцтва праз СМІ праводзіцца рэпрэсаванне базавага інстынкту самазахавання і штучная ідалаізацыя Лукашэнкі ў абаронцу-выратавальніка, а таксама ідалаізацыя ягоных апанентаў у ворагаў.



## Менталітэт прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі як люстэрка менталітэту ягоных выбаршчыкаў

Увесну 1996 года, на пачатку масавых вулічных шэсцяў, было праведзена сацыялагічнае даследаванне для замераў асноўных псіхічных арыентацыяў жыхароў Беларусі і ступені ідалаізаванасці прэзідэнта краіны пытаннямі:

«Что Вы считаете главным в политической деятельности?

А. Беспощадно сражаться с врагами, как внешними так и внутренними, сражаться, карать, побеждать? Разрушать все старое , отжившее, ненужное?

Б. Строить, создавать, творить?»

Адказы:

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| А. Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
| Колькасць вернікаў у %: | 7,5 | 3,4 | 4,9 | 6,4 | 7,2 | 15,9 | 4,3 | 10,1 | 6,1 | 4,8 | 21,8 |

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Б. Вера ў % | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
| Колькасць вернікаў у %: | 53,2 | 11,0 | 11,7 | 7,0 | 3,4 | 6,4 | 1,0 | 1,2 | 4,0 | 3 | 0 |

Вынікі гэтага даследаваньня сведчаць, што ў момант апытання большая частка насельніцтва мела творчую, стваральную арыентацыю, а меншая — дэструктыўную.

Была пралічана і патэрналісцкая арыентацыя.

Пытаньне:

“Чем на Ваш взгляд прежде всего должны заниматься политики?

А. Давать, обеспечивать, помогать, защищать.

Б. Создать условия для возможности заработать человеку деньги и обеспечивать себя всем самому”.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| А. Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
| Колькасць вернікаў у %: | 21,3 | 6,5 | 9,3 | 9,0 | 9,3 | 17,5 | 4,1 | 4,7 | 2,0 | 6 | 10,1 |
| Б. Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
| Колькасць вернікаў у %: | 51,8 | 11,7 | 10,6 | 6,6 | 4,5 | 8,6 | 1,0 | 8 | 4,0 | 3 | 0 |

Калі разгледзець адносіны насельніцтва да формы дзяржавы, у якой яны хацелі б жыць, то тут назіраецца наступная карціна:

1996 год, сакавік:

За «аднаўленне СССР» выступалі 26,8% грамадзян Беларусі.

За «стварэнне новага саюза незалежных дзяржаваў» — 31,2 %.

За «пабудову незалежнай дзяржавы Беларусь, інтэграванай у Еўрапейскую і сусветную супольнасьць» — 34,7 % патэнцыяльных выбаршчыкаў.

Такім чынам сацыялагічныя даследаванні паказалі, што ўвесну 1996 года бальшыня людзей Беларусі чакала СТВАРАЛЬНІКА, а не ТЭРМІНАТАРА. А вось адносна незалежнасці існавалі прыкладна тры роўныя групы. І кожная мела ці чакала свайго ідала ці сімвалічна-функцыянальную фігуру.

Спалучэнне некалькіх іміджавых тыпаў. Ідалы і функцыянальныя фігуры.

Вера грамадзян на 100% у наяўнасць функцыяў у нейкага суб’екта і 100%-ая ўпэўненасць, што гэтыя функцыі могуць быць рэалізаваны самым цудадзейным чынам азначае ўзровень ідалаізацыі мэнталітэту гэтых грамадзян. Вера ад 10% да 99% азначае колькасную характарыстыку сімвалічна функцыянальнай фігуры.

Вось як выглядае вера грамадзян Беларусі ў розныя якасці й магчымасці Лукашэнкі напачатку сакавіка 1996 года:

1. «Верите ли Вы в то, что Президент Лукашенко может уничтожить существующую сейчас у нас в Беларуси коррупцию, преступность и вообще все, с Вашей точки зрения, плохое?»:

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
| Колькасць вернікаў у %: | 5,6 | 1,6 | 3,5 | 4,2 | 4,4 | 15,1 | 8,2 | 12,3 | 9,3 | 8,0 | 23,7 |

2. Тое ж самае пытанне, толькі з дадаткам:

“...ЕСЛИ ЕМУ НЕ БУДУТ МЕШАТЬ?”:

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
| Колькасць вернікаў у %: | 15,6 | 4,4 | 6,9 | 6,6 | 9,1 | 17,1 | 7,2 | 8,1 | 6,3 | 5,3 | 10,9 |

3. Тое ж самае пытанне, толькі з дадаткам:

“...ЕСЛИ ЕМУ БУДУТ ПОМОГАТЬ?”:

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
| Колькасць вернікаў у %: | 24,5 | 6,6 | 9,6 | 9,8 | 10,1 | 11,1 | 6,3 | 4,9 | 3,9 | 3,4 | 7,4 |

Гэтыя лічбы, акрамя проста аб'ектыўных звестак, сведчаць пра тое, што ў свядомасці людзей існуюць ідэалагемы-алібі: «ему мешают», «ему никто не помогает», якімі людзі апраўдваюць правалы ў палітыцы прэзідэнта. Трэба адзначыць, што, акрамя гэтых ідэалагемаў, існавала ды існуе яшчэ й такая: «ему мешает плохая экономика»(!) .

Вядомыя таксама і ВОРАГІ, якія «мешают»:

(1) апазіцыя, «которая ходит по улицам на демонстрации и хочет свергнуть прэзидента и тем самым не дает ему работать»;

(2) наменклатура, «которая саботирует». На аргумент: «дык ён жа іх сам прызначыў» — ідзе новая ідэалагема: «он им поверил, а они его обманули»;

(3) калі разбіваеш і гэты аргумент, тады вылучаецца наступны: «зато он честный».

А вось цікава, наколькі мудрым лічаць людзі прэзідэнта.

ІДЭАЛГАЕМА «МУДРЭЦ»

Пытанне: «Верите ли Вы в то, что Президент Лукашенко настолько образован и мудр, имеет богатый профессиональный опыт, что ему без колебания можно доверить управление государством и судьбы всех людей в нашей рэспублике?»

| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць вернікаў у %: | 6,4 | 2,4 | 4,1 | 4,7 | 9,9 | 17 | 8,0 | 7,9 | 5,2 | 7,2 | 19,5 |

ІДЭАЛАГЕМА «СТВАРАЛЬНІК ДЛЯ БЕЛАРУСІ»

Пытанне: «Верите ли Вы в то, что Прэзидент Лукашенко может создавать новое, полезное, ценное для Беларуси и ее людей?»

| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасьць вернікаў у %: | 11,1 | 3,7 | 7,5 | 9,1 | 8,3 | 15,4 | 8,3 | 10,2 | 5,7 | 5,6 | 10,1 |

ІДЭАЛАГЕМА "СТВАРАЛЬНІК"

Пытанне: «Верите ли Вы в то, что Президент Лукашенко может вообще созидать и творить в широком смысьле этого слова, создать мощное и богатое государство?»

| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць вернікаў у %: | 6,9 | 3,6 | 6,0 | 5,4 | 6,5 | 17,7 | 9,0 | 10,7 | 6,1 | 5,6 | 15,6 |

Тое ж пытанне з ідэалягемай: "...ЕСЛИ ЕМУ НЕ БУДУТ МЕШАТЬ?":

| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць вернікаў у% : | 13,1 | 3,8 | 7,8 | 7,8 | 10,1 | 12,1 | 9,6 | 8,7 | 5,2 | 5,0 | 11,9 |

Тое ж пытанне з ідэалагемай: "...ЕСЛИ ЕМУ БУДУТ ПОМОГАТЬ?"

| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць вернікаў у %: | 22,7 | 5,2 | 9,6 | 9,6 | 8,6 | 10,8 | 7,9 | 6,0 | 5,2 | 2,9 | 8,0 |

ІДЭАЛАГЕМА «ІНТЭГРАТАР»

Пытанне: «Верите ли Вы в то, что Президент Лукашенко сможет восстановить разрушенные связи и сможет вернуть ту жизнь, какая была в СССР при коммунистах?»

| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць вернікаў у %: | 5,4 | 1,3 | 3,4 | 3,1 | 4,9 | 14,1 | 8,0 | 9,6 | 12,1 | 8,4 | 23,6 |

ПРАЗАМБАВАНАСЦЬ НА СМЕРЦЬ

Пытанне: «Верите ли Вы в то, что Президент Лукашенко обладает такими чертами характера, которые создают опасность начала гражданской войны, в которой погибнет много людей, в том числе Вы и Ваши дети?»

| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць вернікаў у %: | 2,8 | 8 | 2,1 | 2,2 | 3,5 | 7,1 | 5,0 | 8,7 | 9,9 | 10,2 | 39,3 |

АБАРОНЦА

Гэты вобраз замацоўваецца на ўсіх чатырох узроўнях псіхікі.

Першы ўзровень:

Пытанне: «Верите ли Вы в то, что если президент Лукашенко будет находиться у власти, то он сможет защитить Вас от опасности гражданской войны, в которой погибнет много людей, в том числе и Вы?»

| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць вернікаў у %: | 13,8 | 5,1 | 7,2 | 7,2 | 6,8 | 16,5 | 4,7 | 7,0 | 6,0 | 5,1 | 12,1 |



Другі ўзровень:

Пытанне: «Верите ли Вы в то, что если Президент Лукашенко будет находиться у власти то он сможет защитить Ваше материальное положение, Ваше здоровье, и Вы не будете голодать?»

| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць вернікаў у %: | 6,1 | 2,2 | 5,1 | 4,7 | 6,1 | 20,1 | 7,9 | 10,1 | 9,0 | 5,7 | 15,2 |

Трэці ўзровень:

Пытанне: «Верите ли Вы в то, что если Президент Лукашенко будет находиться у власти, то Вы сохраните свое место работы и высокий социальный статус?»

| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць вернікаў %: | 7,2 | 1,8 | 4,0 | 4,3 | 5,9 | 19,6 | 6,9 | 10,3 | 6,2 | 3,7 | 14,8 |

Чацвёрты ўзровень:

Пытанне: «Верите ли Вы в то, что если Президент Лукашенко будет находиться у власти, то Вы сохраните ощущение своей индивидуальности (уникальности), неповторимости?»

| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць вернікаў у %: | 9,9 | 2,9 | 4,6 | 5,6 | 5,5 | 18,9 | 5,6 | 5,9 | 4,7 | 3,2 | 13,8 |

ІДЭАЛАГЕМА «СЕКС-ІДАЛ»

Пытанне: «Считаете ли Вы Президента Лукашенко красивым, обаятельным и сексуально привлекательным мужчиной?»

| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць вернікаў у %: | 9,0 | 3,5 | 3,5 | 4,4 | 6,4 | 19,2 | 7,1 | 8,6 | 5,3 | 5,5 | 13,6 |

Секс-пытанне мае некалькі функцыяў. Акрамя таго, што яўна чытаецца ў пытанні, яно задавалася дзеля выяўлення ягонай энергапрыцягальнасці і ішло ў пакеце пытанняў. Наступнае гучала так:

Пытаньне: "Чувствуете ли Вы, что деятельность президента Лукашенко придает Вам силы, энергии, веры в лучшее будущее?"

| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць вернікаў у %: | 7,0 | 1,3 | 2,4 | 4,7 | 5,9 | 13,2 | 5,3 | 9,6 | 6,9 | 8,0 | 27,2 |

Пытанне: "Верите ли Вы в то, что без президента Лукашенко Ваша нормальная жизнь в Беларуси была бы невозможна?

| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць вернікаў у %: | 4,7 | 1,5 | 2,8 | 2,6 | 3,6 | 17,0 | 6,2 | 9,2 | 6,3 | 7,2 | 26,6 |

Пытанне: "Верите ли Вы в то, что без президента Лукашенко в Беларуси все было бы нормально?

| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць вернікаў у %: | 8,5 | 3,4 | 5,9 | 3,8 | 5,6 | 25,4 | 6,4 | 5,9 | 5,9 | 4,7 | 8,5 |

НЕПРЫВАТЫЗАВАНЫ – СВОЙ

Пытанне: "Верите ли Вы в то, что если президент Лукашенко будет находиться у власти, то он будет выполнять не волю какого-то клана, партии, группы лиц, а волю всего народа Беларуси?

| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць вернікаў у %: | 16,5 | 4,1 | 8,1 | 7,0 | 7,2 | 17,0 | 7,5 | 7,0 | 5,1 | 3,5 | 10,2 |

СЛУГА

Пытанне: "Верите ли Вы в то, что для президента Лукашенко при любых обстоятельствах, находясь у власти или без нее, имеет смысл жизни служение людям, прежде всего мысли и заботиты о других, а потом о себе?

| Вера ў %: | 100 | 90 | 80 | 70 | 60 | 50 | 40 | 30 | 20 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць вернікаў у %: | 11,7 | 4,3 | 7,0 | 7,2 | 9,6 | 20,4 | 4,7 | 7,8 | 5,6 | 4,0 | 10,6 |

Колькасць працэнтаў насельніцтва, якія вераць ў функцыю Лукашэнкі ад аднаго працэнта да 99%, ёсць вымярэнне сімвалічна-функцыянальнай фігуры прэзідэнта, а колькасць тых, хто верыць у яго функцыю на 100% — гэта колькасць тых, для каго ён сацыяльны ідал.

*Лявон Баршчэўскі,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Сучасная форма Беларускай нацыянальнай ідэі і выратаванне Беларусі

Сучасная форма беларускай нацыянальнай ідэі распрацавана на аснове канцэпцыі У.Падгола і пры ягоным непасрэдным удзеле.

Беларусь сёння ёсць фармальна незалежная дзяржава: яна мае інстытуты дзяржаўнай улады, сваю тэрыторыю, канстытуцыю, межы. Па сутнасці ж, у краіне пануе марыянеткавы дыктатарскі рэжым. Дыктатар здзейсніў канстытуцыйны пераварот шляхам фальсіфікацыі рэферэндуму: з парушэннем закона зліквідаваў Вярхоўны Савет, прызначыў дэпутатаў у прыдуманыя ім "палаты", разагнаў Канстытуцыйны суд, прызначыў суддзяў ва ўсе суды. Захоп улады адбыўся пры непасрэднай дапамозе вядучых палітыкаў Расіі — Чарнамырдзіна, Строева, Селязнёва. І пры маўклівай згодзе Ельцына і ўсіх расійскіх «дэмакратаў». Палітычная Еўропа не прызнала канстытуцыйны пераварот, «палату» Лукашэнкі і ягоныя прызначэнні суддзяў, асабліва канстытуцыйных. Расія прызнала. Форма гэтага прызнання вельмі сімвалічная для нас. Лукашэнка заключыў з Ельцыным Саюз, і ў склад кіруючых органаў Саюза Расія—Беларусь яны ўключылі прадстаўнікоў не прызнанага нікім «парламэнта» — лукашэнкаўскай «палаты».

Наступны крок імперскіх палітыкаў, ці, як назвалі іх скептычна настроеныя журналісты ў Расіі, "інтэграстаў", — «аб'яднанне» Беларусі й Расіі, гэта значыць, знішчэнне незалежнай Беларусі. Вось красамоўная цытата зь першага "русскоязычного учебного пособия по геополитике" аўтара А.Г.Дугіна з "научным консультантом начальником кафедры стратегии Военной академии генштаба РФ генерал-лейтенантом Н.П.Клокотовым":

"В отношении Белоруссии геополитическая картина довольно ясная. За исключением небольшой части полонизированных белорусов (католиков, униатов, а также поляков), подавляющее большинство населения однозначно принадлежит русскому пространству и должно быть рассмотрено как субъект центрального евроазиатского этноса, т.е. как "русские" в культурном, религиозном и геополитическом смыслах. Языковая специфика, некоторые этнические и культурные особенности не меняют общей картины. Поэтому с Белоруссией Москва должна интегрироваться самым тесным образом, не забывая при этом о том, что поощрение языковой и культурной самобытности белорусов является важным позитивным моментом во всей системе евразийской интеграции...

Единственный болезненный шаг в Белоруссии, который необходимо предпринять для предупреждения центробежных сил и подрывных тенденций, — это выделение в особую административную категорию некоторых областей, компактно заселеных католиками и униатами, вплоть до предоставления им значительной автономии, достаточной для того, чтобы войти в Среднеевропейское пространство. Стремление любой ценой удержать Белоруссию всю целиком под прямым и жестким контролем Москвы приведет к тому, что в ней самой и со стороны западных соседей Россия будет иметь тлеющие угли потенциального геополитического конфликта, который в данном случае (в отличие, например, от Литвы) может быть решен в интересах всех заинтересованных сторон.

*Белоруссию следует рассматривать как часть России, и поэтому интеграцию с ней надо проводить по оси Запад—Восток... Настоящая западная граница России должна пролегать намного западнее, поэтому в полноценной геополитической картине белорусские земли скорее относятся к центральной области, чем к западной окраине".* (Основы геополитики: Геополитическое будущее России. М, 1997.)

Пасля таго, як беларускія пісменнікі на чале з Р.Барадуліным наведалі ў лістападзе Віцебск, з Масквы быў высаджаны дэсант расійскіх пісьменнікаў у Брэст, Віцебск, Магілёў. Апрацоўку мазгоў грамадзян Беларусі інэгратары з Расіі вялі не толькі ў залах, але і праз дзяржаўныя СМІ. Пасля сустрэчаў В.Распуцін у газеце "Славянский набат" пісаў:

*"Нынешнюю Россию, преступную, коррумпированную, откровенно безнравственную, с недееспособной и услужливой чужим интересам властью, распродающую себя направо и налево за гроши и себя убивающую, — такую Россию сегодня боятся во всем мире. Другую Россию, противостоящую первой, знают плохо, она чаще всего предстает в образе Жириновского. Настороженность многих белорусов, прекрасно осознающих необходимость воссоединения с Россией, объяснима: они боятся попасть под тот сокрушительный молох, который продолжает неослабно действовать... Мы вновь начали с союза национальных литератур и культур, всегда составлявших в славянском мире единую душу".* ("Славянский набат". 1999. № 6. 12 — 18 февраля, г.Минск.)

Як бачым, расійскія стратэгі ўлічваюць фактар нацыянальнай ідэі ў канфесійнай і культурніцкай форме дзеля знішчэння незалежнасці Беларусі й нават яе своеасаблівага падзелу.

Калі вызначыць сітуацыю, у якой апынулася Беларусь, з інфармацыйнага гледзішча, то можна назваць яе адначасова інфармацыйным таталітарызмам і інфармацыйным каланіялізмам. У інфармацыйнай прасторы краіны дзейнічаюць пераважна расійскія сродкі інфармацыі. Бальшыня вясковага насельніцтва мае магчымасць глядзець толькі БТ. У гарадах глядзяць яшчэ тры-чатыры расійскія каналы. Спадарожнікавае тэлебачанне глядзяць адзінкі.

Закрыты або пастаўлены пад пагрозу быць імненна закрытымі шэраг недзяржаўных СМІ Беларусі. Дзяржаўныя беларускія радыё ды тэлебачанне належаць прэзідэнту А.Лукашэнку і безупынна апрацоўваюць свядомасць "простых людзей" утварэннем у іхных галовах вобраза "ворага" з нацыяналістаў. Тое ж самае робяць расійскія каналы. Гэта робіцца для таго, каб падчас акцыі радыкальнага знішчэння незалежнасці Беларусі, калі сапраўдныя патрыёты паўстануць на абарону Радзімы, бальшыня насельніцтва не толькі не падтрымала іх барацьбы, а наадварот, выступіла на баку імперскіх сілаў. Якраз у такіх варунках, не маючы электронных сродкаў масавай інфармацыі, даводзіцца дзейнічаць Народнаму Фронту, АГП і іншым партыям, што змагаюцца за незалежнасць.

## Першы ўзровень псіхікі і першая форма існавання нацыянальнай ідэі

На першым узроўні псіхікі – біялагічна неўсведамляльным — свет адлюстроўваецца інстынктамі й рэфлексамі. Гэты ўзровень фарміраваўся ў людзей у некалькі разоў даўжэй, чым астатнія, пачынаючы з жывёльнага стану.

Тут заўжды ёсць інстынктыўны СТРАХ смерці, прысутнічае яе носьбіт (чалавек ці арганізацыя), ад якога зыходзіць смяротная небяспека. Гэта вобраз ВОРАГА, які пагражае смерцю. На гэтым узроўні псіхікі заўжды існуе вобраз АБАРОНЦЫ ад смяротнай пагрозы, ад ВОРАГА.

Для савецкага чалавека («саўка») у Беларусі такім ворагам, які нясе смяротную небяспеку, сёння ёсць НАЦЫЯНАЛІСТ». Ён атаясамляецца ў свядомасці такога чалавека з фашыстам. Вось націранні аднаго з фронтаўцаў:

***«Падчас выбарчых кампаніяў і перад абодвума рэферэндумамі мне асабіста давялося зайсці ў сотні кватэр у маім родным горадзе Гродна і спрабаваць агітаваць людзей за нацыянальныя каштоўнасці. Шмат у якіх кватэрах, пачуўшы, што я размаўляю на беларускай мове, кажу пра неабходнасць яе захавання, на мяне глядзелі насцярожана. Калі ж на пытанне, «ці я не з БНФ», я адказваў «так», тут жа дзверы перад маім носам з трэскам зачыняліся і паўздагон мне кідалі: «Фашыст!». Я шмат год пакутліва шукаў адказу, чаму так нас называюць шмат людзей і як пераканаць іх. Урэшце адказ быў знойдзены...»*** (А.Астроўскі, **прафесар, доктар медыцынскіх навук, сябра Сойму БНФ).**

Адначасова з узнікненнем БНФ «Адраджэньне» кампартыя пачала замбаванне на смерць дэмакратычнага руху і нацыяналістаў. У шматлікіх матэрыялах у СМІ Народны Фронт атаясамлівалі з фашыстамі, здраднікамі, паліцаямі. Такая прамыўка мазгоў цягнецца па сёння. Дастаткова нагадаць фільм «Дети лжи».

Поспех расійскіх шавіністаў з беларускай прапіскай абумоўлены не толькі наяўнасцю ў іх СМІ. Іхны поспех вынікае і з таго, што з боку нацыяналістаў не было нават актыўнай спробы абараніць нацыянальную ідэю на першым узроўні псіхікі.

Між тым менавіта на гэтым узроўні ў чалавека ёсць вельмі моцны абаронца — МАЦІ. Калі спытаць у чалавека, што для яго значыць «маці», дык у адказ пачуеш: «Ну як што? Маці — яна і ёсць маці...». Для любога чалавека «маці» адразу атаясамліваецца з паняццем нараджэння дзіцяці, з жыццядайным пачаткам. Маці асацыюецца з кармленнем дзіцяці — падтрыманнем жыцця, абаронай дзіцяці ад небяспекі, якая можа зыходзіць ад выпадковых драбніцаў. І, урэшце, маці гатовая ахвяраваць сваім жыццём дзеля захавання жыцця дзіцяці. Такім чынам, слова МАЦІ аўтаматычна выклікае ў чалавека веру ў жыццядайны пачатак і жыццеабарончую ролю. Слова МАЦІ прынцыпова не паддаецца замбаванню на смерць.

Таму, на наш погляд, ідэалагемай, якая прэзентуе нацыянальную ідэю на ўзроўні біялагічна-неўсведамляльнага, магло б быць словазлучэнне: БЕЛАРУСЬ — НАША БАЦЬКАЎШЧЫНА-МАЦІ.

Бацькаўшчына — слова жаночага роду і нясе ў сабе адначасна і жаночы пачатак, і мужчынскі. Бацька бароніць дзяцей і жонку ад ворага, які нясе смерць, і ахвяруе сваім жыццём дзеля абароны жыцця родных.

Такім чынам, выразы "бацькаўшчына", "маці-Беларусь", «бацькаўшчына-маці» пры азначэнні пачуцця чалавека да радзімы, да Беларусі маюць веравызначальны пачатак. Чалавека, які так называе Беларусь, немагчыма ідэнтыфікаваць з чалавекам, які нясе смяротную пагрозу для нармальных людзей. Бо як бароняць дарослыя дзеці сваіх бацькоў, так дзеці Бацькаўшчыны-маці бароняць сваю радзіму-Беларусь. Вось характэрныя радкі Я.Купалы, які геніяльна адчуў тое, што павінна западаць у душы беларусаў, і вельмі часта выкарыстоўваў гэты вобраз:

ДЛЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

...Я зноў заснуўшую было жалейку
Бяру і пробую ў ёй галасоў:
Ці хопіць светлых, звонкіх думак-слоў,
Ці гладка пойдзе песьня-дабрадзейка?

Адно, снуючы з сумам па праследзьдзі,
Я голасна йграць буду ў тайным брэдзе,
Для Бацькаўшчыны-маці буду йграць!

ЧАС!

...Хай званы зазвоняць з жарам,
Хай музыка ў струны ўдара!
Гэй, паўстань, народ!
За сябе сам пастаяці
І за Бацькаўшчыну-маці
Йдзі, народ, на сход!

НЕ ШУКАЙ

Не шукай сабе, мой братку,
З ветрам Бацькаўшчыну-матку
Ні на сушы, ні на моры,
Ні у шчасці, ні у горы,
Не шукай яе там, братку!

КРЫЎДА

Зьядае крыўда нас ад векаў,
Няма ні праўды, ні парадку,
Стаў чалавек зьвер чалавеку,
Труюць адзін аднога звадкай.
...
Ані канца таму пракляццю,
Ані яснотаў тых пачатку...
Калі ж ты, Бацькаўшчына-маці,
Устанеш к новаму парадку?!.

Гэтыя прыклады можна доўжыць і доўжыць.

Такім чынам, першасны вобраз нацыянальнай ідэі, які можа аб'ядноўваць грамадзянаў Беларусі, вобраз, які можна смела дэманстраваць, вобраз, які немагчыма замбаваць на смерць і тым самым рабіць з носьбітаў гэтага вобраза ворагаў народа; вобраз, які аўтаматычна выклікае давер як да сябе самога, так і да сваіх прыхільнікаў, ёсць ідэалагема «БАЦЬКАЎШЧЫНА-МАЦІ», а адпаведны лозунг павінен быў бы гучаць, як БЕЛАРУСЬ — НАША МАЦІ-КРАІНА, НАША БАЦЬКАЎШЧЫНА-РАДЗІМА.

Невыпадкова, напэўна, што шэраг вершаў Янкі Купалы з гэтымі словамі не друкаваўся ў часы панавання савецкай улады. Той самы вобраз эксплуатавала і сталінская ўлада падчас вайны з гітлераўцамі ў знакамітым плакаце «РОДИНА-МАТЬ ЗОВЕТ». Гэты вобраз даволі працяглы час актыўна выкарыстоўвала тэлебачанне Расіі ў форме тэлезаставікі, дзе на ўвесь экран Маці — вобраз Расіі — корміць дзіця.

Менавіта ў «Бацькаўшчыне-маці» трэба бачыць адпаведны вобраз нацыянальнай ідэі для беларусаў, які ўспрымаецца на біялагічна-неўсведамляльным узроўні і перадаецца на ім. Як яго данесці да людзей, мы пакажам ніжэй.

### Другі ўзровень псіхікі і другая форма нацыянальнай ідэі: БЕЛАРУСЬ – НАШ ДОМ, НАШ ХРАМ

На другім узроўні псіхікі — біялагічна-ўсведамляльным — у любога чалавека прысутныя свядома асэнсаваныя каштоўнасці здароўя і жыцця. Тут таксама ёсць месца «смерці», страху смяротнай небяспекі. Ёсць вораг, ад якога зыходзіць смяротная небяспека, ёсць і абаронца ад страшнага ворага. Але ўсе гэтыя «страхі», «ворагі», «абаронцы» лагічна асэнсоўваюцца.

Нацыянальная ідэя на гэтым узроўні псіхікі прадстаўлена ідэалагемай ДОМ. Вядомыя выразы: «дома і сцены памагаюць», «мой дом — мая крэпасць». Чалавек спадзяецца на абарону і дапамогу ДОМА. Дом нясе ў сабе стваральны, творчы пачатак, дом будуюць, ладзяць у ім жыццё, адносіны паміж тымі, хто жыве ў доме. У дом прыходзяць адпачываць, святкаваць; бывае, што ў дом прыходзіць гора. У доме хаваюцца ад непагоды, і дом бароніць ад дрэнных людзей.

Расійскія палітыкі выкарысталі ідэалагему ў палітычнай барацьбе, стварыўшы праўрадавае аб'яднанне «НАШ ДОМ — РОССИЯ». Таму з гэтай формулай у людзей звязаны пэўныя асацыяцыі, у тым ліку і адмоўныя. Тым не менш эфектыўнасць ідэалагемы «...А НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ» ва ўмовах паўкаланіяльнага існавання мае вельмі высокі патэнцыял:

«Беларусь не калідор ды труба, не камуналка ці прахадны двор, не вайсковая база і чарнобыльскі сметнік, не прыбудова, а ДОМ. Ідэалагемы, якія прэзентуюць нацыянальную ідэю на другім узроўні псіхікі, ёсць: «Беларусь — наш Дом, наш Храм», «МЫ абаронім наш ДОМ — БЕЛАРУСЬ», «Давайце разам будаваць наш Дом — Беларусь».

Для беларускага менталітэту, акрамя побытавых адносінаў да ДОМА, характэрныя адносіны святасці. Вельмі выразна гэта можна ўбачыць у творах Уладзіміра Караткевіча:

НА БЕЛАРУСІ БОГ ЖЫВЕ

...Так кажа мой просты народ.
Гэты край —
Твой дом і сабор.
У Беларусі бог жыве—
І няхай давеку жыве...

БЫЎ. ЁСЦЬ. БУДУ

За ўсіх, хто крывёю піша
Ў нязгодзе
З рабства подлай дарогай,
Хто за Край Свой Родны, за ўсе Народы
Паўстане нават на Бога...

За ўсіх, хто курчыцца ў полымі вёсак,
Хто ратуе краіну ад краху,
За ўсіх, хто бясстрашна глядзіць у нябёсы
З барыкады,
З пушчы
І з плахі,

Хто са смерцю гаворыць з вока на вока,
З яе усмешкаю ветлай,
І ўсё ж узводзіць -нясцерпна далёкі --
Храм наш агульны й светлы...

Тут паняцце ХРАМ мае паганскае адценне; радкі
"Хто за Край Свой Родны, за ўсе Народы
Паўстане нават на Бога"
сведчаць, што дом-храм тут можа быць і без хрысціянскага Бога. Відаць таксама непадуладны замбаванню сэнс «дома»: «Хто са смерцю гаворыць з вока на вока»...

Увядзенне ў палітычны лексікон ідэалагемы «БЕЛАРУСЬ — НАШ ДОМ, ХРАМ (І САБОР)» дазваляе прэзентаваць нацыянальную ідэю на другім узроўні псіхікі. Гэта не дае ворагам беларушчыны магчымасці замбаваць на смерць нацыянальную ідэю і яе носьбітаў, дазваляе правесці адасабленне ад расійскага імперскага, праўрадавага «дома» і яго «жыхароў».

### Трэці ўзровень псіхікі і нацыянальная ідэя: каштоўнасці нацыянальнай дзяржавы

Тут нацыянальная ідэя прадстаўлена каштоўнасцямі нацыянальнай дзяржавы: мовааю, культураю, гісторыяй, Канстытуцыяй, гістарычнай сімволікай — "Пагоняй" і бел-чырвона-белым сцягам. Ва ўмовах фарміравання нацыянальнай дзяржавы, на першых этапах яе існавання, ўсе гэтыя атрыбуты патрабуюць тлумачэння для бальшыні насельніцтва. Такія паняцці, як *суверэнітэт, грамадзянская супольнасць, прававая дзяржава* і *правы чалавека, падзяленне ўладаў,* абсалютна незразумелыя бальшыні насельніцтва.

На пачатку перабудовы бальшыні грамадзянаў БССР нацыянальную ідэю на трэцім узроўні псіхікі ўсе газеты рэспублікі падалі разгромным артыкулам «ЭВАЛЮЦЫЯ ПАЛІТЫЧНАГА НЕВУЦТВА». Прачытайце частку артыкула, які, дарэчы, быў надрукаваны ў «Вячэрнім Мінску» 21 кастрычніка 1988 года:

«...Разгледзім «Ратушу» ў прамым арыгінальным варыянце. Яна складаецца з такіх раздзелаў, як «суверэнітэт рэспублікі», «эканоміка», «дэмакратызацыя», «экалогія», «нацыя», «мова», «культура»... Вывучаючы гэты дакумент, са здзіўленнем выяўляеш, што нашы дамарослыя «рэфарматары» падвергнулі грунтоўнаму ператрэсванню рад асноватворных палажэнняў марксісцка-ленінскай тэорыі... яны заклікаюць сабе на дапамогу духаў даўно асуджанага гісторыяй і ўсім беларускім народам буржуазнага нацыяналізму, прыўнеслі ў свае «звароты» й «ратушы» даўно спарахнелы ідэалагічны хлам».

Далейшая частка артыкула памерам з газетную паласу прысвечана дзвюм тэмам:

1. Маладыя талакоўцы — браты Івашкевічы, А.Радкевіч, А.Суша, В.Вячорка, С.Лобач, а разам з імі старыя Лявон і Юры Луцкевічы, атаясамліваліся з паліцаямі і гітлераўцамі.

2. На Івашкевічаў і Вячорку ўзводзіўся паклёп як на асобаў, якія рвуцца ў палітычныя лідэры.

Такім чынам, нацыянальная ідэя на палітычным узроўні яе існавання паддавалася дыскрэдытацыі праз дыскрэдытацыю ды замбаванне на смерць яе носьбітаў.

### Чацвёрты ўзровень псіхікі і нацыянальная ідэя: асабісты прыклад выдатных беларусаў

На гэтым узроўні нацыянальная ідэя прэзентуецца выбітнымі дасягненнямі суайчыннікаў. Тут існуюць АСІЛКІ-ВАЯРЫ — як Канстанцін Астрожскі, пераможца маскоўскага войска, якое ўтрая пераўзыходзіла беларускае войска. І першадрукары Бібліі — як Францішак Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі. І Леў Сапега — як натхняльнік стварэння Статута Вялікага Княства Літоўскага, фактычна першай дэмакратычнай Канстытуцыі ў Еўропе. Тут і Барыс Кіт, які закладаў падмурак сённяшніх «Шатлаў», і гімнасты Вольга Корбут ды Віталь Шчэрба...

Аналіз працэсаў трансфармацыі менталітэту беларусаў сведчыць, што, не маючы на працягу стагоддзяў сваёй дзяржавы і нацыянальнай самасвядомасці, насельніцтва Беларусі не набыло трывала-палітычнага ўзроўню псіхікі. А працэс перабудовы прывёў да "выцірання" сацыяльных каштоўнасцяў трэцяга слоя, які фарміраваўся 70 гадоў панавання савецкага таталітарызму і некалькі гадоў перабудовы.

Больш таго, складнікі беларускай нацыянальнай ідэі ў даволі вялікай частцы насельніцтва празамбаваныя на смерць (*нацыяналісты – гэта фашысты*) і маюць адмоўны статус сімвалічна-функцыянальнай фігуры (*буржуазныя нацыяналісты*).

**Выходзячы з гэтага, а таксама з рэальнай пагрозы існаванню Беларусі як самастойнай дзяржавы, мы прапануем сучасную форму нацыянальнай ідэі як** *стратэгію дзейнасці "моцнай рукі".*

## СУЧАСНАЯ ФОРМА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ІДЭІ – СТРАТЭГІЯ МОЦНАЙ РУКІ

### Метадалагічныя меркаванні

Нацыянальная ідэя мае мноства формаў. Яна можа існаваць у свядомасці людзей як мара, як мэта, як сродак дзейнасці. Гэтая ідэя можа быць вынікам як тэарэтычнага асэнсавання, так і практычнай дзейнасці палітыкаў, сродкам ідэалагічнага ўздзеяння і псіхалагічнага ўплыву.

З пункту погляду глыбіні навуковай распрацоўкі нацыянальная ідэя можа асэнсоўвацца ў наступных формах: ідэя, дэфініцыя, канцэпцыя, тэорыя.

Ідэя ўвогуле як форма паняцця ёсць няясная, дакладна не акрэсленая сувязь паміж прадметамі.

Дэфініцыя (азначэнне) ёсць адмежаванне даследаванага аб'екта ад іншых. Азначэнняў у аб'екта можа быць мноства, бо кожны прадмет мяжуе са шматлікімі іншымі.

Канцэпцыя ёсць такая форма паняцця, якая адлюстроўвае некалькі асноўных законаў функцыянавання і развіцця аб'екта.

Тэорыя ёсць сукупнасць усіх законаў функцыянавання і развіцця аб'екта.

**Мы прапануем вашай ўвазе канцэпцыю беларускай нацыянальнай ідэі ў форме** ***стратэгіі дзейнасці*****, якая ўключае ў сябе ідэю на ўзроўні "ідэі", "дэфініцыі", а таксама ўключае ў сябе нацыянальную ідэю ў форме мары, мэты, сродкаў.**

### Змест нацыянальнай ідэі

### ПЕРШЫ КІРУНАК ДЗЕЙНАСЦІ АБАРОНІМ НАШУ БЕЛАРУСЬ – БАЦЬКАЎШЧЫНУ-МАЦІ, НАШ ДОМ-ХРАМ

Базавым палажэннем, з якога трэба падыходзіць да фарміравання канцэпцыі нацыянальнай ідэі, з'яўляецца факт існавання беларускага этнасу на мяжы вынішчэння. Да гэтага нас прывяла катастрофа на Чарнобыльскай АЭС. Беларусы ў перспектыве могуць фізічна знікнуць з-за генных мутацыяў. Мы ўсе не толькі атрымалі радыеактыўны удар, а працягваем есці забруджаныя харчы, дыхаць смяротнасным паветрам, што нясе вецер ад АЭС. Прэзідэнт пасылае ў зону маладых спецыялістаў.

Таму зместам першага накірунку стратэгіі дзейнасці павінна стаць абарона нашай Бацькаўшчыны-Маці ад чарнобыльскага генацыду. Галоўны метад — адхіленне ад улады прэзідэнта Лукашэнкі, які выступае апалагетам пражывання ў чарнобыльскіх зонах, стварыў перашкоды на шляху пастаўкі гуманітарнай дапамогі (чыстых прадуктаў харчавання і лекаў для дзяцей). Падрыхтоўка і правядзенне суда над чарнобыльскімі катамі — і тымі, хто загадваў асаджваць радыеактыўныя аблокі на Беларусь, і тымі, хто хаваў праўду пра ступень забруджанасці.

У гэты змест – абароны Бацькаўшчыны-Маці — мусіць увайсці таксама абарона ад рэанімацыі ідэй фашызму і расізму. Сёння на Беларусі адкрыта ідзе прапаганда славянафашызму. Лукашэнка паставіў мэту ўтварыць славянскую дзяржаву. Такое ж рабіў Гітлер. Невыпадкова з слоў самога Лукашэнкі вынікае, што ён намераны будаваць новую дзяржаву, беручы за ўзор Гітлера.

На Беларусі мусіць адбыцца суд на прапагандыстамі фашызму і яго ным галоўным ідэолагам.

Карупцыя на Беларусі ўзведзена на ўзровень дзяржаўнай палітыкі. Лукашэнка мае свой уласны бюджэт, які ніхто не кантралюе. Дзесяткі мільёнаў даляраў ён выдзяляе на прапаганду славянафашызму, а ад недахопу лекаў паміраюць дзеці, ветэраны.

Народны Суд над карупцыянерамі і іх правадыром — таксама сродак абароны нашай Бацькаўшчыны - Маці.

Развал прамысловасці і фінансавай сістэмы — яшчэ адзін сродак вынішчэння беларусаў. І тут прывязка эканомікі Беларусі да Расіі, якая развальваецца на вачах, – свядомы злачынны ўчынак Лукашэнкі. І за гэта павінен вынесці свой вердыкт Народны Трыбунал.

І, урэшце, канстытуцыйны пераварот з фальсіфікацыяй рэферэндуму ў 1996 годзе і пазнейшае падпісанне з Ельцыным дакументаў аб намеры знішчыць дзяржаўны суве-

рэнітэт Беларусі – усе гэтыя крокі па руйнаванні беларускай дзяржавы патрабуць дзейнасці па абароне, што ўключаюць ў сябе як акцыі пратэсту, так і тлумачэнне людзям небяспекі для іхнага існавання.

Ва ўмовах, калі судовая сістэма цалкам падпарадкаваная таталітарнаму рэжыму і яго лідэру, эфектыўным мусіць быць і такі сродак барацьбы, як Народны Суд над здраднікам Радзімы.

Усе пяць Судовых камісій неабходна аб'яднаць у Народны Трыбунал і правесці ягонае пасяджэнне з вынясеннем прысуду, які можа быць выкананы пры зацвердженні яго прававымі інстытутамі Незалежнай Дэмакратычнай Беларусі.

Акрамя гэтага, кожны нацыянальна свядомы грамадзянін мае права і абавязаны па Канстытуцыі бараніць Беларусь любымі сродкамі.

Пасяджэнням судовых камісіяў і трыбунала мусіць папярэднічаць збор подпісаў за адстаўку дыктатара, падчас якога і неабходна тлумачыць сэнс ягоных дзеянняў і непазбежнасць кары.

### ДРУГІ НАКІРУНАК ДЗЕЙНАСЦІ ПАБУДУЕМ БЕЛАРУСЬ – ЕЎРАПЕЙСКІ ДОМ БЕЛАРУСЫ – ЕЎРАПЕЙСКІ НАРОД

Мэта: Вяртанне Беларусі ў Еўропу, з яе культураю і ўзроўнем жыцця, з яе хрысціянскімі нормамі паводзінаў.

Сродкі і метады:

а. Правядзенне разнастайных акцыяў пад лозунгам "МЫ ХОЧАМ І БУДЗЕМ ЖЫЦЬ ПА-ЕЎРАПЕЙСКУ!"

б. Правядзенне народнага галасавання (апытання) "Незалежная Беларусь—у Еўропу".

### ТРЭЦІ НАКІРУНАК ДЗЕЙНАСЦІ АДРОДЗІМ У ДУШАХ ГРАМАДЗЯН КРАІНЫ БЕЛАРУСЬ ЯК ДОМ-ХРАМ

Сродкі і метады: сустрэчы паэтаў і пісьменнікаў з чытачамі. Творчыя конкурсы

### ЧАЦВЁРТЫ КІРУНАК ДЗЕЙНАСЦІ ПАБУДУЕМ НАШ ДОМ-БЕЛАРУСЬ У XXI СТАГОДДЗІ

Мэта: Фарміраванне "Беларускай мары" ў форме праекта і чаканняў добрага жыцця ў БНР XXI стагоддзя, фарміраванне грамадзянскай супольнасці на базе нацыянальнай ідэі.

Сродкі і метады:

а. Стварэнне сацыяльна-палітычнай і эканамічнай мадэлі "Беларусь – У XXI СТАГОДЗДЗІ".

б. Стварэнне паралельных уладных структураў незалежнай Беларусі; падтрымка існуючых і стварэнне новых дэмакратычных СМІ.

в. Давядзенне да шырокага кола грамадзянаў канцэпцыі БУДУЧАЙ БЕЛАРУСІ (дзяржаўніцкай, эканамічнай, прамысловай, сельскагаспадарчай, паслячарнобыльскай, прававой, маральнай).

г. Прапаганда найлепшых беларускіх літаратурных і мастацкіх твораў у Еўропе і ва ўсім свеце.

е. Атрыманне грамадзянства БНР як вечнага і дарагога нам узору Беларускай дэмакратычнай дзяржавы мінуўшчыны й будучыні (а) пашырэнне масавай інфармацыі; б) падрыхтоўка тэхналогіяў пераконвання й трэнінг агітатараў; в) стварэнне варункаў здачы заяваў).

### ПЯТЫ КІРУНАК: ЗА ЎЗАЕМАДАПАМОГУ, САЛІДАРНАСЦЬ І ЗАМОЖНАЕ ЖЫЦЦЁ Ў НАШЫМ ДОМЕ, ЗА НАШУ ЎСЕАГУЛЬНУЮ ТАЛАКУ

Мэта: Стварэнне скаардынаванага антытаталітарнага руху ў Беларусі. Кожнаму такому выступу – наша падтрымка. Кожны, хто сядзіць у турме за пратэст супраць рэжыму, павінен адчуваць падтрымку сяброў. Рабочыя, сяляне, прадпрымальнікі, інтэлігенцыя павінны ведаць, што носьбіты нацыянальнай ідэі хочуць, каб кожны з іх меў еўрапейскі ўзровень жыцця. Народ, што перамог гітлераўцаў, павінен жыць заможна! Гэта значыць: Кожнай сям'і—свой дом ці кватэру, мужу і жонцы—па аўтамабілю. Наш рабочы, селянін, інжынер, навуковец, настаўнік, доктар, дзяржслужбовец, міліцыянер, вайсковец павінен атрымліваць сярэднееўрапейскі заробак. Сярэдні паміж палякам, літоўцам, немцам, французам, англічанінам, шведам, італьянцам... Пенсіянерам – сярэднееўрапейскую пенсію, якая дазволіць ім мець усё неабходнае для нармальнага жыцця!

## МОЦНАЯ РУКА

Гэтыя пяць кірункаў дзейнасці падобныя да пальцаў рукі, што імкнецца працаваць на карысць Беларусі.

Рукі, якая працягнута любому, хто падзяляе нашы ідэі й хоча супрацоўнічаць, незалежна ад партыйнай прыналежнасці й веравызнання.

Рукі, якая працягнута таму, хто гіне, — для выратавання, таму, хто слабы, – для дапамогі.

Гэтая рука – сімвал грамадзяніна, які галасуе за цывілізаваную, дэмакратычную нацыянальную дзяржаву.

Гэтая рука—сімвал будаўніка, творцы, выратавальніка й абаронцы.

**ГЭТА ДОБРАЯ РУКА, ПРЫЯЗНАЯ РУКА**

**Адначасна гэтыя пяць пальцаў сціснуты ў кулак, каб моцна трымаць старажытны сцяг і зброю дзеля абароны краіны ад захопнікаў і каланізатараў. Гэта наш антытаталітарны кулак, які пакарае здраднікаў і спыніць захопнікаў!**



*Ірына Бугрова,*
*кандыдат філасофскіх навук*

# Ідэнтычнасць Беларусі: З вопыту «разумеючай» паліталогіі

«Захад унікальны, але не ўніверсальны».
**З.Ханцінгтон**

«Універсальнасць – гэта лакальнасць без сцэн».
**М.Торга**

## Да пастаноўкі пытання: межы дыскурсу

Праблема ідэнтычнасці, з асаблівай сілай заяўленая на рубяжы 80-ых–90-ых гг.[1], адлюстравала многія змены, што адбываюцца ў свеце. Найбольш радыкальныя з іх былі выкліканы дэканструкцыяй біпалярнага свету, ліквідацыяй адной з супердзяржаў і адпаведна разбурэннем колішняй сістэмы міжнародных камунікацый. Пэўнасць, якая склалася пад уплывам «ялцінскай» мяжы, што размежавала свет на дзве сістэмы, знікла. Практычна на працягу паўвека яна спрашчала працэс ідэнтыфікацыі, забяспечваючы некаторую сацыяльна-палітычную кансалідацыю і ідэалагічны рэсурс афіцыйнай улады абапал размежавальнай лініі.

Сёння працэс стварэння новых камунікацый аказваецца вельмі складаным. З аднаго боку, ён звязаны з пошукам палітычнымі акцёрамі новай ідэнтычнасці, самаацэнкай, самаразуменнем; з другога боку – з распазнаваннем сябе ў трансфармаванай прасторы суседзяў, рэгіёна, кантынента, свету. І ў гэтым сэнсе ён нагадвае вопыты з галіны «палітычнай уфалогіі», дзе кантакцёры маюць справу з «неапазнанымі аб'ектамі», у якасці якіх выступаюць новыя дзяржавы ці іх саюзнікі. Гэта, безумоўна, робіць працэс камунікацыі яшчэ больш непрадказальным, а парой і канфліктным, уносячы ў яго элементы недаверу і засцярогі.

Сярод мноства метадаў, з дапамогай якіх магчыма вырашыць праблемы ідэнтычнасці і аптымізацыі камунікацый, усё большае прызнанне набывае метад палітычнай культуры як «тлумачальнай катэгорыі» (Г.Алмонд, З.Верба). «Гэта паняцце паведамляе псіхалагічнаму і суб'ектыўнаму вымярэнню палітыкі некаторую здольнасць служыць тлумачальнымі фактарамі»[2], практычным інструментам «разумення» працэсаў, якія адбываюцца. У нейкай ступені яно становіцца функцыянальна незаменным, калі гаворка ідзе аб «разуменні», пошуку ідэнтычнасці канкрэтнай краіны ці народа, у нашым выпадку – Беларусі. Вопыт рэканструкцыі палітычнай культуры Беларусі можа служыць у нейкім сэнсе «герменеўтычным «ключом да сучаснага беларускага палітычнага «тэксту», які адчыняе яе магчымасці у новай камунікатыўнай прасторы.

## Гістарычная рэтраспетыва.

### 1. Традыцыі і імідж дзяржаўнасці

Вырашэнне праблемы ідэнтычнасці ўключае ў сябе абавязковы зварот да гістарычнай памяці народа, яго традыцыйных уяўленняў аб уласнай дзяржаўнасці, яе вытоках. Нягледзячы на скептычныя адносіны пэўнай групы даследчыкаў да пытання аб існаванні ў беларусаў значнага гістарычнага вопыту дзяржаўнасці, непрадузяты погляд на гісторыю сведчыць пра тое, што было б несправядлівым цалкам адмаўляць у ім Беларусі, хутчэй можна весці гаворку аб спецыфічным варыянце гэтага вопыту.

Гісторыя Беларусі налічвае некалькі спробаў стварэння ўласнай дзяржаўнасці. Першая з іх звязана з узнікненнем першых княстваў-дзяржаў на яе сучаснай тэрыторыі. Нягледзячы на дастаткова развітыя для того часу дзяржаўныя формы, яны, аднак, не сталі цэнтрамі імавернай беларускай дзяржавы, а ўвайшлі складовай часткай у больш моцныя аб'яднання, у, прыватнасці, у Вялікае Княства Літоўскае.

Пачынаючы з Вялікага Княства Літоўскага, мадэль дзяржаўнай ідэнтыфікацыі беларусаў уключала ў сябе дуалістычны пачатак: з аднаго боку, ва ўмовах кампактнага пражывання складваліся механізмы самаідэнтыфікацыі беларусаў, якія дазвалялі ім адрозніваць сябе ад іншых народаў; з другога боку, фарміраванне беларускага этнасу праходзіла на фоне пастаяннага ігнаравання лучнасці яго з іншымі народамі (ВКЛ, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, СССР), што абумовіла наяўнасць устойлівых юніяніцкіх уяўленняў у палітычнай культуры беларусаў. Гэты сіндром венгерскі даследчык Іштван Біба назваў «няшчасцем», «бездапаможнасцю народаў малых краін Усходняй Еўропы»[3]. Сутнасць яго – у няздольнасці народаў гэтых краін самастойна вырашаць пытанне аб стварэнні ўласных нацыянальных дзяржаў у той перыяд, калі яны ўзнікалі па ўсёй Еўропе (XVI–XVIII стст.). З той толькі розніцай, што многія з гэтых народаў (венгры, славакі) аказаліся здольнымі яго рашыць некалькі пазней – у XIX– пач. XX стст., для беларусаў жа гэты перыяд аказаўся яшчэ больш працяглым. Юніяніцкія ўяўленні

знайшлі значнае адлюстраванне і ў постсавецкім вопыце Беларусі, што будзе разгледжана далей.

Неабходна канстатаваць, што ў гістарычнай традыцыі беларусаў адсутнічае вобраз моцнай дзяржавы, самастойнага геапалітычнага цэнтра, «збіральніка земляў», які б аб'яднаў раскіданыя аўтэнтычныя этнічныя элементы ў нацыю. Наадварот, з прычыны асаблівага геаграфічнага становішча Беларусі, якая знаходзіцца на мяжы двух цэнтраў саперніцтва – заходняга рымска-каталіцкага і ўсходняга праваслаўна-візантыйскага, яе тэрыторыя на працягу большасці гістарычнага часу пастаянна падпадала пад перадзел. У розны гістарычны час землі этнічных беларусаў або пераходзілі ад адной дзяржавы да другой (Польшчы, Расіі, Германіі, Літвы), або перажывалі ўнутраную адміністрацыйнаю перакройку[4]. Пастаянна мяняў месца і галоўны адміністрацыйны цэнтр дзяржавы. Статус сталіцы мелі розныя гарады (Полацк, Навагрудак, Вільня, Менск). Здаецца, менавіта гэтым тлумачыцца тое, што самаідэнтыфікацыя беларусаў насіла ў асноўным лакальны характар і грунтавалася на прыналежнасці да пэўнай тэрыторыі, мясцовасці, рэгіена («тутэйшыя»), канфесійнай групы (праваслаўныя, каталікі і г.д.), клана, роду, сям'і, не ўздымаючыся да ўзроўню нацыі і дзяржавы.

Даследаванні, праведзеныя ў 1995–96 гг. у рамках міжнароднага праекта «Фаталізм і яго ўплыў на эканамічныя рэформы і дэмакратычныя працэсы» (INTAS)[5], пацвердзілі захаваную да цяперашняга часу прыярытэтную значнасць лакальнай ідэнтыфікацыі перад агульнанацыянальнай. У іерархіі інтарэсаў, якімі кіраваліся грамадзяне пры выбарах дэпутатаў у Вярхоўны Савет РБ (у 1995 г.), першыя пазіцыі занялі асабістыя (75,4%), рэгіянальныя (49,1%), зямляцкія (46,1%) інтарэсы, затым партыйныя і групавыя і перадапошняе і апошняе месца – нацыянальныя (31,1%) і дзяржаўныя (30,5%). І ў гэтым сэнсе працэс нацыянальнай кансалідацыі выглядае цяжкавырашальнай задачай.

Агульнавядома, што працэс кансалідацыі дзяржавы адбываецца пад уплывам знешніх і ўнутраных фактараў. Знешні фактар тлумачыцца неабходнасцю абароны ад магчымай агрэсіі звонку. Унутраны фактар ёсць вынік развіцця ўнутрыдзяржаўных працэсаў: стварэння адзінай эканамічнай інфраструктуры, уніфікацыі палітыка-прававой сістэмы, стварэння адзінай культурнай, моўнай прасторы. Псіхалагічны механізм яго заснаваны на пачуццях бяспекі і прадказальнасці адносінаў паміж членамі супольніцтва. У выпадку беларускай дзяржаўнасці ўзаемадзеянне ўнутраных і знешніх фактараў на працягу гісторыі часта праяўлялася канфліктнасцю, інакш кажучы, фактар знешняй агрэсіі не заўсёды аднолькава ўспрымаўся ўсімі членамі грамадства як пагроза бяспецы. Гэта тлумачылася няўстойлівасцю прававога стану розных сацыяльных супольнасцяў і груп (напрыклад, канфесійных), якія не заўседы звязвалі асабістую бяспеку з існаваўшай дзяржавай, а таксама слабай унутранай кансалідацыяй рознаарыентаваных груповак мясцовай эліты, калі знешні канфармізм пераважваў больш небяспечную дзейнасць па кансалідацыі нацыі.

Тым не менш на сённяшні дзень у грамадскай свядомасці беларусаў прысутнічаюць два вобразы дзяржавы,якія ўяўляюць сабой варыянты праектыўнай мадэлі беларускай дзяржаўнасці. Гэт так званая «інтэлектуальна-элітарная» мадэль Вялікага Княства Літоўскага і «масавая» – Савецкага Саюза і адпаведна БССР. У іх адлюстраваны дзве канцэптуальна супрацьлеглыя версіі ролі дзяржавы ў жыцці грамадства, адносін дзяржавы і грамадства. Першая версія грунтуецца на ідэі прававой дзяржавы, абмежавання з боку грамадства сфер яе кампетэнцыі. Другая ўзыходзіць да ідэі сацыяльна справядлівай дзяржавы, з яе значным кантролем над грамадствам, размеркавальнай сістэмай і патэрналісцкімі чаканнямі. Кожнай з версій адпавядае свой сімвал-носьбіт (нацыянальны герой), у якім беларусы бачаць ідэал дзяржаўнага мужа. У першым выпадку – гэта Л.Сапега, віцэ-канцлер ВКЛ, адзін з распрацоўшчыкаў Статута 1588 г. У другім – П.М.Машэраў, адзін з найбольш любімых партыйных кіраўнікоў БССР у 70–80-я гг.

Супярэчлівая гісторыя дзяржаўнасці беларускага народа выпрацавала ў беларусаў агульныя ўстаноўкі-ўяўленні ў адносінах да дзяржавы. У іх адсутнічае моцная нацыянальная ці нацыянальна-вызваленчая ідэя, якая адлюстроўвала б імкненне народа да незалежнасці і яго прэтэнзіі на гістарычную актыўнасць па падставе ўласнага лёсу. Змест гэтых уяўленняў складае хутчэй ідэя пакутнасці («шматпакутны беларускі народ») і вітальнай мэтазгоднасці («абы горш не было»). Згодна з ёй чалавек абстрагуецца ад дзяржавы, якая заўседы ўяўляецца некіруемай і варожай яму сілай, імкнучыся не выклікаць да сябе яе цікавасці. У той жа час ён адчувае да дзяржавы падданніцкую прыхільнасць, якая тлумачыцца тым неабходным мінімумам умоваў, якія яна дае чалавеку для выжывання.

## 2. Арганізацыя палітычнай улады: vice versa

У арганізацыі палітычнай улады ў Беларусі можна з пэўнай дакладнасцю выдзеліць два асноўныя перыяды, супастаўленне якіх дае магчымасць гаварыць аб сітуацыі «перарванай традыцыі». Пры гэтым узнікае пытанне, якая з традыцый была больш аўтэнтычнай для беларусаў і, адпаведна, на якую з іх у беларусаў існуе большае аўтарскае права.

Першапачатковы працэс афармлення ўлады на беларускіх землях практычна нічым не адрозніваўся ад аналагічных працэсаў у іншых рэгіёнах Еўропы. Эвалюцыя палітычнага ладу Беларусі ішла па лініі пераемнасці раннефеадальных інстытутаў дзяржаўнай улады, умацавання асноваў феадальнай дзяржавы. Вялікае Княства Літоўскае (XIV – XVI стст.) мела ўсе прыкметы абмежаванай феадальнай манархіі на чале з вялікім князем (каралём, гасударам). У ВКЛ, як і ў раннефеадальных дзяржавах, значная роля належала Радзе, складзенай з найбольш знатных людзей дзяржавы, якая ўсё больш узмацняла свае становішча і ўдзельнічала ў прыняцці ўсіх важнейшых дзяржаўных рашэнняў.

Павышэнне сацыяльнай ролі служылага (шляхецкага) саслоўя знайшло адлюстраванне ў з'яўленні інстытута прадстаўнічай улады, так званага Сойму, які збіраўся рэгулярна з XIV ст. Першапачаткова ён займаў месца шырокага сходу кіруючага класа, закліканага атрымаць інфармацыю і абмеркаваць прынятыя гасударам і Радай рашэння, пазней яго заканадаўчыя функцыі пашырыліся. З часам Сойм стаў вышэйшым заканадаўчым органам улады ў ВКЛ, а затым Рэчы Паспалітай, і менавіта яму належала права выбіраць караля, які быў звязаны дамовай з вышэйшымі прадстаўнікамі шляхты[6], ад якіх залежала яго выбранне.

Рэч Паспалітую часта называлі «шляхецкай рэспублікай», аснову якой складалі шматлікія «шляхецкія вольнасці». «Сацыяльны плюралізм», які «даў штуршок да з'яўлення ў даволі ранні перыяд саслоўяў, парламентаў і іншых інстытутаў, якія прадстаўлялі інтарэсы арыстакратыі, духавенства, купецтва і іншых груп»[7], быў у такой жа ступені характэрны для развіцця беларускага грамадства XIV–XVIII стст., як і для іншых краін Заходняй і Цэнтральнай Еўропы.

Уключэнне беларускіх земляў у склад Расійскай імперыі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай вызначыла для Беларусі не толькі новае геапалітычнае становішча, але і прывяло да радыкальных соцыя-культурных трансфармацый. Беларускія землі былі інкарпараваны ў магутную бюракратычную, моцна цэнтралізаваную дзяржаўную сістэму Расіі і падпарадкоўваліся законам абсалютнай манархіі, якая мела статус імперыі. Беларусь атрымалася ў сітуацыі «адваротнага руху» – vice versa, у прасторы адваротных культурных кодаў. Апеляцыя да прызнання аўтаноміі розных грамадскіх суб'ектаў мянялася на апеляцыю да моцнай дзяржаўнай улады. «Бо тут (у Расіі – **аўт.**) не склаліся якія-небудзь іншыя механізмы інтэграцыі і інстытуталізацыі грамадства, абмежавання баярскіх і дваранскіх прывілеяў і прэрагатываў, акрамя моцнай дзяржаўнай улады»[8]. Новая рэальнасць для Беларусі выявілася:

– у пераходзе ад абмежаванай манархіі, ад рэспубліканскіх элементаў праўлення (няхай нават і ў варыянце шляхецкай рэспублікі) да формы абсалютнай манархіі (неабмежаванага самадзяржаўя);

– у скарачэнні наяўных інстытутаў палітычнага ўдзелу (у першую чаргу, інстытута выбараў) і замене іх інстытутамі прызначэнняў і вертыкальнага падпарадкавання;

– у рэзкім змяншэнні прасторы гарызантальных адносін, у зборы дысперснай улады (аўтаноміі мясцовай феадальнай знаці, федэральных адносінаў Рэчы Паспалітай і ВКЛ, самастойнасці гарадоў згодна з магдэбургскім правам) і паступовай манапалізацыі яе і сканцэнтраванасці ў імперскім цэнтры;

– у паступовай правінцыялізацыі беларускіх земляў, прыданні ім статута «імперскай перыферыі».

Сутыкненне двух палітычных дыскурсаў прывяло да з'яўлення і даўгачаснага існавання культурнага канфлікту на тэрыторыі Беларусі. Ён адлюстроўваў сутыкненне двух гістарычных тыпаў арганізацыі палітычнай прасторы – соцыя-цэнтрысцкага (усходняга) і персона-цэнтрысцкага (заходняга)[9] ці двух тыпаў палітычнай культуры – патрыярхальна-падданніцкага і актывісцка-падданніцкага (Г.Алмонд, З.Верба), якія адначасова прысутнічалі ў соцыя-культурным кантэксце Беларусі, вызначаючы яго амбівалентнасць. Гэты канфлікт быў часткова пераадолены на карысць соцыя-цэнтрысцкага дыскурсу ў перыяд існавання СССР.

## 3. Менталітэт беларусаў: асаблівасці культурнага кода

Менталітэт уяўляецца як асаблівы спосаб, ці хутчэй за ўсё механізм успрымання і першаснай апрацоўкі сацыяльнай інфармацыі, заснаваны на калектыўным бессвядомым. Узыходзячы да ўстойлівых структураў сацыяльна-псіхалагічнай дзейнасці чалавека, феномен менталітэту ўключае ў сябе істотную для ідэнтычнасці народа ці краіны праграмную інфармацыю. Ён у значнай ступені вызначае дамінуючы тып палітычнай культуры, яе дынаміку, кірунак змяненняў. Даследаваўшы асаблівасці менталітэту таго ці іншага народа, можна з пэўнай мерай дакладнасці прадказаць алгарытм яго паводзінаў у канкрэтных сітуацыях. Трэба заўважыць, што чым менш інстытуталізаваныя тыя ці іншыя працэсы, тым больш на змену правілам і працэдурам прыходзяць псіхалагічныя механізмы сацыяльнай арыентацыі, сярод якіх устойлівыя структуры менталітэту народа, сацыяльнай групы адыгрываюць не апошнюю ролю.

*Геаграфічны і геапалітычны фактары* фарміравання беларускага менталітэту вызначаюцца своеасаблівым становішчам Беларусі. Яе землі і ў прамым, і ў пераносным сэнсе заўсёды знаходзіліся на перакрыжаванні міжнародных дарог, уплываў, інтарэсаў, культур. З аднаго боку, гэта спрыяла развіццю гандлю, рамёстваў, адукацыі, рабіла землі адкрытымі для кантактаў, з другога боку – стварала пастаянную пагрозу нападкаў звонку.

Тэрыторыя Беларусі была амаль пастаянным тэатрам ваенных дзеянняў[10], часта насуперак сваёй волі, становячыся буфернай зонай ці «разменнай манетай» у спрэчцы больш моцных супернікаў, як, напрыклад, у час вайны паміж Маскоўскай дзяржавай і Польскім Каралеўствам, а затым Рэччу Паспалітай (XVI – XVII стст. ), Паўночнай руска-шведскай вайны (пач. XVIII ст.). Асабліва разбуральнымі і цяжкімі былі для Беларусі войны XX ст., якія вызначылі антываенную скіраванасць сучаснай палітычнай культуры беларусаў са спецыфічнай сімвалізацыяй Айчыннай вайны 1941–45 гг.

Пастаянная небяспека апынуцца ў сітуацыі вайны, прыходу захопнікаў ці проста новай улады стварылі архетып эфектыўнай псіхалагічнай мабілізацыі і адаптацыі. Яго характарызуюць такія якасці, як стрыманасць, цярплівасць, прывычка да цяжкасцяў жыцця, нейкая замкнёнасць, схільнасць хаваць свае пачуцці, апатычнасць. Як адзначалася ў Рускай энцыклапедыі, выданай у пачатку стагоддзя, «па натуры беларусы занадта апатычныя, але гэта хутчэй за ўсё вынік гістарычных умоў, чым прыкмета малаталенавітасці»[11]. Неабходнасць выжывання ва ўмовах павышанай небяспекі прывяла да нейкай ізаляванасці прыватнага жыцця беларусаў, умення існаваць аўтаномна, «адгароджвацца ад суседзяў, нават ва ўрон карысці»[12]. Даследчыкі, якія вывучаюць менталітэт і характар беларусаў, адзначаюць таксама, што фарміраванню іх своеасаблівага ізаляцыянізму садзейнічалі спецыфічныя геаграфічныя ўмовы значнай часткі Беларусі, размешчанай у балоцістай, лясістай ці пяшчанай мясцовасці. Рэдкія пасяленні, раскіданыя быццам на астравах, маглі доўгі час не ўступаць ні у якія кантакты[13]. На гэтым фоне ўзнікала своеасаблівая культура самадастатковай камунікацыі, апоры на ўласны вопыт і мясцовыя традыцыі.

Беларусы ў архетыпе ніколі не прэтэндавалі на велізарную жыццёвую прастору, ім было дастаткова той, на якой змяшчалася іх прыватнае жыццё, але ў межах гэтага прыватнага жыцця яны захоўвалі і аберагалі сваю незалежнасць. Многія факты ваеннага часу розных гістарычных перыядаў зафіксавалі характэрную рысу паводзін беларусаў у адносінах да акупацыйных уладаў, да войскаў непрыяцеля: у большасці выпадкаў гэтыя адносіны былі абыякавыя[14]. Супраціўленне аказвалася тады, калі акупацыйны рэжым ажыццяўляў прамы гвалт і знішчэнне людзей ці калі апаганьваліся агульнапрызнаныя святыні, каштоўнасці.

Стрымана-канфармісцкая рэакцыя на прыход чужаземцаў мела латэнтную матывацыю, у структуры якой матыў лаяльнасці ў імя бяспекі з'яўляўся дамінуючым. Разам з тым вытокі яго звязаны са звычкай да асобнага існавання, аб якой гаварылася вышэй, прыярытэтамі лакальнай ідэнтыфікацыі над агульнадзяржаўнай, якая, у сваю чаргу, ва ўмовах дзяржаўнай нявызначанасці была адзінай магчымай гарантыяй бяспекі[15]. Вядома, што ў часы ўсіх самых буйных войнаў XIX–XX стст. на акупаванай тэрыторыі Беларусі ствараліся нацыянальныя ўрады, якія спрабавалі зацвердзіць незалежнасць Беларусі[16]. Фактычна гэтыя спробы былі асуджаны ад самага пачатку на няўдачу. І не толькі таму, што наваствораныя структуры насілі часцей за ўсё вузкагрупавы характар і вымушаны былі апеляваць да акупацыйнага рэжыму, але і, як гэта не парадаксальным, таму, што нацыянальнае аб'яднанне з гледзішча лакальнай (ці местачковай) бяспекі несла непрадказальнасць і пагрозы.

Выключэннем з'яўляецца, бадай, вызваленчая барацьба беларускага народа перыяду Вялікай Айчыннай вайны, якая дала прыклады масавага гераізму, патрыятызму і партызанскага руху. Аднак і ў гэтым выпадку ўвесь спектр паводзінскіх рэакцый хутчэй пацвярджае архетыпныя структуры менталітэту беларусаў, чым абвяргае іх, – супраціўленне і актыўная барацьба з гітлераўскай арміяй была рэакцыяй на масавы генацыд вермахта ў акупаванай зоне.

*Этнаканфесіянальны і культурны фактары* заўсёды адыгрываюць значную ролю ў працэсе самаідэнтыфікацыі народа, фарміраванні асобага тыпу палітычнай культуры. Беларускае грамадства на працягу стагоддзяў стварыла свой тып адносін з рэлігіяй, які стаў часткай сацыя-культурнай арганізацыі беларусаў. У цэлым іх вызначала поліканфесійнае асяроддзе, аснову якога складалі суіснаванне і саперніцтва дзвюх вядучых канфесій – праваслаўя і каталіцтва.

Першапачаткова хрысціянства на беларускіх землях сцвердзілася ў форме праваслаўя, якое мела найбольшы ўплыў у Кіеўскай Русі і падпарадкоўвалася адзінаму цэнтру у Канстанцінопалі. Многія даследчыкі схільныя лічыць, што працэс хрысціянізацыі насіў у Беларусі негвалтоўны характар, у адрозненне ад хрышчэння кіеўскіх і наўгародскіх земляў[17]. Гэта дало падставу сцвярджаць, што пазнейшая рэлігійная лаяльнасць беларусаў мае глыбокія карані.

У XIII і асабліва у XIV ст. у ВКЛ узмацняўся ўплыў каталіцкай царквы, чаму спрыяла заключэнне ў 1385 г. Крэўскай уніі паміж ВКЛ і Польскім Каралеўствам. З канца XIV ст. каталіцызм становіцца прыярытэтнай рэлігіяй у ВКЛ, якая мела прывілеяванае становішча ў параўнанні з праваслаўем і атрымлівала дзяржаўную падтрымку. Падзел ВКЛ на дзве канфесіі вызначыў не толькі розніцу рэлігійных арыентацый насельніцтва, але і пацвердзіў барацьбу дзвюх дзяржаў – Маскоўскай і Польскай – за пашырэнне свайго ўплыву на суседнія тэрыторыі, у якой часовую перамогу атрымала Польшча. Як адзначае гісторык А.Кіштымаў, «беларусы на працягу некалькіх стагоддзяў існавалі на мяжы супрацьстаяння двух славянскіх цэнтраў – Польскай Кароны і Маскоўскага царства», і таму ў «рэлігійным жыцці Беларусі заўсёды было больш палітыкі, чым рэлігіі»[18]. Хутчэй за ўсё менавіта моцная залежнасць рэлігійных і знешнепалітычных арыентацый вызначыла дастаткова унікальную этнаканфесійную атмасферу ў ВКЛ, заснаваную на сацыя-культурным дуалізме і кансенсуснай культуры.

Саперніцтва дзвюх канфесій своеасабліва спрыяла ўсталяванню аднаснай рэлігійнай раўнавагі паміж імі, пошуку кампрамісу ў імя захавання некаторай самастойнасці ВКЛ. Кожная з клерыкальных груповак усведамляла небяспеку ператварэння любога рэлігійнага канфлікту ў ваеннае процістаянне дзяржаў, таму пазбягала крайніх, гвалтоўных метадаў. У рэчышчы гэтых тэндэнцый праваслаўная канфесія спачатку зраўнялася ў правах з каталіцкай, а затым паміж імі была заключана царкоўная унія (Брэсцкая унія 1596 г.), якая паклала пачатак новаму кірунку хрысціянства – уніяцтву. Уніяцтва не прадугледжвала спалучэння канфесій, але было свайго роду кампрамісам паміж «каталіцкім папацэзарызмам» і «праваслаўным цэзарэпапізмам»[19]. Згодна з Брэсцкім дагаворам на беларускіх землях захоўваліся праваслаўныя звычаі, абраднасць і святы, а таксама богаслужэнне на царкоўнаславянскай мове. У той жа час прызнавалася вяршэнства Папы рымскага і каталіцкага веравучэння. Пад канец XVIII ст. уніяты складалі 70% насельніцтва Беларусі, пры гэтым сярод вяскоўцаў іх было 80%[20]. Новая царква сталалася здольнай процістаяць не толькі дагматызаванаму праваслаўю, але і экспансіянісцкай палітыцы акаталічвання і апалячвання, што праводзілася Рэччу Паспалітай.

Этнаканфесійная сітуацыя ў Беларусі спрыяла з'яўленню своеасаблівага тыпу сацыя-культурнага ўзаемадзеяння, якое знайшло адлюстраванне ў беларускім менталітэце. У яго аснове два элементы – падвоенасць і гармонія – складаюць натуральны пачатак. Часта даследчыкі для тлумачэння беларускага менталітэту звяртаюцца да твора беларускага паэта-філосафа І.Канчэўскага (псеўданім – Ігнат Абдзіраловіч) «Адвечным шляхам». У сваім творы ён пісаў: «Беларусь, пачынаючы з X стагоддзя да сённяшняга часу з'яўляецца полем барацьбы двух напрамкаў еўрапейскай... культуры – заходняга і ўсходняга. Дзесяцігоддзі блукання сведчаць пра тое, што беларусы, як украінцы і балканскія славяне, не змаглі шчыра далучыцца ні да аднаго, ні да другога напрамку. ...Блуканне паміж Захадам і Усходам і шчырая непрыналежнасць ні да аднаго, ні да другога ўяўляецца асноўнай прыкметай гісторыі беларускага народа. ...Жыццё патрабавала сінтэзу, гарманізацыі абодвух напрамкаў, але гэта, як відаць, зрабілася немагчымым»[21].

Сапраўды, дваістае становішча Беларусі і адначаснае імкненне да нейкай раўнавагі стварала адпаведны архетып свядомасці, жыццевы код, які знайшоў адлюстраванне ў своеасаблівай версіі праваслаўя на беларускіх землях.

*Рэгіянальная версія ўсходнеславянскага менталітэту і беларуская версія праваслаўя* адрозніваліся ад велікарускага і класічнага візантыйскага. Для беларусаў не была характэрна ўласцівая рускаму менталітэту схільнасць да крайнасцяў, да рэзкіх пераходаў: ад дэспатызму да анархіі, ад меланхалічнай сузіральнасці да жорсткасці, ад схільнасці да гвалту да ахвярнасці і бескарыслівай дабраты, ад рабства да бунту і інш[22].

З аднаго боку, для беларусаў, як і для ўсіх праваслаўных славян, асновай светаўладкавання з'яўлялася не асоба, а калектыў, грамадства з яго ідэаламі брацкай любові і салідарнасці. І таксама, як і ў рускіх і украінцаў, у беларусаў «...патрабаванні асобы да грамадства дзеля набыцця ўсё большых правоў для сябе ўспрымаліся... як нешта амаральнае»[23].

З другога боку, менталітэт ніколі не набываў у беларусаў такога самадастатковага глабальнага характару, як у рускіх, калі асабістае зліваецца з агульным, калі служэнню грамадскай справе прысвячаюцца ўсе сілы асобы і тым самым абумоўліваюцца яе правы[24]. Для беларусаў, як ужо адзначалася, больш характэрнае адчуванне ўласнай незалежнасці, аўтаномнасці. У іх менталітэце асоба не прэтэндуе на правы, але ў той жа час яе мікракосм незалежны, ён не злучаецца з макракосмам, а выхад за межы мікракосму часцей за ўсе лакальна акрэслены (вёскай, горадам, зямлёй).

Істотна і тое, што беларусы ў традыцыі хрысціянства «ўспрымаюць сусвет як светаўладкаванне, у якім усё мае сваё пэўнае боскай воляй устаноўленае месца»[25], якое ніхто не можа парушаць. Іх пакорлівасць волі і лёсу знаходзіць сваё адлюстраванне ў своеасаблівым кансерватызме і інертнасці і нясхільная да выбуху ў «рускім бунце бяссэнсавым і бязлітасным» (А.Пушкін). Сваю незадаволенасць беларусы хаваюць унутры сябе, сублімуючы яе ў знешнюю ветлівасць і гасціннасць. Гэта ўласцівасць адзначана даследчыкам Э.Дубянецкім як «амбівалентнасць пачуцця"[26].

Менавіта ў структурах падсвядомасці знаходзяцца вытокі беларускай талерантнасці, гутаперчавасці (В.Абрамава), пластычнасці (А.Кіштымаў). Яны, безумоўна, не з'яўляюцца вынікам свядомага выбару, а толькі імкненнем свядомасці да камфорту, раўнавагі ва ўмовах падвоенасці.

Менталітэт беларусаў мае яшчэ адно адрозненне ад менталітэту рускіх, якое ўяўляецца істотным. У структуры рускага менталітэту значнае месца займае так званы жыццясэнсавы кампанент. Спасціжэнне сэнсу жыцця, сузіральнасць, канструяванне ідэалу з'яўляюцца складовымі часткамі філасофіі «рускай ідэі» і абавязковым атрыбутам зямнога жыцця рускіх. Такім чынам, рускі чалавек быццам не жыве зямным жыццём, для яго характэрна «імкненне да трансцэндэнтнага, якое адносіцца ці да вечнасці, да іншага сусвету, ці да будучыні, да гэтага сусвету»[27]. Губляючы з поля зроку праект, рускі губляе і цікавасць да жыцця. Філосаф Л.Карсавін пісаў пра гэтую ўласцівасць рускіх: «Дзеля ідэалу ён гатовы адмовіцца ад усяго, ахвяраваць усім; усумніўшыся ў ідэале ці ў яго хуткім ажыццяўленні, ён уяўляе сабою ўзор нячулай скацінападобнасці ці міфічнай абыякавасці да ўсяго»[28].

У іншай парадыгме працуе менталітэт беларусаў. Для іх не характэрна абсалютызацыя ідэалу, і ўвогуле праектыўнасць, будучыня мае вельмі блізкія межы. У адрозненне ад рускіх з іх каштоўнасцю жыцця ў будучым, для беларусаў важная вартасць жыцця ў цяперашнім, «тут і цяпер». У сілу гэтага іх уяўленні аб духоўнасці не ператвараюцца ў аскетычны абсалют, а канкрэтызаваныя ў стандартах паводзінаў. Забягаючы наперад, можна сказаць, што для беларусаў заўсёды былі некалькі чужымі труізмы сацыяльных праектаў у выглядзе глабальнай перабудовы свету.

Усё гэта пэўна яшчэ і таму, што версія беларускага праваслаўя не змяшчае ў сабе экспансіянісцкіх імкненняў, прысутных у візантыйскай месіянскай традыцыі. Беларускаму менталітэту не ўласцівы ні геапалітычны, ні канфесійны экспансіянізм. Як адзначалася раней, жыццёвая прастора беларуса лакалізавана, і ў яе межах ляжыць сфера пошуку гармоніі. Можна сказаць, што ў беларускім менталітэце прысутнічаюць кампаненты і заходне- і ўсходнееўрапейскай культуры, але еўрапейскай, а не еўразійскай, як у расіян. «Еўразійства, – падкрэсліваюць даследчыкі праблемы А.Буценка і Ю.Калеснічэнка, – аб'ектыўная якасць, уласцівая толькі расійскай дзяржаве і насяляючым яе грамадзянам з того часу, як дзяржава размясцілася на двух кантынентах: у Еўропе і Азіі.., што патрабавала ад грамадзян і кіраўнікоў улічваць... гэтую геапалітычную і расава-этнічную рэальнасць...»[29].

Далучэнне беларусаў да еўразійства пачалося з канца XVIII ст., калі беларускія землі апынуліся ў складзе Расійскай імперыі. Да гэтага часу спробы арганізаваць лакальную прастору, узмацніўшы тым самым тып культуры, які склаўся на беларускіх землях праяўляліся ў намаганні стварыць аўтакефальную царкву, а таксама ў падпісанні царкоўнай уніі.

Уніяцтва, па меркаванню многіх даследчыкаў, магло стаць спосабам захавання этнічнай цэласнасці, нацыянальнай своеасаблівасці беларускага народа, прадвеснікам нацыянальнай беларускай царквы[30]. Палітычна уніяцтва было скіравана на Захад, а псіхалагічна – заставалася ў той жа пазіцыі ўсходнеславянскага праваслаўя. Такім чынам, не парушаючы базавых каштоўнасцяў беларусаў, яно змяшчала ў сабе рэзерв самарэфармавання ў накірунку ўраўнаважвання амбівалентнай ментальнасці беларусаў. Аднак яму не давялося сыграць рэвалюцыйную ролю накшталт заходнееўрапейскага пратэстантызму. Спачатку спроба гвалтоўнага і мэтанакіраванага акаталічвання, а затым русіфікацыя вызначылі яго кароткі гістарычны лёс.

*Імперска-праваслаўная культурная дамінанта* прадугледжвала не толькі палітычнае падпарадкаванне беларускіх земляў Расійскай кароне, але і іх нацыянальна-культурную асіміляцыю. Гэта дасягалася рознымі спосабамі. З канца XVIII ст. пачаўся перавод уніятаў у праваслаўе ва ўмовах гвалту і рэпрэсій з боку праваслаўнай царквы і дзяржавы, якой гэтая царква была падпарадкавана[31]. А ў 1839 г. уніяцтва было ліквідавана цалкам. Згодна перапісу 1897 г. праваслаўнае насельніцтва складала значную большасць сярод беларусаў 81,2%, каталікоў адпаведна было – 18,8%[32]. Царскім урадам праводзілася актыўная перасяленчая палітыка, а таксама насаджэнне рускай мовы. Выкарыстанне беларускай мовы не дазвалялася ані ў школе,ані ў дзяржаўных установах, ані ў друку (акрамя этнаграфічных публікацый)[33], што прывяло да практычна поўнага выціскання беларускай мовы ў сферу гутарковай гаворкі ў асноўным сялянскага саслоўя.

Паступова адбывалася кардынальная пераарыентацыя ў бок рускай версіі праваслаўя. Ва ўмовах імперыі гэтая версія прадугледжвала зрастанне рэлігіі з дзяржавай, яе ідэалагічнае забеспячэнне і падтрымку, а таксама паступовую эвалюцыю ад каштоўнасцяў абшчыны да каштоўнасцяў імперыі[34] («самадзяржаўе, праваслаўе, народнасць"), не закрануўшую сутнасці фундаментальных арыентацый камунітарысцкага тыпу.

Для насельніцтва беларускіх земляў канчаткова аформіўся кансенсусны тып культуры, які быў заснаваны на падвойным культурным кодзе і валодаў гібкім механізмам псіхалагічнай адаптацыі. Выпрацаваны ва ўмовах падвоенасці культурных уплываў і нявызначанасці выбару, ён заключаўся ў намаганні да дасягнення і захавання грамадскай згоды . Пры гэтым згода трактавалася у ім як самакаштоўнасць, як табуіраваны сімвал, які не можа быць разбураны. Асноўнымі прыкметамі гэтага тыпу культуры з'яўляюцца непрымальнасць канфліктаў і супярэчнасцяў, схаваная незадаволенасць і псіхалагічнае напружанне (як вынік непераадоленых супярэчнасцяў); імкненне да стабільнасці; непрыняцце радыкалізму і адкрытай апазіцыі. Як правіла, кансенсусны тып культуры звязаны з кансервацыяй традыцыйных асноваў грамадства, знаёмых і зразумелых усім, з недаверам да навацыяў, якія разбураюць звыклую «грамадскую тканіну».

Канфесійная сітуацыя, якая склалася, была неспрыяльнай для развіцця працэсу самавызначэння беларусаў як самастойнага этнасу. У афіцыйнай палітыцы русіфікацыі значнае месца адводзілася этнічнай пераарыентацыі беларускага насельніцтва. Тэорыі «панславізму», «заходнеру-

сізму» сцвярджалі, што беларусы – гэта тыя ж рускія. Афіцыйную падтрымку атрымала самавызначэнне беларусаў у залежнасці ад веры: усе праваслаўныя беларусы («рускай веры») аўтаматычна называліся рускімі, каталікі («польскай веры») – палякамі. Такім чынам, тэрмін «беларусы» як бы знікаў з ужытку і, адпаведна, выціскаўся са свядомасці.

Апынуўшыся ў складзе Расійскай імперыі, Беларусь трапіла ў зону дзеяння жорсткіх дзяржаўных установак у адносінах да веры і свабоды сумлення. Праваслаўе у этатызаваным варыянце рабілася не столькі верай, колькі ідэалогіяй і забяспечвала не столькі камунікацыю людзей паміж сабой (аўтаномію грамадства), колькі сувязь падданых з дзяржавай (узмацненне самадзяржаўя). Гэта накладала значны адбітак на працэс складання грамадзянскай культуры беларусаў, на ўяўленні аб месцы рэлігіі ў палітыцы і грамадстве. Іншыя рэлігіі, застаючыся па-за межамі афіцыйнай трыяды – «самадзяржаўе, праваслаўе, народнасць», былі больш адкрытымі сацыяльнай эвалюцыі. У гэтым плане каталіцтва стала часткова востравам захавання беларускай мовы і цэнтрам беларускага нацыянальнага адраджэння (асабліва ў пач. XX ст.)[35].

Размежаванне беларусаў на дзве асноўныя канфесіі з розным грамадскім статусам вызначыла пазней не толькі нацыянальна-культурныя прыярытэты і механізм самаідэнтыфікацыі беларусаў (праз прыналежнасць да рускіх ці палякаў), але таксама сацыяльна-групавую (саслоўную) дыферэнцыяцыю і рэгіянальную субкультурную спецыфіку. Менавіта ў гэта час афармляецца, пачаўшыся яшчэ ў Рэчы Паспалітай, працэс культурна-камунікатыўнага дыстанцыравання паміж беларускай нацыянальнай элітай (інтэлігенцыя, грамадскія і духоўныя дзеячы, шляхта) і асноўнай часткай народа. Большая частка беларусаў, прадстаўленая ў асноўным сялянскім саслоўем, спавядала праваслаўе, беларуская эліта арыентавалася ў значнай ступені на каталіцызм. Іх існаванне ў розных культурных кантэкстах часта праяўлялася ва ўзаемным непаразуменні і перашкаджала наладжванню камунікацыі.

*Савецкі перыяд* не ўяўляе значнай цікавасці з пункту гледжання фактарнага аналізу рэлігіі ў палітычнай культуры Беларусі, паколькі царква не адыгрывала колькі-небудзь значнай ролі ў яе жыцці.

Рэлігійная палітыка савецкай улады фармальна вызначалася прынцыпамі свабоды сумлення і аддзялення царквы ад дзяржавы. На самай справе аддзяленне царквы ад дзяржавы прывяло да амаль поўнага выцяснення яе з грамадскага жыцця і замяшчэння камуністычнай партыяй, якая, узурпаваўшы правы галоўнага ідэалагічнага дэміурга, мадэрнізавала хрысціянскія каштоўнасці ў вучэнні марксізму-ленінізму і не магла пагадзіцца з існаваннем побач з сабой ідэалагічнага канкурэнта. У сілу гэтага царква спачатку страціла сваё значэнне як адзінага і абсалютнага ўладальніка ісціны і пасярэдніка веры, а затым была падвергнута жорсткім рэпрэсіям.

Прынцып свабоды сумлення аказаўся толькі свабодай выбару паміж верай у бога і яго адмаўленнем. Таму вера ў бога стала своеасаблівым дысідэнцтвам для савецкага грамадства, адлюстраваннем сумнення ў камуністычнай ідэі.

### 4. Асаблівасці палітычнай культуры Беларусі савецкага перыяду

Беларусь, знаходзячыся ў агульнай савецкай сацыякультурнай прасторы, мела своеасаблівы дыскурс. Ён зусім адэкватна праецыруе яе будучы постсавецкі лёс, хоць у патэнцыяле змяшчае значна больш шырокі спектр выбару. За гады савецкай улады Беларусь «адшліфавала» найбольш цэльны, калі можна так выказацца, гарманічны ўзор савецкай палітычнай культуры.

Павышаныя адаптацыйныя якасці беларускага народа, успрымальнасць і цярплівасць дазволілі не толькі прыстасавацца да бальшавіцкага рэжыму, але і з выгадай для сябе выкарыстаць створаную ім сацыяльна-эканамічную мадэль. Свой «спецыфічны твар» у савецкай сістэме каардынат Беларусь атрымала ў пасляваенныя гады. Яго ў многім вызначыла сацыяльна-дэмаграфічная сітуацыя. Да абезлюджанага пасля вайны насельніцтва Беларусі было скіравана некалькі міграцыйных патокаў: былых вайскоўцаў, асеўшых на тэрыторыі Беларусі пасля яе вызвалення, а таксама дэмабілізаваных пасля хрушчоўскай ваеннай рэформы, працоўных і спецыялістаў, аднаўляючых яе эканоміку. У выніку гэтых міграцыяў за 30 пасляваенных гадоў колькасць, напрыклад, рускіх у Беларусі павялічылася на 103%, украінцаў – на 120%, а беларусаў – усяго толькі на 21%, што прывяло да зніжэння іх удзельнай вагі ў агульным складзе насельніцтва з 81,1% да 77,9%[36]. Пры гэтым большая частка прышлага насельніцтва асядала ў гарадах. У выніку прарускай палітыкі, якая праводзілася саюзным цэнтрам, блізкасці па гучанню рускай і беларускай моваў, а таксама малога ўплыву беларускамоўнага інтэлектуальнага асяроддзя на агульнасацыяльныя і культурныя працэсы беларуская мова практычна цалкам была выціснута з гутарковай сферы.

Вясковае насельніцтва, мабілізаванае ў гарады на «будоўлі індустрыялізацыі» (асабліва ў канцы 50-х – 70-я гг.), нюансіравала новы тып культуры, узніклай у гарадах у гэты час. «Сялянская нацыя» рынулася ў горад, дзе яе чакала гарадская культура – руска-савецкая»[37]. Хоць гэтую культуру наўрад ці можна было назваць «руска-савецкай», паколькі акрамя рускай мовы ў ёй увогуле не было этнічных прыкметаў, тым не менш яна сапраўды была не беларускай, а хутчэй постваеннай індустрыяльнай культурай, нівеліраваўшай многія этнічныя прыкметы. Сялянства, знешне запазычыўшы атрыбуты гарадскога жыцця (у тым ліку прыстасаваўшыся да рускай мовы), прынесла ў горад свае звычкі, стэрэатыпы, менталітэт.

Увесь гэты складаны «мікст» меў тэндэнцыю да інтэграцыі, а не дыферэнцыяцыі на субкультурныя элементы, што прывяло да фарміравання даволі цэльнай адукацыі, заснаванай на этнасацыяльнай маргінальнасці. «... Беларусь – значна маналітная ў этнічным сэнсе... Агульная танальнасць культуры тут задаецца культурай беларусаў»[38], – сцвярджае даследчык Ю.Шаўцоў, маючы на ўвазе тое, што беларусы складаюць 78% ад агульнай колькасці насельніцтва краіны. З гэтым можна пагадзіцца толькі часткова, прымаючы пад ўвагу сур'ёзную карэкцыю «культуры беларусаў» на «савецкасць», якая ў дадзеным выпадку можа быць азначана як «рафінаваны варыянт» маргінальнасці. Не выпадкова ў некаторых навуковых колах на хвалі беларускага адраджэння ўзнікла ідэя аднаўлення беларускай самабытнасці праз культываванне фальклорных форм культуры, захаваўшых яе першапачатковасць, а значыць, і сапраўдную «беларускасць».

Умацаванне ў Беларусі асабліва прыкметнага варыянта савецкай культуры цалкам зразумелае. Беларусь перажыла амаль поўнае знішчэнне нацыянальнай інтэлігенцыі ў часы сталінскіх рэпрэсій і ў гады вайны (а таксама яўрэйскай і польскай інтэлігенцыі).На месцы разбуранага гарадскога самабытнага архітэктурнага асяроддзя ўзнікла новае, з савецкуай сімволікай, пазбаўленай гістарычных традыцый. Такім чынам, ад канчатковага забыцця сваіх каранёў беларусаў выратавала, як гэта ні парадаксальна, перш за ўсё «сама савецкая нацыянальная палітыка»[39], якая вымушана была прымаць знешнія атрыбуты роўнасці нацый і дэманстраваць іх «росквіт».

Асобае месца ў сацыя-культурным кантэксце Беларусі займала і займае Вялікая Айчынная вайна, якая з'явілася для беларусаў своеасаблівым «гістарычным компасам». Тэма вайны ствaрала новую стылістыку культурнай прасторы. Дызайн гэтай прасторы фарміраваўся пад уплывам шчырых пачуццяў беларусаў, зацікаўленай афіцыйнай прапаганды, мемарыялізацыі падзей вайны, таленавітых твораў лепшых беларускіх празаікаў В.Быкова, А.Адамовіча, – С.Алексіевіч. У выніку, тэма вайны была кананізавана і ўтварыла значны сегмент культуры Беларусі, у тым ліку і палітычнай. Яна кампенсавала невыразнасць нацыянальнай гісторыі Беларусі ў савецкай гістарыяграфіі і дала беларусам магчымасць ідэнтыфікаваць сябе з ваенным подзвігам, партызанскай барацьбой. Для афіцыйнай ідэалогіі і прапаганды гэта прыносіла двайную карысць: па-першае, ідэнтыфікацыя беларускага народа адпавядала савецкай гісторыі, і, па-другое, нацыянальныя пачуцці (нацыянальны гонар) адрываліся ад этнічных каранёў. У гэтым сэнсе дастаткова дарэчным уяўляецца ўжыванне тэрміна «партызанскі нацыяналізм». Вобраз Беларусі як «партызанскай» ці «ветэранскай» рэспублікі не быў простай метафарай, яму адпавядаў набор нарматыўных якасцяў і ўзораў паводзін. Цэнтральнае месца ў ім адводзілася пачуццю непакорнасці знешняму ворагу, бясстрашнасці і мужнасці, а акрамя таго – прыхільнасці дысцыпліне. Галоўнай сімвалічнай фігурай станавіўся вобраз камандзіра партызан – «бацькі», народнага мсціўцы і абаронцы і адначасова бацькі вялікай партызанскай сям'і, што наладжваў партызанскі быт. Ваенны дыскурс паступова стаў часткай палітычнай ідэалогіі і абавязковым элементам сацыяльнай палітыкі Беларусі, а таксама фактарам сацыялізацыі некалькіх пакаленняў.

У палітычнай культуры пасляваеннай Беларусі склаўся своеасаблівы тып адносінаў паміж грамадствам і ўладай, які быццам завяршаў гамеастазіс сістэмы. Правадыры, якія прыйшлі да кіраўніцтва кампартыяй і саветамі, былі, часцей за ўсё, выхадцы з асяроддзя былых партызан ці вайскоўцаў, што забяспечвала ім дадатковую легітымізацыю. Узоры паводзін, якія дэманстраваліся новай элітай, адпавядалі вышэйапісаным стандартам. «Хаджэнне ў народ», мяккі патэрналізм, бацькоўскі клопат з элементамі строгасці, рэкламная пільнасць у адносінах да «скаргаў і просьбаў працоўных» станоўча ўспрымаліся большасцю насельніцтва Беларусі. Прыкметна, што гэтыя адносіны адлюстравалі не толькі савецкі вопыт узаемадзеяння народа і ўлады, але і шматвекавую традыцыю сялянскага менталітэту.

Немалаважна, што беларуская кіруючая эліта не была так дэманстратыўна адмежавана ад народа «бастыёнамі Крамля», як маскоўская, і на фоне астатніх рэспублік не была моцна карумпаванай. Узнік, калі можна так назваць, «прыстойны канкубінат» народа і ўлады, які падмацоўваўся адносна дабрабытным і стабільным матэрыяльным станам насельніцтва Беларусі[40]. Найбольш класічныя рысы гэты альянс атрымаў у часы знаходжання ва ўладзе П.М.Машэрава (1965–1980), які да таго ж спрабаваў праводзіць некалькі больш самастойную палітыку ў адносінах да Масквы. Ягоная гібель у аўтамабільнай катастрофе прынесла яму вобраз «нацыянальнага героя».

У многім у сілу згаданых прычын, а таксама адзначаных вышэй уласцівасцяў менталітэта беларусаў у БССР не сфарміраваўся колькі-небудзь значны дысідэнцкі рух. Яго фрагментарныя праяўленні былі хутчэй вынікам уплываў расійскай, маскоўскай рэчаіснасці, чым уласна выпакутаванага іншавер'я. Яны ў якасці адасобленых латэнтных элементаў функцыянавалі ў асяроддзі інтэлігенцыі, галоўным чынам творчай, якая пражывала ў сталіцы.

## Пошук ідэнтычнасці на фоне транзіту

На рубяжы сярэдзіны 80–90-х гг. Беларусь, як і іншыя краіны былога СССР, апынулася на ростанях. За гэты час яна перажыла тры культурных выклікі, кожнаму з якіх адпавядаў свой культурны праект.

### 1. Першы культурны праект для Беларусі. Нацыянальна-дэмакратычная версія

Першы праект узнік у рамках асноўнага канфлікту гэтага перыяду, які можа быць акрэслены як канфлікт паміж нацыянальным і імперскім. Як гэта ні здаецца парадаксальным, для Беларусі ён «толькі ў нязначнай ступені быў народжаны нацыянальнымі матывамі»[41]. У значна большай ступені ён змяшчаў у сабе пратэст супраць імперскага цэнтралізму, зачыненасці ўлады і перараджэння камуністычна-савецкай бюракратыі, чым заяўку на ўласную дзяржаўнасць і ўвасабленне нацыянальнай ідэі.

Беларусь поруч з іншымі рэспублікамі атрымалася ў прасторы канфлікту анаміі, асабліва характэрнага для транзітных краін: упершыню перад яе народам паўсталі пытанні: «Што такое Беларусь?», і «Як жыць далей?». На той час толькі дзве палітычныя сілы рэальна канкуравалі ў барацьбе за фармулёўку «ідэі для Беларусі» – камуністычная партыя і Беларускі народны фронт (БНФ)[42]. Кампартыя мела даволі абмежаваныя рэсурсы для манеўра, яе ідэалагічны набор быў цалкам пазнавальны, нягледзячы на знешнія навацыі. Таму ньюмейкерам, як назваў яго У.Мацкевіч[43], новай культурнай прасторы і першага постсавецкага праекта для Беларусі з'явіўся З.Пазняк, лідэр БНФ. Праект прадугледжваў радыкальнае вырашэнне асноўнага канфлікту гэтага перыяду – поўную незалежнасць Беларусі, «беларусізацыю» грамадства, адраджэнне краіны. Ключавымі словамі нацыянальнай дактрыны БНФ сталі – «незалежнасць», «адраджэнне», «свабода», «мова», «культура», а асноўным сімвалічным вобразам – Вялікае Княства Літоўскае. Дастаткова доўгі час яна была папулярная. Пад яе непасрэдным уплывам былі прыняты многія важныя заканадаўчыя акты, такія як Закон аб мовах (1990), аб грамадскіх арганізацыях (1990), Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце (27.06.1990). І ў завяршэнне гэтай тэндэнцыі пасля вядомых жнівеньскіх падзеяў 1991г.[44] Вярхоўным Саветам БССР быў зацверджаны пакет пастановаў аб незалежнасці і самастойнасці Беларусі, а Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі быў наданы статус канстытуцыйнага закона.

Безумоўна, працэс суверэнізацыі Беларусі не быў вынікам выключна дзейнасці БНФ. Дастаткова распаўсюджанае меркаванне, што Беларусь апынулася перад няўмольным фактам знешніх абставін. Яна вымушана была дэкла-

раваць незалежнасць, падпарадкоўваючыся «параду суверэнітэтаў», дзейнасці «нацыянальных франтоў» у рэспубліках былога СССР, а таксама абставінам, якія скла- ліся пасля жнівеньскага путчу і падпісання Белавежскіх пагадненняў. Тым не менш, насуперак устойліваму мер- каванню, беларускае грамадства было толькі на першы погляд індыферэнтнае да праблемы незалежнасці і суверэнітэту сваёй краіны. На самай справе яно мела даволі своеасаблівы погляд на гэтую праблему. Навізна прапана- ваных зменаў выклікала пэўны ўзровень чаканняў у белa- русаў, якія знайшлі супярэчлівае адлюстраванне ў грамад- скай свядомасці. Апытанні грамадскай думкі, што право- дзіліся ў той час, давалі ўяўленне аб гэтай супярэчлівасці.

У снежні 1991 г. незалежнасць Беларусі і дагавор аб стварэнні СНД (у складзе Расіі, Беларусі, Украіны) падтры- малі 69% рэспандэнтаў, адхілілі – 10%, а ў снежні 1992 г. падтрымліваючых стала толькі 42%, а не падтрымліваючых – 34%. Летам 1992 г. да выхаду Рэспублікі Беларусь са скла- ду СССР станоўча ставіліся толькі 30,7%, адмоўна – 52,6%, і гэта на фоне таго, што 69% ухвалялі абвяшчэнне незалежнасці Беларусі[45]. З улікам вынікаў сакавіцкага рэ- ферэндуму 1991 г., на якім 82,7% насельніцтва Беларусі выказаліся за захаванне СССР (самы вялікі працэнт падт- рымкі сярод неазіяцкіх рэспублік), рабілася відавочным, што дамінанта грамадскай свядомасці беларусаў схілялася да юніяніцкага тыпу, і трактоўка ідэі незалежнасці рэспуб- лікі не выходзіла за межы нейкай аўтаноміі ў складзе СССР.

Гэтая сітуацыя стала вынікам тых шматлікіх гістарычных калізій, гаворка аб якіх ішла ў папярэдніх главах. Непаўна- вартасць нацыянальнага развіцця і юніяніцкае мысленне значна абмяжавалі магчымасці ажыццяўлення праекту незалежнага развіцця Беларусі ў нацыяналістычным вары- янце Пазняка. Тым не менш, хацелася б абмовіцца адразу, што гістарычны шанс у БНФ, які меў у пэўны момант высокі палітычны рэйтынг, быў. Толькі варта было больш памяркоўна і старанна прагназіраваць характар перамен, не злоўжываючы аказаным фронту грамадскім даверам.

Наадварот, БНФ выбраў тактыку радыкалізацыі нацыя- налістычнага боку праекта, абсалютызаваў яго этнічны і куль- турны кампаненты і тым самым адштурхнуў ад сябе многіх патэнцыяльных прыхільнікаў. Гвалтоўнае культуртрэгерства на фоне зусім прагматычных сацыяльна-эканамічных праб- лем насельніцтва не магло быць ім пазітыўна ўспрынята. Беларусы, у адрозненне напрыклад ад літоўцаў, не гатовы былі цярпець эканамічныя цяжкасці ў імя свабоды ці суверэнітэту краіны. Тым больш, што ліквідацыя СССР і ўтва- рэнне дэ-юрэ самастойнай беларускай дзяржавы, а затым СНД, згладзілі найбольш вострую форму канфлікту паміж нацыянальным і імперскім. Канцэпцыя нацыянальнага развіцця ў варыянце Пазняка паступова губляла сваю акту- альнасць. Калі раней у грамадскай свядомасці беларусаў існавала небяспека стаць «заложнікамі саюзнага хаосу», дык пры канцы 1992 г. з'явілася небяспека апынуцца ў незвыклай для Беларусі пазіцыі «сам-насам» са сваімі праблемамі[46].

Беларусь працягвала заставацца ў полі культурнай анаміі. Аднак акцэнты ў ей змясціліся ад пратэстных, дэст- руктыўных форм да неабходнасці выбару і канструктыў- най перабудовы культурнай прасторы.

## 2. Другі культурны праект для Беларусі. Парламенцкая дэмакратыя

Спробу канструявання новай палітычнай прасторы спрабавалі ажыццявіць С.Шушкевіч – Старшыня Прэзіды- ума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII склікання, выбраны пасля жнівеньскага путчу і канкурыруючы з ім галава ўрада В.Кебіч. І гэта быў другі культурны праект для Беларусі. Шушкевіч воляй лёсу апынуўся ля вытокаў «но- вага прышэсця» парламентарызму ў Беларусь. І нягледзя- чы на тое, што Беларусь – адна з нешматлікіх краін (акрамя яе гэтага не зрабіла толькі Арменія) пасля распаду СССР не правяла датэрміновыя выбары ў Вярхоўны Савет, тым не менш за некалькі гадоў ён зрабіў некаторую трансфарма- цыю ад савецкага органа ўлады да інстытута парламенцкага тыпу. Шушкевіч меў непасрэднае дачыненне да гэтага пра- цэсу яшчэ і таму, што ён апынуўся кіраўніком дзяржавы.

Яго праект быў заснаваны на нацыянальнай «згодзе», аб'яднанні ўсіх сілаў дзеля выхаду з крызісу і нацыянальна- дэмакратычнага рэфармавання краіны. У нейкі перыяд удалося ажыццявіць аб'яднанне розных палітычных сілаў, стварыўшы Антыкрызісны камітэт (сакавік 1992 г.) на базе самага шырокага грамадскага прадстаўніцтва. Аднак за- надта несумяшчальнымі аказаліся мэты яго ўдзельнікаў, і ён практычна так і не прыступіў да працы.

Асноўным канфліктам гэтага перыяду стаў канфлікт паміж рынкам і дэмакратыяй[47], які ў Беларусі (зрэшты, як і ў многіх іншых постсавецкіх краінах) набыў характар канфлікту паміж дэкларацыяй рэформ і іх сабатажам на практыцы. У самым пачатку дзевяностых гадоў у Беларусі існавала дастаткова спрыяльная грамадская атмасфера для рыначных пераўтварэнняў у рамках агульнай мадэрнізацыі. У снежні 1988 г. 56% апытаных сацыялагічнай службай «Грамадскае меркаванне» выказаліся за ўвядзенне інстытута прыватнай уласнасці ў краіне (25% – супраць), у маі 1991 г. лічылі прыватызацыю «адзіна магчымым шля- хам выхаду з крызісу» 34% рэспандэнтаў, а 25% – таксама былі не супраць прыватызацыі, аднак баяліся яе адмоўных вынікаў для народа. Увесну 1992 г. пераход да рыначнай эканомікі падтрымлівалі 54,2% жыхароў рэспублікі (пры 17,9% – супраць). Пры гэтым перавагу аддавалі «больш працягламу, але сацыяльна ўзважанаму пераходу да рын- ку» 48,6% рэспандэнтаў (радыкальным і хуткім жадалі яго бачыць 24,9%)[48].

Праект Шушкевіча, не стаўшы выверанай канцэпцыяй, а толькі стыхійным ньюмейкерствам, заключаўся ў падт- рымцы рэфарматарскіх пачаткаў, недапушчэнні палярызацыі грамадства, развіцці плюралізму і асноў дэмакратыі пры захаванні незалежнасці Рэспублікі Бела- русь. Ключавымі словамі гэтага перыяду сталі «рэформы», «рыначная эканоміка», «лібералізацыя», «згода», «памяр- коўнасць». Аднак у працэсе ажыццяўлення праекта прыярытэтнымі сталі не элементы рэформ, а элементы «згоды». Баязлівасць рэфармавання, жаданне дабіцца зго- ды як індульгенцыі для апраўдання магчымых негатыўных вынікаў рэформ з'явілася не толькі прамым праяўленнем спадчыны савецкай калектыўнай безадказнасці, але і вы- датнікам беларускага менталітэту з яго схільнасцю да кан- серватызму і нерашучасцю, адналькава характэрнымі як для народа, так і для прадстаўнікоў эліты.

Да таго ж канструяванне новай дэмакратычнай прас- торы ў духу парламентарызму з доўгатэрміновым узгад- неннем правіл і працэдур і заканадаўча аформленымі рыначнымі пераўтварэннямі натыкалася на ліміт часу крызіснага існавання, а таксама на канкуруючы праект прэм'ер-міністра В.Кебіча. В.Кебіч у адрозненне ад С.Шушкевіча з'яўляўся прадстаўніком класічнай партгас- наменклатуры, адлюстроўваў яе інтарэсы і меў значную падтрымку ў парламенце з боку фракцыі «Беларусь» (аг- рарна-прамыслова-камуністычнай большасці).

Ягоны праект больш адносіўся да савецкага традыцыя- налізму. Ён быў заснаваны на дазіраваным плюралізме (ук- лючаючы СМІ); наменклатурнай капіталістычнай эвалю- цыі і ў сілу гэтага – на абмежаваным удзеле грамадства ў перараздзеркаванні рэсурсаў; памяркоўным аўтарытарыз- ме, замацаваным у інстытуце прэзідэнцтва[49]; арыентацыі на падтрымку адэкватнага расійскага лобі. Выкарыстоўва- ючы рыторыку рэформ, пэўныя сілы праводзілі «наменк- латурную прыватызацыю», адначасова ў парламенце ўся- ляк блакіравалася прыняцце законаў, накіраваных на ства- рэнне прававых асноваў рыначнай эканомікі.

Адсутнасць рэальных рэформаў, адзінай нацыянальнай стратэгіі развіцця, непаслядоўнасць у правядзенні антыкрызіснай палітыкі прывялі да рэзкага пагаршэння сацыяльна-эканамічных паказчыкаў у краіне і падзення ўзроўню жыцця[50]. У той жа час былі адзначаны першыя яўныя прыкметы дыферэнцыяцыі грамадства, з'явіўся невялікі слой прыватных уласнікаў, прадпрымальнікаў, чый дабрабыт моцна кантраставаў з неўладкаванасцю большасці.

Сацыялагічныя апытанні зафіксавалі абвастрэнне канфлікту анаміі. Разбурэнне ранейшых сацыяльных сувя- зяў, каштоўнасцяў, змена статуса для большасці насель- ніцтва не суправаджаліся прапановай новых сфер удзелу, а выбар як сацыяльнае дзеянне яшчэ не зацвердзіўся ў гра- мадскай практыцы. У выніку ўзмацніліся такія сімптомы анаміі, як апатыя, няўпэўненасць, пачуццё прыгнечанасці, бесперспектыўнасці, непакой, падазронасць, недавер, агрэсіўнасць. Так, вясной–летам 1993 г. існуючыя ўмовы жыцця як «нецярпімыя» і «зусім нецярпімыя» ахаракта- рызавалі 50,2 % рэспандэнтаў, чаканне змен да горшага выказалі 47,9% апытаных. У 1993–94 гг. значную частку насельніцтва турбавала пагаршэнне матэрыяльнага стану (53,4%), рост цэн (87,0%), злачыннасць (40,1%), некампе- тэнтнасць уладаў (31,6%), 65,5% – лічылі, што у органах дзяржаўнай улады ў той ці іншай ступені распаўсюджана карупцыя .

Такім чынам, сітуацыя, якая склалася напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў[52], была вынікам узаемадзеяння двух культурных праектаў – Шушкевіча і Кебіча. Абодва праек- ты, нейтралізуючы і дэфармуючы адзін аднаго, падвергліся ў рознай ступені карэкцыі, так і не здолеўшы аб'яднацца, хоць абодва, кожны на свой манер, «гулялі» на полі дэмакратыі. В выніку новыя каштоўнасці, вызначаўшыя культурны дыскурс перыяду, апынуліся ў значнай ступені дыскрэдытаванымі ў грамадскай свядомасці. Рынак стаў асацыіравацца з разбоем, абагачэннем нешматлікіх, карупцыяй, «прыхватызацыяй», мафіяй. Дэмакратыя – з недзе- яздольнай уладай, гаварыльняй, анархіяй. Да таго ж яе няў- дачы больш звязваліся з парламентам, функцыі якога ўвоі- гуле мала хто разумеў, чым з урадам.

Амерыканская даследчыца З.Тэры тлумачыць сітуацыю, узнікшую ва ўмовах канфлікту паміж дэмакра- тыяй і рынкам, наступным чынам: «Цяжкасці жыцця, спа- роджаныя радыкальнымі эканамічнымі пераўтварэннямі, умацоўваюць палітычную нестабільнасць, якая, у сваю чаргу, перашкаджае стварэнню прававой і інстытуцыя- нальнай інфраструктуры прыватызацыі і замаруджвае пры- ток замежных інвестыцый, што ў выніку спрыяе і працягу посткамуністычнага спаду, і далейшай палітычнай паля- рызацыі»[53]. Такім стаў і агульны стан у Беларусі, з той толькі розніцай, што радыкальных эканамічных рэформ яна не ведала, і цяжкасці жыцця насельніцтва былі спароджаны не актыўнымі працэсамі мадэрнізацыі, а пакутлівым бязд- зеяннем, растрачваннем наяўных рэсурсаў. Таму, з аднаго боку, гэта выклікала рэзкую непрымальнасць улады, а з другога – не стварыла той крытычнай масы ўласнікаў, якія маглі б абараніць у крызісны момант дэмакратычныя пераўтварэнні.

Працяг посткамуністычнага спаду ва ўмовах функцы- янавання слабых дэмакратычных інстытутаў (парламент, шматпартыйнасць, свабода слова і г.д.) прывёў да крызісу экспектацый і насталыгіі па мінулым стабільным жыцці ў значнай часткі насельніцтва. Так, у адпаведнасці з апытан- нем, праведзеным у сакавіку 1993 г., да ладу жыцця напя- рэдадні 1985 г. жадалі б вярнуцца 48,2% рэспандэнтаў[54], а каля 30% выступалі за аднаўленне СССР. Рэтраспектыўны рух па шкале каштоўнасцяў нёс у сабе пагрозу кансервацыі найбольш устойлівых савецкіх стэрэатыпаў і звужэнне па- тэнцыяльнага рэфарматарскага рэсурсу.

Аднак было б памылковым толькі з песімістычных пазіцый ацэньваць гэты вынік. У галіне транзіталогіі ён вя- домы як адзін з тыповых казусаў перыяду постаўтарытар- нага пераходу[55]. Найбольш важным у гэтай сітуацыі з'яў- лялася высвятленне не ступені інертнасці грамадства, а ступені яго мабільнасці. З гэтага пункту гледжання сацыялагічныя апытанні дэманстравалі немалы патэнцы- ял беларускага грамадства нават на фоне настальгічных рэмінісцэнцый. У адпаведнасці з маніторынгам, які праводзіцца Незалежным інстытутам сацыяльна- эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД), у 1994 г. побач з 46,3% рэспандэнтаў, якія выступалі за планавую эканоміку, 51,0% падтрымлівалі рыначную[56]. У іншых рэспубліканскіх даследаваннях 37,2% апытаных (пры 26,6% супраць) лічылі, што «эканамічны прагрэс магчымы пры развіцці мясцовага самакіравання»[57], нават на фоне яго слабой эфектыўнасці, узыходзячай да савецкай традыцыі. Іншымі словамі, у грамадстве паступова ўзнікалі фрагмен- ты новай грамадзянскай культуры ў выглядзе грамадзянскіх ініцыятываў і арганізацый (партый, грамадскіх арганізацый, незалежных прафсаюзаў, сродкаў масавай інфармацыі, даследчых цэнтраў і інш.).

Неабходна заўважыць, што працэс актывізацыі грамад- зянскага ўдзелу быў звязаны з асваеннем новай для Беларусі гісторыка-сімвалічнай прасторы, падтрымку якой, акрамя БНФ, забяспечваў С.Шушкевіч. Разам з зацверджа- нымі ў 1991 г. у якасці дзяржаўных сімвалаў бела-чырвона- белым сцягам і гербам «Пагоня», якія вядуць сваю радас- лоўную яшчэ ад першых княстваў Беларусі і Вялікага Кня- ства Літоўскага, культурны кантэкст беларускага грамад- ства фарміраваўся пад уплывам абноўленых гістарычных ведаў, станаўлення нацыянальнай этналогіі, этнапсіхалогіі, мовазнаўства і іншых, пераважна гуманітарных дысцыплін.

Лінія дзяржаўнай і нацыянальнай незалежнасці, увахо- зіўшая ў культурны праект Шушкевіча, знаходзілася ў пас- таяннай сутычцы з лініяй Кебіча, які дэманстраваў прагма- тычную мэтазгоднасць цеснага саюза Беларусі з Расіяй. Новая сімволіка і пафас незалежнасці былі зразумелыя да- лёка не ўсімі, таму што большасць насельніцтва не адчува- ла дыскамфорту і ў межах Саюза. Да таго ж пагаршэнне сацыяльна-эканамічнага становішча ў многіх асацыі- равалася з развалам СССР, з залішняй ізаляцыяй былых рэспублік адна ад другой. Таму да каштоўнасцяў сумнеў- нага кшталту, акрамя «рынку» і «дэмакратыі», дадаліся «не- залежнасць» і «суверэнітэт».

Заўважым, што менавіта ў гэты перыяд узнікла дэмар- кацыйная лінія з апазнавальнымі знакамі: «рынак – дэмак- ратыя – суверэнітэт» з аднаго боку, і «планавая эканоміка

– цвёрдая ўлада – адноўлены СССР» – з другога, якая падзяліла беларускае грамадства на прыхільнікаў рэформаў і прыхільнікаў рэстаўрацыі (ці мадэрнізатараў і традыцыяналістаў). Па іроніі палітычнай сітуацыі абодва бакі, нягледзячы на дыяметральную супрацьлегласць вартасных арыентацыяў, у нейкі час сышліся ў адным і тым жа пункце каардынат, зрабіўшы стаўку на змяненні. «Час, народ, сітуацыя – усё ў гэты момант патрабавала зменаў у Беларусі, – пісаў публіцыст і палітолаг А.Майсеня. – Народ стаміўся, людзі жадалі пачуць новыя імёны, якія далі б ім новую надзею і апору»[58].

Сімвалам гэтых зменаў стала постаць А.Лукашэнкі. Кожны з бакоў лічыў яго сваім. У многім менавіта таму на прэзідэнцкіх выбарах у ліпені 1994 г. ён перамог свайго асноўнага саперніка В.Кебіча з вялізарнай перавагай – 81% супраць 14,1%.

Прэзідэнцкім выбарам лета 1994 г. папярэднічала прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 15 сакавіка 1994 г. У якасці асновы дзяржаўнага ўладкавання зацвярджалася мадэль прэзідэнцкай рэспублікі, якая з'явілася кампрамісам паміж прыхільнікамі парламенцкай і прэзідэнцкай рэспублікі, і у той жа час данінай «параду прэзідэнталізму», ахапіўшаму рэспублікі былога СССР[59]. Па Канстытуцыі РБ Прэзідэнт з'яўляўся кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады і валодаў значнымі паўнамоцтвамі. Але і парламент (Вярхоўны Савет) быў надзелены дастатковай уладай. Такі тып дзяржаўнага ўладкавання прадугледжваў, як правіла (напрыклад у ЗША), кансенсусны характар адносін паміж парламентам і прэзідэнтам і высокую ступень незалежнасці і адказнасці абедзвюх галін улады.

Па-за ўсялякім сумненнем прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь было сімвалічным эпізодам палітыка-культурнага дыскурсу гэтага перыяду. Ужо само па сабе яе з'яўленне было актам палітычнай культуры, у якім знайшлі адлюстраванне гістарычныя традыцыі беларускага народа, яго прыналежнасць да Еўропы і прыхільнасць да дэмакратыі. Гэтым актам завяршаўся «падрыхтоўчы клас» беларускай дэмакратыі (абвяшчэнне асноўных дэмакратычных інстытутаў) і пачынаўся новы этап – замацаванне яе інстытутаў.

### 3. Трэці культурны праект. «Імператарскае прэзідэнцтва»

Канцэптуальныя напрацоўкі транзіталогіі апошніх гадоў уводзяць у даследчыцкі арсенал два ключавыя паняцці – «transition» і «consolidation». Сэнс першага з іх можа быць растлумачаны як «пераход да дэмакратыі», а другога – прыблізна як «замацаванне» ці «усталяванне дэмакратыі»[60]. Па сутнасці, «усталяванне дэмакратыі» прадугледжвае доўгатэрміновую работу ўсіх галін улады, сфарміраваных у адпаведнасці з Канстытуцыяй па пабудове новай канстытуцыйнай прасторы, гатоўнасць грамадства прытрымлівацца ўстаноўленых правілаў. Ва ўмовах адсутнасці ў насельніцтва Беларусі адпаведнай культуры законапаслухмянасці, але адначасова прысутнасці звычкі ўладапаслухмянасці, схільнасці да канфармізму, асобая адказнасць ускладалася на ўладную эліту.

Першыя прэзідэнцкія выбары ўмацавалі значныя паўнамоцтвы на ажыццяўленне культурнага праекта за прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкам, які стаў пераможцам у своеасаблівым конкурсе праектаў. Адпаведная заяўка на прэзідэнцкую пасаду была зроблена ім загадзя ў сувязі з яго дакладам на сесіі Вярхоўнага Савета XII склікання аб антыкарупцыйнай дзейнасці. Вынікам гэтага даклада стала зняцце Шушкевіча з пасады Старшыні Вярхоўнага Савета, у чым былі ў роўнай ступені зацікаўлены і даўно канкурыраваўшы з ім Кебіч, і набіраючы сілу Лукашэнка.

Сімвалічнае значэнне гэтага акта аднак прасціралася значна далей простых кадравых перастановак у вышэйшым эшалоне ўлады і асабістай драмы спікера. Разам з дыскрэдытацыяй Шушкевіча ўзнікала небяспека дыскрэдытацыі і ліквідацыі той культурнай прасторы, адным з аўтараў якой ён з'яўляўся. Як паказалі далейшыя падзеі, гэтыя апасенні былі не дарэмнымі. Палітыка Шушкевіча паступова стала інтэрпрэтавацца як «злачынны нацыяналізм»; Шушкевіч нясе адказнасць за развал СССР (адзін з трох «белавежскіх зубраў»). Вербальныя сімвалы той палітыкі – «памяркоўнасць», «згода», «незалежнасць» – набылі пазней у выкананні Лукашэнкі выключна іранічна-насмешлівае і асуджаючае адценне.

Такім чынам, у культурным праекце Лукашэнкі канцэпцыя Шушкевіча, уключаючы яе асноўныя элементы – незалежнасць, нацыянальную сімволіку, беларускую мову і, у канчатковым выніку, парламент, заняла месца антытэзы. У той жа час у ім прысутнічалі запазычанні з праекта Кебіча, якія тычыліся інтэграцыі з Расіяй, аднаўлення былых саюзных сувязяў, а таксама некаторыя пункты аб роўных «умовах для дзяржаўнага і прыватнага сектараў эканомікі». У цэлым уся канструкцыя з'яўлялася дастаткова эклектычнай і папулісцкай, сутнасць праекта, аднак, вызначалі формулы: «барацьба з карупцыяй», «вяртанне нарабаванага», «навядзенне парадку», «аднаўленне саюзных сувязяў». Стылістыка праекта, такім чынам, вызначалася барацьбой, рэстаўрацыяй, парадкам.

У сітуацыі эканамічнага крызісу і расчаравання грамадства такі праект не толькі адпавядаў грамадскім настроям, але і быў адэкватны выканаўчаму майстэрству аўтара. Па-першае, ён адпавядаў настроям большай часткі грамадства, жадаючай вяртання да савецкіх, адносна дабрабытных часоў. Па-другое, не патрабаваў асабліва складаных мадэрнісцкіх праектаў і рэфарматарскіх намаганняў, а тым самым вызваляў аўтара праекта ад асабістай адказнасці за рэформы. Па-трэцяе, яго ажыццяўленне на практыцы не патрабавала вялікай працы, паколькі ў многім засноўвалася на вядомых нормах і стэрэатыпах паводзінаў, меўшых савецкую апрацоўку (у адрозненне, скажам, ад «шокавай тэрапіі» Бальцэровіча ці лібералізацыі па-гайдараўску). Па-чацвёртае, праект валодаў значнай ідэалагічнай і палітычнай мабільнасцю, паколькі дазваляў знаходзіць усё новыя і новыя аб'екты барацьбы, перакладаючы на іх віну за правалы у палітыцы, а таксама ўзмацняць кантроль за грамадствам і абгрунтоўваць пашырэнне ўладных паўнамоцтваў неабходнасцю навядзення парадку ў краіне і ўмацавання стабільнасці.

Такім чынам, рэстаўратарскі праект Лукашэнкі быў скіраваны на рэанімацыю савецкага традыцыяналізму і выкарыстанне яго мабілізацыйнага рэсурсу. У гэтай сувязі варта згадаць, што Беларусь была адной з найбольш дабрабытных і практычна самай мадэрнізаванай рэспублікай у былым СССР (маецца на ўвазе ўзровень урбанізацыі, адукацыі, індустрыялізацыі і г.д.). Да таго ж беларуская адметнасці савецкіх традыцый фарміраваліся пад уплывам пасляваеннай мадэрнізацыі. Аднак, як і ў многіх іншых постсацыялістычных краінах, працэс мадэрнізацыі ў Беларусі меў толькі частковы характар: не кранаў асновы грамадзянскай супольнасці, не заахвочваў прыватную ініцыятыву чалавека, іншымі словамі, быў «мадэрнізацыяй без прыкметаў мадэрнізацыі» (Дарэндорф)[61].

Вяртанне да савецкага традыцыяналізму адначасова рэанімавала і каштоўнасці савецкай мадэрнізацыі з усімі яе кіраўнічымі схемамі. Ва ўмовах аднаўлення колішняй сістэмы адносін, заснаванай на, большай часткай, пазаэканамічным прымусе, адміністраванні, умацаванні ролі дзяржавы, адпадала неабходнасць у дэмакратычных інстытутах. Больш за тое, іх вызначанасць у сэнсе грамадскага і палітычнага плюралізму перашкаджала аднаўленню адзінага цэнтра ўлады і падпарадкаванню яму ўсяго грамадскага арганізма. Таму ажыццяўленне праекта на практыцы дэманстравала пастаяннае імкненне да рэдукцыі дэмакратычнай прасторы.

Такім чынам, дэмакратыя і рэтрапраект Лукашэнкі, знаходзячыся ў розных культурных дыскурсах, абавязкова павінны былі ўступаць паміж сабой у канфлікт. Ён можа быць ідэнтыфікаваны як канфлікт паміж дэмакратыяй і аўтарытарызмам з тэндэнцыяй да таталітарных праяўленняў (гл. схему). Немалаважная дэталь – тое, што тэндэнцыя развіцця гэтага канфлікту знаходзіцца ў плоскасці яго радыкалізацыі і тое, што змяшчэнне аўтарытарызму да крайняй кропкі каардынат выходзіць за межы сутнасці праекта і не з'яўляецца адказам на дэмакратычны ўціск, а толькі адлюстроўвае асабістыя імкненні яго аўтара.




Запланаваны як чыста аўтарытарны, праект Лукашэнкі ніяк не сумяшчаўся з рамкамі Канстытуцыі, па якой ён быў выбраны прэзідэнтам, і выканання якой ад яго чакалі іншыя галіны ўлады. Іх спробы (парламента, Канстытуцыйнага Суда) вярнуць прэзідэнта ў канстытуцыйнае поле не маглі мець поспеху, бо ён працаваў у парадыгме ўласнага праекта, стылістыка якога не прадугледжвала шматлікія ўзгадненні і кампрамісы. Больш за тое, «чысціня» стылю патрабавала ліквідацыі гэтых працэдур як чужародных дэмакратычных запазычанняў.

Канфлікт паміж дэмакратыяй і аўтарытарызмам вырашыўся даволі радыкальна – прэзідэнтам быў прапанаваны новы варыянт Канстытуцыі, у якім пры знешнім захаванні прыкметаў дэмакратыі практычна зніклі размежаванне ўладаў, іерархія юрысдыкцыі, а значыць, і гарантыя правоў і свабод грамадзян. У той жа час прэзідэнт атрымліваў неабмежаваную прастору для манеўра, вызваляючы сябе ад якіх-небудзь сур'ёзных стрымванняў і процівагаў. Шматлікія міжнародныя эксперты, прыцягнутыя для ацэнкі праекта прэзідэнцкай Канстытуцыі, былі адзіныя ў меркаванні, што гэты яе варыянт дае «практычна неабмежаваныя, некантралюемыя правы Прэзідэнту ствараць, скасоўваць і пераўтвараць дзяржаўныя органы», «што канстытуцыйныя механізмы адкрытыя для маніпуляцыяў з боку Прэзідэнта», што праект устанаўлівае «рэжым персанальнай улады» і «канстытуцыйную аснову для дыктатуры»[62].

Тым не менш пры вельмі жорсткім супрацьстаянні галін улады новы варыянт Канстытуцыі быў прыняты на рэферэндуме з нязначнымі касметычнымі «дапрацоўкамі», якія дазволілі яму займець знешне больш «добрапрыстойную» форму. Ён цалкам змяняў мадэль палітычнай сістэмы. Калі старая мадэль ідэнтыфікавалася як прэзідэнцкая рэспубліка, дык новая па асноўных параметрах была бліжэй да прэзідэнцыялізму з моцным ухілам у бок персаніфікаванага аўтарытарызму, які, «як правіла, стараецца замацаваць знікненне рэспублікі, г.зн. інстытуцыянальнай улады, падпарадкаванай безасабовасці і ўсеагульнасці прававой нормы»[63].

Французскі палітолаг і прававед Ж.-Л.Шабо назваў формулу прэзідэнцкага праўлення у ЗША «імператарскім прэзідэнтствам»[64], маючы на ўвазе важкасць паўнамоцтваў і ярка адлюстраваную сімвалічнасць фігуры прэзідэнта у ЗША. Прымаючы гэты вобраз, неабходна ўлічваць, што ключавым словам у ім з'яўляецца слова «прэзідэнцтва», у якім заключана спецыфіка аднаго з дэмакратычных інстытутаў з усімі яго атрыбутамі. У выпадку з палітычным рэжымам Беларусі зусім магчыма скарыстаць названую формулу, змяшчаючы націск на слова «імператарскае», сэнс якога ў знікненні інстытуцыянальных прыкметаў дэмакратыі і акцэнтаванні персанальных валявых пачаткаў кіраўніка дзяржавы.

Такім чынам, у Беларусі не ўдалося забяспечыць «consolidation» выбраных на дэмакратычнай аснове інстытутаў улады. Яна атрымалася «змытай» назад, у ранейшы аўтарытарны стан «адкатнай хваляй»[65]. І гэта здарылася не толькі таму, што галоўны архітэктар культурнай прасторы быў найбольш зацікаўлены ў аўтарытарнай рэстаўрацыі і не ведаў іншага спосабу рашыць неадкладныя сацыяльна-эканамічныя праблемы, але і таму, што такі спосаб быў найбольш прымальны для большай часткі насельніцтва, і таму, што сярод іншых прэтэндэнтаў не аказалася дастойнага праекта, як і дастойнага лідэра.

У выніку канстытуцыйных мадыфікацый палітычнай уладай была як бы адобрана мадэль адпаведнай палітычнай культуры і праецыруемы ёю тып асобы. Гэта мадэль традыцыяналісцка-падданіцкай аўтарытарнай культуры, арыентаванай на падтрымку сістэмы, моцнай улады ў традыцыях савецкага этатызму і калектывізму. Аўтарытарны тып асобы, складаючы апору рэжыму, даволі добра апісаны ў літаратуры[66]. Асноўнымі структурнымі элементамі гэтага тыпу з'яўляюцца арыентацыя на моцную ўладу, падпарадкаванне і прыхільнасць гэтай уладзе, чаканне ад яе заступніцтва, мабілізацыя актыўнасці ў адпаведнасці з заклікамі ўлады, штодзённы канфармізм і палітычная адмежаванасць, дваядумства, прыхаваная агрэсія.

Ажыццяўленне праекта «імператарскага прэзідэнцтва» Лукашэнкі залежыць як ад унутранага рэсурсу стварэнай ім сістэмы, так і ад легітымізацыі яе ў грамадстве, паколькі вырашэнне канфлікту паміж дэмакратыяй і аўтарытарызмам на карысць аўтарытарызму з'яўляецца вынікам толькі аднаразовага попыту на яго з боку грамадства.

## Фатальнасць пройдзенага ці канфлікт для будучыні?

Да якога свету будзе належаць Беларусь? Ці пачне беларускае грамадства адлік крокаў ад аўтарытарызму да дэмакратыі? Якая ідэнтычнасць стане рашаючай у кансалідацыі беларускага грамадства? Адказы на гэтыя пытанні ўяўляюцца складанымі, аднак не фатальна рытарычнымі. Яны цалкам вызначаюцца тымі трансфармацыямі, якія адбываюцца у сістэме каштоўнасцяў і арыентацыяў беларускага грамадства.

Па выніках аднаго з найбольш шырокамаштабных даследаванняў каштоўнасных арыентацыяў, праведзенага прафесарам Мічыганскага універсітэта Р.Інглехартам у 43 краінах свету і ахапіўшага 70% іх насельніцтва, культурнагеаграфічны пункт Беларусі атрымаўся размешчаным амаль у ніжняй частцы квадрата, абмежаванага восямі «каштоўнасці беднасці» (даіндустрыяльнае грамадства) і «рацыянальна-легальныя арыентацыі». Пры гэтым у момант фіксацыі (апытанне 1990–91 гг.) яна займала пазіцыю, блізкую да такіх краін, як Расія, Балгарыя, Літва, Латвія[67]. Змены, якія адбыліся за апошні час, з'явіліся крыніцай узрастаючай каштоўнаснай дыферэнцыяцыі беларускага грамадства, якая вызначыла ў цэлым сучасную карціну лакалізацыі розных тыпаў палітычнай культуры.

Абапіраючыся на разнастайныя даныя сацыялагічных даследаванняў апошніх гадоў, можна з пэўнай доляй даста額вернасці акрэсліць арэалы распаўсюджвання наяўных тыпаў палітычнай культуры, атрымаўшы ў цэлым уяўленне аб магчымых напрамках грамадскіх зменаў і верагодных канфліктных лініях. У найбольш разгорнутам выглядзе аксіяметрычны зрэз беларускага грамадства і фрагментацыі культуры атрыманы ў межах даследаванняў, праведзеных НІСЭПД. Іх вынікі даюць дастаткова рэлевантную карціну размежаваных каштоўнасных ліній. Так, каштоўнасці этатычнага, антырыначнага, ураўняльнага кансерватыўнага парадку («каштоўнасці беднасці»), арыентацыю на ўсялякую інтэграцыю і аднаўленне «вялікай краіны» падтрымліваюць у асноўным так званыя «слабые» сацыяльныя групы (узрост ад 50 гадоў і больш; маючыя нізкія і вельмі нізкія даходы і матэрыяльны стан на ўзроўні беднасці або ніжэй сярэдняга; адукацыю – да 4-х ці да 8-мі класаў; сацыяльны статус – пенсіянеры, некваліфікаваныя рабочыя, хатнія гаспадыні, якія жывуць ў асноўным у сельскай мясцовасці і пераважна ў Магілёўскай, Гомельскай, Віцебскай абласцях). Для іх характэрна нецярпімасць, тлумачэнне няўдач знешнімі акалічнасцямі ці «падкопамі ворагаў», моцныя арыентацыі на дзяржаўную падтрымку, нізкая каціроўка такіх каштоўнасцяў, як свабода, правы чалавека, дэмакратыя, свабода выбару перакананняў і паводзін, уменне лічыцца з поглядамі іншых[68]. Гэтыя групы на сёння складаюць асноўную электаральную базу прэзідэнта Лукашэнкі, з'яўляючыся апорай яго культурнага праекта. Яны выяўляюць тып патрыярхальна-падданіцкай культуры.

Другі сацыяльны масіў прадстаўлены дастаткова шматлікай прамежкавай групай, якая вызначаецца тыпам падданіцкай культуры. Арыентацыі гэтай групы маюць у асноўным змешаны і часта супярэчлівы характар, напрыклад рыначная эканоміка – і моцны кантроль дзяржавы, правы чалавека – і непрымальнасць апазіцыі, дзеянні якой трэба абмежаваць, і г.д. Гэтую групу ў асноўным складаюць людзі ва ўросце паміж 40 і 50 гадамі, маючыя здабытак сярэдні ці «на мяжы беднасці», сацыяльны статус – працоўныя сярэдняй кваліфікацыі, частка інтэлігенцыі, служачыя (у асноўным катэгорыя бюджэтнікаў), беспрацоўныя. Асноўнымі арыентацыямі гэтай групы з'яўляюцца лаяльнасць да сістэмы, канфармізм, выжывальнасць, непрыняцце радыкальных перамен.

Каштоўнасці іншага характару дэманструюць прадстаўнікі так званых актыўных, лідэрскіх груп[69]. Іх арыентацыі ідэнтыфікуюцца у тыпе актывісцка-падданіцкай культуры з тэндэнцыяй да фарміравання новай грамадзянскай культуры, адной з адметных прыкметаў якой з'яўляецца інстытуалізацыя свабоды выбару і адказнасці, уключаючы адказнасць улады, а таксама законнасць і правы чалавека. Для гэтай групы больш характэрная прыхільнасць да ідэяў рыначнай эканомікі і незалежнага дзяржаўнага развіцця.

Аўтары канцэпцыі грамадзянскай культуры, забяспечваючай стабільнасць дэмакратыі, амерыканскія даследчыкі Г.Алмонд і З.Верба, падкрэслівалі, што няма універсальных рэцэптаў яе з'яўлення. Аднак яна як «культура памяркоўнасці» прадугледжвае пашырэнне магчымасцяў удзелу чалавека ў палітычным працэсе, які ніяк не разбурае падданіцкія арыентацыі. Аснова, на якой яна ўзнікае, – гэта «адначасовае развіццё пачуцця нацыянальнай ідэнтычнасці, кампетэнтнасці як у якасці падданага, так і ў якасці ўдзельніка, а таксама сацыяльнага даверу і грамадзянскага супрацоўніцтва»[70].

З гэтага пункту гледжання для ідэнтычнасці Беларусі знакавым аказваецца лідэрства Лукашэнкі. З аднаго боку, дзейнічаючы ў межах свайго праекта, ён усяляк абмяжоўвае сферу аўтаноміі грамадства, аддаючы перавагу рызыцы адкрытай канкурэнцыі з ім «кантрольнаму пакету акцый» дзяржавы ў сферы грамадзянскіх ініцыятыў. Тым самым удзел чалавека ў палітычным працэсе звужаецца ў асноўным да функцый падданага, а значыць, знікае і прастора для грамадзянскага супрацоўніцтва. З другога боку, ён пастаянна правакуе «эмацыянальную прыхільнасць да сістэмы», (а больш дакладна – да сябе і той сістэмы, якую ён увасабляе) і «адзінства» грамадзян на сімвалічным узроўні. Актыўная трансляцыя і засваенне тыражаваных сімвалаў, іх вартасная вызначанасць прыводзяць да стварэння першага ўзроўню нацыянальна-дзяржаўнай ідэнтычнасці (няважна, што ляжыць у ягонай аснове, згода ці адмаўленне гэтых сімвалаў). Такім чынам, упершыню за многія дзесяцігоддзі Лукашэнка выклікае эфект ідэнтыфікацыі беларусаў на ўзроўні ўласнай дзяржавы. У сітуацыі персаніфікаванага і ў большай меры адмоўнага вобраза Беларусі у свеце, псіхалагічнай канфрантацыі з многімі краінамі беларусы пачынаюць усведамляць, што у іх ёсць свой твар. Вынікі апошняга сацыялагічнага апытання НІСЭПД у межах праекта «Пераадоленне антырыначных стэрэатыпаў у посткамуністычнай Беларусі» паказалі, што 85,4% апытаных лічаць, што Беларусь павінна быць суверэннай дзяржавай[71]. І гэта нягледзячы на тое, што саюзніцкія чаканні (маецца на ўвазе Саюз Беларусі і Расіі) яшчэ ўплываюць на выбар, які фарміруецца. З Саюзам Беларусі і Расіі значная частка насельніцтва дагэтуль звязвае свае спадзяванні на паляпшэнне жыцця (па розных апытаннях, ад 53,6 % да 57,4%[72]). Аднак у сённяшняй сітуацыі яны з'яўляюцца хутчэй механізмам псіхалагічнага камфорту, а таксама адлюстраваным вынікам маніпуляцыйнай палітычнай практыкі, чым сведчаннем рэальнай бездапаможнасці. Падцвярджэннем гэтаму з'яўляюцца меркаванні грамадзян аб неабходнай ступені інтэграцыі ў рамках Саюза. Яны абмяжоўваюцца сёння эканамічнай інтэграцыяй, агульнай валютай і агульнай аховай межаў. Пры гэтым 39,0% падкрэсліваюць нізкую эфектыўнасць Саюза, а 23,0% сцвярджаюць, што такога Саюза зусім няма[73].

Першапачатковы вопыт дзяржаўнай ідэнтыфікацыі адметны тым, што стварае неабходную ўмову для ажыццяўлення дэмакратыі, у якасці якой заўсёды выступае дзяржава як спалучэнне дэмасу[74]. Менавіта ў самастойнай дзяржаве на ўзроўні кожнадзённага плебісцыту (Э.Рэнан) могуць развіцца акрэсленыя вышэй каштоўнасныя канкурэнцыі і ажыццявіцца пераход ад «каштоўнасцяў беднасці» да «каштоўнасцяў мадэрнізацыі і багацця». З гэтага пункту гледжання можна прызнаць правамернасць «прэзумпцыі невінаватасці» Лукашэнкі як лідэра, які выкарыстоўвае «наяўныя рэсурсы для развіцця сацыяльнай сферы», «падаўляе падрыўныя рухі» і «не песціць дэмакратычныя тэндэнцыі»[75]. У той жа час ідэалогія і практыка месіянства і экспансіянісцкія памкненні беларускага лідэра (аб'яднанне славян, праваслаўна-славянскія саюзы, прэтэнзіі на расійскую прастору, актыўнае асваенне вектара ўсходняй палітыкі) уяўляюць пагрозу размывання складнікаў дзяржаўнай ідэнтычнасці Беларусі і працяглага захавання яе status quo ў якасці «нясцверджанай дэмакратыі» ці «гібрыднай дзяржавы» (паўаўтарытарнай-паўдэмакратычнай)[76]. На карысць такога сцэнарыя развіцця падзей гаворыць і адсутнасць у яе колькі-небудзь істотных дэмакратычных традыцый, і «вяласць» грамадзянскай супольнасці, і ўсё большая інстытуалізацыя таго «працэдурнага мінімуму» дэмакратыі, які выконвае ролю засцерагальнага клапана рэжыму для сусветнай супольнасці і найбольш актыўных грамадскіх груп.

Шэраг даследчыкаў, Якія вывучаюць трансфармацыю каштоўнасцяў у краінах транзіцыі, устанавілі, што з улікам рознай хуткасці практычна ва ўсіх краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы адбываюцца прыблізна аднолькавыя працэсы змены палітыка-культурных парадыгм грамадскай свядомасці[77]. І ў гэтым сэнсе драму Беларусі наўрад ці можна аднесці да разраду безнадзейна-трагічных сюжэтаў.

---

[1] Гл.: Bayart J.-F. L'illusion identitaire: Fayard, Paris, 1996; Grosser A. Les identites difficilies. Paris, 1996; Linz J., and Stepan A. Problems of Democratic Transition and Consalidation. Southern Europe, South America, and Post-Communist Europe. Baltimore,1996; Разуваев В.В. Национальная идентичность и внешняя политика России// Кентавр, 1993, №5. С.3–15 і інш.

[2] Almond G., Verba S. The Civic Culture Revisited. Boston,1980. P.19.

[3] Гл.: Szucs J. Les trois Europes: L'Harmattan, Paris. 1985. P.108.

[4] Газета «Нью-Йорк Таймс» вельмі рэзка выказалася з гэтай нагоды, назваўшы Беларусь «страной, праклятай геаграфіяй і гісторыяй» (гл.: Гапова Е. Беларусь: от советского правления до ядерной катастрофы // Свабода. 1997. 2 верасня).

[5] Аўтар гэтага артыкула з'яўляецца каардынатарам данага праекта па Беларусі.

[6] Гл.: Ігнатоускі У.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. 5-е выд. Мінск, 1991. С. 126–128.

[7] Гл.: Хантингтон С. Запад уникален, но не универсален// Мировая экономика и международные отношения. 1997. №8. С.86.

[8] Гаджиев Д.А. Размышления о политической культуре современной России// Мировая экономика и международные отношения. 1996. №2. С.28.

[9] Гл.: Оболонский А.В. Драма российской политической истории: система против личности. М.: Институт государства и права РАН, 1994.

[10] Былі перыяды, калі войны на тэрыторыі Беларусі працягваліся некалькі дзесяткаў год з кароткімі перапынкамі. Практычна ў гісторыі Беларусі нельга адшукаць 30-40 год, якія не былі б адзначаны вайной (за выключэннем апошняга дзесяцігоддзя).

[11] Русская энциклопедия. СПб., 1907. Т.3. С.401.

[12] Там сама. С.401.

[13] Гл.: Коялович М.О. Чтения по истории Западной России. Изд. 4-е. СПб., 1884.

[14] Гл.: Гісторыя Беларусі. Пад рэд. А.Г.Каханоўскага і інш. Мн.,1996. С.195,399.

[15] Сведкі расказваюць гісторыю часоў вайны 1812 г., быццам Напалеон спыніў на дарозе жанчыну і спытаў у яе, за каго яна ў гэтай вайне?. На што жанчына адказала: «Ды я б хацела, каб француз, заняўшы Маскву, пагнаў, пагнаў, ды і сам не вярнуўся!..» (Гісторыя Беларусі. Мн., 1996. С.195.). Адказ жанчыны можна разумець як жаданне, каб французы разбіраліся з Масквой (Расіяй) самі па сабе, а народ жыў сам па сабе, без адных і другіх.

[16] Гл.: Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов: В 4-х т. Мн., 1961. Т.3; 1979. Т.4; Мазинг Г.Ю., Ерусалимчик Л.Ф. Березина, год 1812-ый. Мн., 1991; Доўнар-Запольскі М.В. Асновы дзяржаўнасці Беларусі. Мн., 1994; Долготович Б.Д. Беларусь в годы Великой Отечественной войны в вопросах и ответах. Мн., 1994; Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Мн., 1993.

[17] Гл.: Тарасаў С. Адкуль прыйшло хрысціянства ў Беларусь? //Полацк, 1991, № 10; Анціпенка А. Еўрапейскасць і хрысціянская ідэя беларускасці // Беларусіка - Albaruthenica: Кн. 2. Мн., 1992. С.260-261; Зайкоўскі І. Роля канфесійнага фактару ў нацыянальнай свядомасці беларусаў // Беларусіка - Albaruthenica: Кн. 2. Мн., 1992. С.263–264 і інш.

[18] Кіштымаў А. Менталітэт беларусаў вачамі рускага // Беларусіка -Albaruthenica: Мн., 1992. С.203–204.

[19] Бердяев Н.А. Философия свободы. М., 1989. С. 167.

[20] Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1989. С.66.

[21] Абдзіраловіч І. Адвечным шляхам. Мн., 1993. С.9, 15.

[22] Гл.: Бердяев Н. Русская идея: Основные проблемы русской мысли XIX и нач. XX в. Париж, 1946. С.5-7.

[23] Люкс Л. Евразийство // Вопросы философии. 1993. № 6. С.202.

[24] Гл.: Евразийство. Декларация. Формулировка. Тезис. Берлин. 1926, С.3.

[25] Трубецкой Н. Наследие Чингисхана // Вестник МГУ. Сер. «Социально-политические исследования». 1991, № 4. С.40.

[26] Дубянецкі Э. Мэнталітэт беларусаў: спроба гісторыка-псіхалагічнага аналізу // Беларусіка - Albaruthenica: Кн.2. Мн., 1992. С.195.

[27] Бердяев Н. Истоки и смысл русского коммунизма. М., 1990. С.9.

[28] Гл.: Русская идея. М., 1992. С.322.

[29] Бутенко А.П., Колесниченко Ю.В. Менталитет россиян и евразийство: их сущность и общественно-политический смысл //Социологические исследования. 1996. №5. С.98.

[30] Гл.: Ігнатоўскі В. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі . Мн., 1991;Станкевіч А. Хрысціянства і беларускі народ. Вільня, 1940; Лыч Л. Рэлігія і нацыянальная самасвядомасць беларусаў. Беларусіка –Albaruthenica: Кн. 2. Мн., 1992. С.59–68.

[31] З 1797 г. расійскі імператар афіцыйна лічыўся кіраўніком рускай праваслаўнай царквы. Гл. таксама: Хаўстовіч М. Скасаванне уніі / З гісторыяй на «Вы». Мн., 1994. С.107–117.

[32] Минская старина. Мн., 1911. Вып. 11. С. 4– 9.

[33] Нарысы гісторыі Беларусі. У 2-х частках. Ч.1. Мн., 1994. С.334.

[34] Гл.: Оболонский А.В. Драма российской политической истории:система против личности. М., 1994. С.15–16.

[35] Гл.: Грыгор'ева В. Каталіцкае духавенства ля вытокаў беларускага адраджэння // Беларусіка - Albaruthenica: Кн. 2. Мн., 1992. С.293–297.

[36] Гл.: Марцуль Г.С., Сташкевіч М.С. Гісторыя Беларусі: Насельніцтва. Фарміраванне і вызначэнне этнічных і дзяржаўна-адміністрацыйных межаў. Беларускае замежжа. Мінск, 1997. С. 51, 55.

[37] Дубовец С. Белорусы уходят... // Неман. 1991. № 10. С.189.

[38] Шевцов Ю.В. Особенности социально-политической структуры и геополитического положения Беларуси // Belarus-Monitor. Специальный выпуск. 1997, февраль. С.57.

[39] Зам А. Политические опыты построения белорусской идентификации.; Ralph S. Clem, *Belorussians, in:* Graham Smith (ed.), The Nationalities Question in the Soviet Union. New York–London 1990. P. 109-122.

[40] Некаторае павышэнне матэрыяльнага становішча адзначалася ў другой палове 60-ых – сярэдзіне 70-ых гг. К гэтаму часу нацыянальны даход БССР павялічыўся амаль у 2 разы, адпаведна значна павялічыліся і тэмпы росту заработнай платы. У 1976 г. у БССР быў дасягнуты сярэднесаюзны ўзровень па выпуску прамысловай прадукцыі на душу насельніцтва (а сельскагаспадарчай быў вышэй у 1,5 раза). Нягледзячы на зніжэнне ў канцы 70-ых гг. усіх вытворчых паказчыкаў, да 1985 г. рэальныя даходы на душу насельніцтва ў Беларусі былі вышэй, чым у цэлым у СССР.

[41] Тиммерманн Х. На пути к авторитаризму? // Мировая экономика и международные отношения. 1997. № 7. С.82.

[42] Шырокі грамадскі рух, узнікшы ў 1988 г. на хвалі перабудовы, унёсшы значны ўклад у выкрыццё сталінскіх рэпрэсій і ў распаўсюджванне праўды пра Чарнобыльскую катастрофу. БНФ узначальвае вядомы лідэр нацыянальнага адраджэння З.Пазняк.

[43] Гл.: Мацкевич В.В. Белорусская демократия: вопреки очевидности. Минск, 1996. С.114.

[44] У жніўні 1991 г. у верхніх эшатонах улады СССР быў створаны так званы Дзяржаўны камітэт па надзвычайнаму становішчу, які ставіў за мэту змяшчэнне Гарбачова і правядзенне антырэфарматарскага курсу.

[45] Гл.: Какой мы видим нашу Беларусь. Мн., 1993. С.30,37.

[46] Апытанне, праведзенае беларускай службай «Грамадская думка» ў кастрычніку 1992 г., выявіла, што большасць насельніцтва, 55,5%, мела цягу да той ці іншай формы саюза – у якасці шляху развіцця Беларусі (25,6% жадалі ператварыць СНД у новы саюз, 21,5% – стварыць саюз з Расіяй, 8,4% – стварыць Балта-Чарнаморскі Саюз) і толькі 24,0% – выбралі яе шлях у якасці нейтральнай дзяржавы (астатнія рэспандэнты не вызначыліся).

[47] Гл.: Вайнштейн Г. Посткоммунистическое развитие глазами западной политологии // Мировая экономика и международные отношения. 1997. № 8. С.140.

[48] Гл.: Какой мы видим нашу Беларусь. Минск, 1993. С.5,7,15.

[49] У Беларусі перад прыняццем новай Канстытуцыі актыўна абмяркоўвалася пытанне аб дзяржаўным ладзе рэспублікі. Большасць насельніцтва падтрымлівала форму прэзідэнцкага кіравання – 53,4%, з іх з агаворкамі – 28,4%, 17,7% – у чымсьці падтрымлівалі, а ў чымсьці не. (Гл.: Какой мы видим нашу Беларусь. Минск, 1993. С.37–39).

[50] У 1994 г. аб'ём прамысловай вытворчасці да ўзроўню 1990 г. склаў 67%, рэальная заработная плата знізілася ў 1994 г. у параўнанні з 1990 г. на 41% (гл.: Линг С. Стратегия государства – достойная жизнь народа // Рэспубліка. 1997. 10 июля. № 127.С.1).

[51] Гл.: Какой мы видим нашу Беларусь. Мн., 1993. С.60, 62, 65; Цэнтральная газета. 1994, 6 мая. №52, С.4.

[52] Пост прэзідэнта прадугледжваецца Канстытуцыяй РБ, прынятай 15 сакавіка 1994 г.

[53] Гл.: Sarah M. Terry. Thinking about Post-Communist Transitions: How Different Are They? // Slavic Review, vol. 52, № 2, 1993, p. 334.

[54] Гл.: Какой мы видим нашу Беларусь. С.65.

[55] Гл.: Brzezinski Z. The Great Transformation // The National Interest. № 33. Fall 1993. P. 4.

[56] Гл.: Абрамова О. Менталитет народа Республики Беларусь и итоги парламентских выборов 1995 года // Belarus-Monitor. 1995, май-июнь. С. 22.

[57] Эбертс П., Кларк П., Эверт М., Касьяненко А. Перспективы создания гражданского общества в Беларуси: развитие плюрализма на местах в бывшем Советском Союзе. Гомель, 1995.

[58] Майсеня А. Дурной пример – другим наука / Народная газета. 1994,14 июля.

[59] Падчас дыскусій пра форму дзяржаўнага ладу ў Беларусі не было моцнага праяўлення грамадскай пазіцыі за прэзідэнцкую ўладу. Шматлікія апытанні паказвалі, что за ўвядзенне паста прэзідэнта выказваліся ад 60% насельніцтва ў 1991 г. да 40-56% на працягу 1992-93 гг., супраць выказваліся ад 30% да 35%. Пры гэтым свае надзеі на паляпшэнне эканамічнай сітуацыі з увядзеннем паста прэзідэнта большасць насельніцтва не звязвала. На гэта спадзяваліся, напрыклад, толькі 28,5% работнікаў прамысловасці, 41,6% студэнтаў, 23,9% старшыняў сельсаветаў (Гл.: Бабосов М. Кто станет президентом? // Цэнтральная газета. 1994, 6 мая. С.3.).

[60] Гл.: Вайнштейн Г. Посткоммунистическое развитие глазами западной политологии // Мировая экономика и международные отношения. 1997. № 8. С.145.

[61] Гл.: Пантич Д. Конфликты ценностей в странах транзиции // Социологические исследования. 1997. № 6. С.29.

[62] Гл.: Основа для диктатуры // Свабода. 1996, №86. С.3.

[63] Шабо Ж.Л. Государственная власть: конституционные пределы и порядок осуществления // Полис. 1993. № 3. С.163.

[64] Там сама. С.160.

[65] Huntington S. The Third Wave. Democratization in the Late Twentieth Century. Norman, p.25.

[66] Гл. например: Adorno T. et. al. The Authoritarian Personality N.Y., Harper, 1950; Greensten F.Personality and Politics. Princeton, 1987; Гозман Л.Я., Эткинд А.М. От культа власти да власти людей// Нева. 1989. №7.

[67] Гл.: Inglehart R. Modification des valeurs, developpement economique et evolution politique // Revue international des sciences sociales. 1995, Septembre. №145. P.449.

[68] Гл.: Манаев О.Т. По тонкому льду/ Белорусская ассоциация фабрик мысли. 1997. Вып.2. С.45–50.

[69] Гл.: Злотников Л. Интересы директоров и власти расходятся/ Новости НИСЭПИ. 1997. Вып.2, июнь. С.26–28.

[70] Алмонд Г., Верба С. Гражданская культура и стабильность демократии// Полис. 1992. №4. С.134.

[71] Злотников Л. Кентавры массового сознания // Белорусский рынок. 1997. №37. С.21.

[72] Гл.: Злотников Л. Кентавры массового сознания // Белорусский рынок. 1997. №37, 22–28 сентября. С.21; Какой мы видим нашу Беларусь? // 7 дней. 1997. №42, 18 октября. С.3.

[73] Там сама.

[74] Гл.: Ян Э. Исследования проблем мира в период и после конфликта «Восток–Запад». М.,1997. С.268–271.

[75] Алмонд Г.,Верба С. Гражданская культура и стабильность демократии// Полис. 1992. №4. С.134.

[76] Гл.: Ванштейн Г. Посткоммунистическое развитие глазами западной политологии // МЭМО. 1997. №9. С.152–153.

[77] Гл.: Пантич Д. Конфликты ценностей в странах транзиции// Социологические исследования. 1997. №6. С.29–31.



*Юры Хадыка,*
*доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар*

# Нацыянальная ідэя і нацыянальныя сімвалы

Нацыянальная ідэя, безумоўна, складанае паняцце. З аднаго боку, яна характарызуе нацыю. Падкрэслівае яе унікальнасць і самабытнасць. Адлюстроўвае яе культурную гісторыю. Фармулюе яе ідэальны вобраз. Змацоўвае і натхняе нацыю на імкненне да гэтага ідэалу. Таму, з другога боку, нацыянальная ідэя – гэта працэс. Працэс станаўлення і развіцця непаўторнай супольнасці, соцыоуму. Бесперапынная калектыўная праца. І змаганне з нутранымі і вонкавымі перашкодамі, у якім нацыянальная ідэя выступае як маяк і сцяг. І, нарэшце, гэта – форма самасцвярджэння. Стварыўшы нацыянальную незалежную дзяржаву, нацыя можа страціць яе. Але адмовіцца ад яе аднаўлення – ніколі. Прыкладна так, як чалавек, які згубіў свабоду, ніколі не ў стане вызваліцца ад мары яе вярнуць.

Нацыянальная ідэя можа быць разгорнутай – стаць тэмаю гістарычных, культуралагічных, палітычных, педагагічных ці філасофскіх трактатаў. Але можа быць і згорнутай. Звядзенай да лаканічных сімвалаў. Прыкладна так, як усё хрысціянскае вучэнне зводзіцца да крыжа – старажытнага сімвала сонца, які стаў сімвалам крыжовай смерці і ўваскрэсення Хрыста. Сімвалам веры і абароны. Таксама і нацыя, стварыўшы дзяржаву, засвойвае дзяржаўныя сімвалы і ператварае іх у сімвалы нацыянальныя, якія і суправаджаюць у далейшым усю гісторыю нацыі. Ускосна сведчачы пра сам факт існавання нацыі і выяўляючы яе нацыянальную ідэю.

Усе гэтыя тэзісы лёгка падмацаваць безліччу гістарычных прыкладаў. Некаторыя з іх выключна цікавыя. Магчыма, не ўсе задумваліся, чаму Гітлер назваў створаную ім дзяржаву Трэцім Рымам? Г.зн. трэцяй імперыяй. І чаму гербам гэтай імперыі стаў чорны арол? Гітлер быў абраны прэзідэнтам дэмакратычнай рэспублікі. Аднак серыяй рэферэндумаў рэспубліку знішчыў. Сканцэнтраваў усю ўладу ў сваіх руках. А захапіўшы сілай землі, якія былі страчаны Германіяй у выніку 1-ай сусветнай вайны, аднавіў Германскую імперыю, створаную Бісмаркам у 70-ыя гады XIX стагоддзя.

Гэтая, другая па падліках Гітлера, імперыя была практычна мананацыянальнай дзяржавай. І, як быццам, імперыяй называцца не мела права. Але ж яна была ўтворана ў выніку захопу Прусіяй цэлага шэрага незалежных нямецкіх дзяржаў. Памяць пра іх колішняе існаванне да сённяшняга дня захоўваецца ў федэратыўнай пабудове ФРГ. Першай жа імперыяй – крыніцай нямецкай вяліка-дзяржаўнай традыцыі – была Свяшчэнная Рымская імперыя германскага народа, якую стварыў Атон І яшчэ ў 10-м стагоддзі і якая існавала да 1806 г., калі была ліквідавана Напалеонам Банапартам.

Слова «Рымская» ў назве імперыі Атона І паказвае на крыніцу гітлераўскай сімволікі. Паколькі ўзорам для ўсіх гербаў з выяваю арла з'яўляецца сімволіка Старажытнага Рыма. Белы арол і чырвоны сцяг былі ягонымі сімваламі. Белы рымскі арол ператварыўся ў чорнага двухгаловага мутанта на сцягах Візантыі – Усходняй Рымскай імперыі, чые ўладанні прасціраліся на двух кантынентах, а сталіца раскінулася на берагах Басфора, які гэтыя кантыненты падзяляў. Пасля гібелі Візантыі ў 1453г. на яе імперскую спадчыну выявіліся ажно тры прэтэндэнты.

Першым, і найбольш натуральным з іх, стала Атаманская імперыя. І туркі, якія захапілі Канстанцінопаль, не спынялі сваёй агрэсіі, пакуль не авалодалі ўсімі землямі, што некалі належалі Візантыі. Але, як мусульман, яны адмовіліся ад сімволікі хрысціянскай імперыі.

Тады і з'явіўся чорны двухгаловы арол на штандарах Свяшчэннай Рымскай імперыі германскага народа, сэрцам якой у 15-ым стагоддзі была Аўстрыя. І калі Бісмарк, які разбіў Аўстрыю, зрабіў аб'яднаную Германію спадчынніцай яе імперскіх амбіцый, чорны (але аднагаловы!) арол стаў гербам Германскай імперыі. Так акольным шляхам чорны арол, згубіўшы адну галаву, даляцеў да гітлераўскага Рэйха. І не згубіць яе ён не мог, таму што існаваў трэці, апошні, прэтэндэнт на імперскую веліч Візантыі, які ўжо завалодаў двухгаловым мутантам.

Яго зрабіў дзяржаўным сімвалам Пётр І, які ў 1721г. дамогся прызнання Расійскага царства імперыяй. Пры гэтым ён адмовіўся ад Георгія-пераможца, што быў раней гербам Вялікага княства Маскоўскага. Арол як сімвал Расіі адрадзіўся пасля 80 год камуністычнага бяспамяцтва, хоць і стаў залатым.

Аднак і белы рымскі арол выжыў. Выжыў у якасці герба Польскага каралеўства, а потым і польскага нацыянальнага сімвала. Што і паказвае на глыбінныя гісторыка-культурныя сувязі польскай дзржаўнасці са старажытнарымскай традыцыяй. Аднак і гэтыя прыклады не вычэрпваюць усіх выпадкаў выкарыстання арла ў якасці нацыянальнага сімвала. Так шэры арол з'яўляецца гербам ЗША. А зусім нядаўна адрадзіўся і чорны двухгаловы арол. Ён стаў гербам Албаніі – краіны, якая апошняя згубіла незалежнасць падчас разгрому Візантыі туркамі 500 год таму!

Беларуская нацыянальная сімволіка ў параўнанні з "арлінай" куды больш арыгінальная. Добра вядома, што "рыцар на кані з мечам" стаў гербам Вялікага Княства Літоўскага і Рускага ў канцы 13 ст. У тыя часы нашыя продкі, вытрымаўшы націск татара-манголаў, распачалі "рэканкісту" – адваяванне паўднёвых земляў Украіны, заселенай аднаверцамі, і аднаўляючы свой кантроль над важнейшым гандлёвым шляхам з поўначы на поўдзень Еўропы.

Як паўстаў гэты сімвал? Хто і чаму даў яму назоў «Пагоня»? Верагодна, мы ніколі не даведаемся дакладных адказаў на гэтыя пытанні. Кампазіцыйна ён блізкі да кананічнай выявы св. Дзмітрыя. Але ж Вялікі князь Віцень, які зрабіў Пагоню сваім гербам, быў паганцам. Таму герб мог быць падказаны вобразам язычніцкага бога Ярылы – бога сонца, волі і вайны. Яго выяўлялі ў выглядзе юнака на белым кані. На карысць гэтай гіпотэзы гаворыць і чырвоны фон беларускага герба. Колеравая сімволіка была ў старажытнасці папулярнай. У славян, як і ў японцаў, сонца было чырвонае. Таму паўднёвая Русь была Чырвонай Руссю.

А белы колер быў сімвалам чысціні, святасці, волі.

Таму паходжанне нашага бел-чырвонага-белага сцяга выглядае значна больш празрыстым. Ягонай першакрыніцай з'яўляецца штандар Хрыста. Той, хто хаця б раз уважліва разглядаў абраз "Уваскрасенне Хрыстова", не мог не заўважыць, што ўваскрэслы Хрыстос трымае ў руцэ белы сцяжок з чырвоным крыжам. Гэты сцяжок стаў сімвалам хрысціянства. Сімвалам, асабліва папулярным на ўскрайках хрысціянскага свету. Так, напрыклад, англійскі нацыянальны сцяг – гэта белае палотнішча з чырвоным крыжам. Не дзіва, што і нашыя продкі, якія ад пачатку 13 ст. да канца 18 ст. знаходзіліся ў бесперапынным збройным кантакце з мусульманскімі краінамі, усведамлялі сябе фарпостам, бастыёнам хрысціянства. Таму і стаў сцяжок Хрыста адзнакаю хрысціянскга воіна. Яго мы бачым на старажытнай карціне, прысвечанай бітве пад Воршай, на дзідах літоўскіх рыцараў.

Але дзяржаўны трохпалосны сцяг даў бел-чырвона-белую камбінацыю. Падобна на тое, як і на святарскіх адзежынах сімвал уваскрэсення Хрыста пераўтварыўся ў бел-чырвона-белую стужку. Пры ўтварэнні канфедэратыўнай Рэчы Паспалітай у 1569г. у якасці сцяга новай дзяржавы была зацверджана простая камбінацыя сцягоў Кароны і Вялікага Княства, што дало чатыры паласы. Дзве белыя і дзве чырвоныя. Аднак ні чырвона-белы польскі, ні бел-чырвона-белы беларускі сцягі не перасталі існаваць.

Беларускія нацыянальныя сімвалы адрадзіліся пры абвешчанні БНР і з таго часу суправаджаюць беларускае нацыянальнае адраджэнне. Глыбока фальшывымі і абразлівымі для нацыянальнай годнасці выглядаюць спробы "манкуртаў" зняславіць гэтыя старажытныя сімвалы – набыткі шматвяковай беларускай гісторыі і культуры.

Бела-чырвона-белая сімволіка праціне ўсю нашу культурную гісторыю. І карані яна мае не толькі хрысціянскія, але і дахрысціянскія. Пакуль не стала модным тынкаваць цагляныя збудаванні, усе культавыя і абаронныя будынкі дэкараваліся белым цэментам ці вапнаю. Ваконныя праёмы, фальшывыя нішы і пілястры "падымаліся" белым колерамі. Дакладна так, як белая сялянская вопратка ўпрыгожвалася чырвоным тканым ці вышытым арнаментам.

Сама гісторыя дала беларусам сапраўды святыя сімвалы – Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг. Яны і ёсць канцэнтраваная і лаканічная ваява нашай нацыянальнай ідэі. Выразна і наглядна адрознай ад "ідэй" суседніх нацый. Нельга ж сур'ёзна прымаць папрок, што і на літоўскім гербе конны ваяр. Літоўцы мелі з намі працяглую агульную дзяржаўнасць. Ды і ваяра свайго яны тактоўна назвалі "Віцязь", а не "Пагоня". Прыхільнікам абсалютнай унікальнасці дзяржаўнай сімволікі трэба нагадаць, калі прыведзеных вышэй прыкладаў недастаткова, што Англія і Масква маюць абсалютна аднолькавы герб – св.Георгія, які паражае цмока.

Затое наш найпрыгожы бел-чырвона-белы сцяг абсалютна унікальны. Ніводная дзяржава ў свеце такога не мае. І для нашага шматканфесійнага народа, які выпакутаваў на шляхах сваёй тысячагадовай гісторыі такую зайздросную і паважаную ва ўсім свеце рысу нацыянальнага характару, як талерантнасць, не можа быць лепшага сімвала. Таму сорамам і фарсам быў першы рэферэндум, арганізаваны А.Лукашэнкам, які праводзіўся на тле "Дзяцей ілжы". Мана бумерангам вернецца да аўтара "ручніка на фоне захаду сонца над дрыгвою" Крыху мадэрнізаваная няўцямная сталінская сімволіка – абраза беларусам. І відавочнае злачынства з боку тых, хто галасаваў за яе вяртанне. Вольна ці міжвольна, з прычыны духоўнай слепаты, яны падтрымалі палітыку "манкуртызацыі".

Манкуртамі назваў цудоўны кіргізскі пісьменнік Ч.Айтматаў людзей, якіх невыноснымі катаваннямі даводзілі да страты памяці. З таго дня, калі нейкі І.Ціцянкоў спусціў з флагштока прэзідэнцкай рэзідэнцыі і разарваў бел-чырвона-белы сцяг, узнавілася гэтае невыноснае катаванне, якое пачаў расійскі царызм і працягвалі бальшавікі. Толькі нездарма гаворыцца: колькі вяровачцы ні віцца, а канец будзе. Будзе і канец палітыцы нацыянальнага нігілізму. Бо нацыянальныя сімвалы валодаюць цудадзейнай сілаю духоўнага лекавання. Праз іх і з іх дапамогаю людзі засвойваюць нацыянальную ідэю. Набываюць самапавагу і веру ў будучыню. Аднойчы вярнуўшыся з небыцця, яны не пакінуць больш свой народ. Гэтага не дазволяць тыя, у каго адкрыліся вочы. Духоўныя вочы, якімі чалавек бачыць ісціну.

Зрэшты, нацыянальнымі сімваламі бываюць не толькі герб і сцяг. Перш за ўсё гэта пабудовы, якія ўслаўляюць краіну і робяцца яе бачным вобразам. Як "Біг-Бэн" – Англіі, Эйфелева вежа – Францыі, Парфенон – Грэцыі, піраміды – Егіпта. Беларусь згубіла многія славутыя помнікі. Ды і сённяшнія нашы збудаванні наўрад ці могуць стаць візітоўкамі Беларусі. Але ж задача выбару і папулярызацыі такога сімвала не ўяўляецца безнадзейнай. У нас захаваліся, да прыкладу, унікальныя цэрквы-крэпасці. Помнікі сівой даўніны, маўклівыя, але выразныя сведкі слаўнай гісторыі. Іх у свеце ўсяго чатыры, і тры – у Беларусі. Цэрквам у Сынковічах і Маламажэйкаве лёгка вярнуць іх першапачатковы выгляд. Калі, зразумела, лёс гэтых помнікаў будзе вырашаны дзяржаваю, а не адной з канкуруючых канфесій.

Часам сімваламі народа і краіны могуць быць выявы жывёл, птушак і нават кветак. Так панда – бамбуковы мядзведзь – асацыюецца з Кітаем, кенгуру – з Аўстраліяй, кляновы ліст – з Канадай, галінка сакуры – з Японіяй і г.д. Ужо даволі ўстойлівымі сімваламі Беларусі сталі зубр і бусел. Нельга сказаць, што гэты выбар дрэнны. Асабліва бусел. Высакародная і грацыёзная бел-чырвоная птушка. Але побач з дзікім зубрам можа быць і конь. У старажытнасці конь быў галоўнаю "прыладай" працы, галоўным транспартным сродкам, асноваю баяздольнасці войска. Была нават асобая – літоўская – парода, якая нарадзіла арлоўскіх рысакоў і будзённаўскую пароду, але знікла сама за часы панавання расійскай улады. Дзіўным чынам ідэолагі АГП сімвалам сваёй партыі выбралі менавіта каня – жывёлу, якая болей за ўсё шанавалася нашымі продкамі.

Беларуская флора вельмі багатая кветкамі. Яшчэ больш іх вырошчваецца на прысядзібных участках і летніках. Але няма больш папулярнай чым васілёк. Гэтая нябесна-блакітная кветка, апетая М.Багдановічам, была асноваю дзявочых вянкоў – неадменнага атрыбута купальскага свята.

Яшчэ за савецкім часам праводзіліся масавыя кампаніі па выбару прыродных сімвалаў радзімы. Яны прыцягвалі ўвагу да яе гісторыі, жывёльнага і расліннага свету. Не пазбаўлены сэнсу такія кампаніі і сёння, калі асэнсаванне і засваенне нацыянальнай ідэі стала агульнаграмадскай задачай. Як бы гэта ні здавалася дзіўным перакананым лібералам, не здолее Беларусь прайсці польскім ці літоўскім шляхам рэформ, пакуль беларусы не будуць таксама трапятліва любіць сваю радзіму, як палякі ці літоўцы сваю.

Гэткага ж масавага абмеркавання заслугоўвае і пытанне пра гімн. Гэтую праблему ўзняў яшчэ ВС 12 склікання, але так і не вырашыў яе. Сённяшні прэзідэнт проста вярнуў гімн непаўнавартаснай, паднявольнай краіны, якой была БССР, чым у чарговы раз абразіў нацыянальныя пачуцці беларусаў. Што, дарэчы, зусім не дзіўна, бо ўся ідэалогія сённяшняй улады антынацыянальная. Гэта праяўляецца і ў вяртанні штучных савецкіх сімвалаў, і ў моўнай палітыцы, і ў прафанацыі беларускай гісторыі і культуры. У арганізацыі і прапагандзе "славянскіх базараў". Хаця татарскае слоўца, выбранае для гэтага быццам бы культурнага мерапрыемства, вельмі дакладнае: дзікі рынак, дзе гандлююць нацыянальнай годнасцю і таннымі выканаўцамі свядома прымітывізаванага відовішча. Відовішча, якое цяжка ўявіць пад знакам "Пагоні".

Лаканізм і выключная эстэтычная чысціня нашых галоўных нацыянальных сімвалаў паўстаюць супроць палітыкі барбарызацыі беларускай культуры, супраць гістарычнага бяспамяцтва. Проста, даходліва і пераканаўча тлумачаць яны сэнс нацыянальнай ідэі. У гэтым і ёсць іх вялікая роля ў беларускім Адраджэнні.